30 студзеня 2015 | № 4 (421)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Плюралізм у адной галаве... стар. 4



# Не ўлезці ў вайну

## Згодна з законам, які ўступіць у дзеянне з 1 лютага, ваеннае становішча ў Беларусі можна ўводзіць хоць зараз



Сяргей ПУЛЬША

Жыццё не стаіць на месцы, і кожны дакумент, а асабліва ваенныя дактрыны, павінны пераглядацца. Таму не дзіва, што ў сувязі з «гібрыдная вайной» Расіі супраць Украіны быў перагледжаны і беларускі закон аб ваенным становішчы.

Па-першае, змены ў закон «Аб ваенным становішчы» закранулі якраз пагрозу «зялёных чалавечкаў» ці «ветлівых людзей». У закон уключаны пункт, згодна з якім такое становішча можа быць уведзена, калі «іншая дзяржава» накіроўвае «ўзброеныя групы і рэгулярныя сілы ці падраздзяленні рэгулярных войскаў» на тэрыторыю краіны. Такія дзеянні будуць афіцыйна лічацца ваеннай пагрозай, дастатковай для ўвядзення ў краіне ваеннага становішча.

Па-другое, закон пашырыў паняцце ваеннай пагрозы, дастатковай для ўвядзення ваеннага становішча. У яго ўвайшлі канцэнтрацыя ўзброеных сілаў іншай дзяржавы ля мяжы Беларусі, калі тая дзяржава кажа пра агрэсіўныя планы, або правядзенне ў ёй мабілізацыі для нападу.

У гэтым законе таксама прапісваецца, што лічыць нападам на Беларусь: не толькі наўпроставыя ці апасродкаваныя баявыя дзеянні супраць Беларусі, але і агрэсія супраць аднаго з удзельнікаў АДКБ (Арганізацыі дамовы аб калектыўнай бяспецы, куды ўваходзяць Арменія, Беларусь, Казахстан, Кыргызстан, Расія і Таджыкістан). А вось з гэтым, як кажуць, «не ўсё чыста».

Прыняцце такой нормы ў той час, калі Расія ваюе з Украінай, і прычым Расія з'яўляецца сябрам АДКБ, адразу ж уздымае шмат пытанняў. Ці абавязаная Беларусь дапамагаць свайму партнёру па АДКБ? Выходзячы з духа дакумента — так, тады мы ўцягваемся ў канфлікт з Украінай. Але фармальна — не, бо на Расію ніхто не нападаў, гэта яна напала на Украіну (абыдземся без эўфемізмаў) і анексавала Крым.

Ва Украіне рэгулярна праводзіцца мабілізацыя, але скіраваная гэтая дзея, зразумела, не супраць Беларусі. Тым не менш, мабілізацыя праводзіцца ў суседняй краіне. Фармальна, гэта ёсць падстава для ваеннага становішча ў нас. А рэальна?

Украінская мабілізацыя скіраваная супраць войскаў Расіі, якая з'яўляецца нашым партнёрам па АДКБ. Такім чынам, прысутнічае «агрэсія Украіны ў адносінах да сябра АДКБ», што, згодна з новым законам, ёсць агрэсіяй і супраць Беларусі. Ізноў, ці ёсць гэта фармальнай падставай для ўвядзення ваеннага становішча ў нас? Тэарэтычна — так, а практычна?

І яшчэ, калі агрэсія супраць сябра АДКБ ёсць агрэсія і супраць Беларусі, ці мае Беларусь права і магчымасць накіроўваць у зону канфлікту свае войскі для барацьбы з агрэсарам? Ці не прывядзе гэта да таго, што, паводле свайго ж закону, Беларусь будзе абавязаная адкрыць «другі фронт» з Украінай на баку Расіі, альбо ізноў адпраўляць сваіх сыноў у Таджыкістан на афганскую мяжу, калі там, не дай Божухна, нешта заварыцца?

Кіраўнік праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў зазначыў, што абноўлены закон «Аб ваенным становішчы» даволі размыты, а таму дазваляе трактаваць яго палажэнні «і так, і так». «Напрыклад, што ёсць «агрэсіяй супраць сябра АДКБ»? З аднаго боку, гэта пытанне да юрыстаў-міжнароднікаў, што з'яўляецца агрэсіяй па вызначэнні ААН, якая дзяржава ёсць агрэсарам, а якая — ахвярай агрэсіі. З іншага боку, не прапісана агрэсія з боку «не-дзярджаваў». Калі агрэсію супраць сябра АДКБ — Таджыкістана ўчыніць «Талібан», ці ёсць гэта падстава для рэакцыі Беларусі? А калі талібы прыходзяць да ўлады ў Афганістане? Мы не прызнаем «Талібан», ці з'яўляецца тады агрэсарам Афганістан? Такіх момантаў у новым законе вельмі шмат», — адзначае эксперт.

> **Любое рашэнне, прынятае ў межах гэтага закона, будзе палітычным**

Што тычыцца сітуацыі «бліжэй да нас», то, па меркаванні Паротнікава, усё таксама залежыць ад суб'ектыўных фактараў і дадзеных выведкі. «Напрыклад, мабілізацыя ва Украіне скіраваная ў супрацьлеглы ад Беларусі бок, і нельга казаць, што Украіна сапраўды пагражае нам. Мабілізацыя, напрыклад, у Латвіі, — справа іншая. Трэба вывучаць, для чаго яна робіцца: для нападу, для правядзення вучэнняў, ці ёсць гэта планавы прызыў рэзервістаў на перападрыхтоўку, ці ўяўляе гэта пагрозу Беларусі, на які тэрмін аб'яўленая мабілізацыя, і гэтак далей», — тлумачыць Паротнікаў.

Наконт уцягвання Беларусі ў расійска-украінскі канфлікт наўпрост (праз баявыя дзеянні з боку Беларусі) альбо апасродкавана (праз прадастаўленне Расіі магчымасці напасці на Украіну з беларускай тэрыторыі) то тут, як зазначае Паротнікаў: «У нас ёсць двухбаковае пагадненне па выкарыстанні ваеннай інфраструктуры — яны скарыстоўваюць нашую, мы — іхнюю. Аднак, там маецца на ўвазе пагроза для абодвух бакоў. Калі нам ніякай пагрозы няма, то мы можам і адмовіць».

А для ўдзелу нашых салдат у баявых дзеяннях за мяжой, як адзначае эксперт, ёсць і іншыя пагадненні і міжнародныя дакументы, для гэтага неабавязкова ўводзіць ваеннае становішча.

Па меркаванні Паротнікава, любое рашэнне, прынятае ў межах гэтага закона, будзе палітычным, а значыць — валюнтарысцкім. Галоўнае, каб у самой Беларусі хапіла духу не ўлезці ў канфлікты, якія нас наўпрост не тычацца.



30 студзеня 2015 | № 4 (421) Новы час

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МАГІЛЁЎ. Дамы адстаялі

**Дом па вуліцы Лазарэнкі, 15 застаецца ў спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў, паведаміў магілёўскі праваабаронца Уладзімір Краўчанка.**

Ён адзначае, што за дом прыйшлося паваяваць, бо магілёўскія чыноўнікі і супрацоўнікі Мінкульта планавалі пазбавіць дом статуса «знаходзіцца пад аховай дзяржавы», каб новы ўласнік рабіў з ім усё, што палічыць патрэбным.

Справа ўжо амаль была даведзена да фіналу, але у ход падзей умяшалася Генеральная пракуратура.

«Была пададзена скарга ў Генеральную пракуратуру ад імя Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў з мэтай не дапусціць руйнавання шэрагу будынкаў у Беларусі. У пералік быў уключаны і дом па вуліцы Лазарэнкі, 15. Гэтая скарга мела станоўчы вынік, і дом застаўся ў спісе аб'ектаў, якія з'яўляюцца гісторыка-культурнай спадчынай і ахоўваюцца дзяржавай», — кажа Уладзімір Краўчанка.

Пакуль ішлі разбіральніцтвы, новы ўласнік надбудаваў дадатковы паверх, які зусім не ўпісваецца ў гістарычнае аблічча дома. Таму Краўчанка рыхтуе чарговую скаргу. Ад магілёўскіх чыноўнікаў ён будзе патрабаваць вярнуць будынку першапачатковае гістарычнае аблічча. Дарэчы, усе чатыры дамы, якія знаходзяцца на няцотным баку вуліцы Лазарэнкі, захавалі за сабой статус гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

**Паводле spring96.org**

### БРЭСТ. Аштрафавалі завочна

**Андруся Шарэнду аштрафавалі за партрэты зніклых палітыкаў на 2,7 мільёна рублёў.**

Яго прызналі вінаватым у расклейцы інфармацыйных плакатаў.

Нагадаем, што ўжо традыцыйная за апошнія месяцы акцыя салідарнасці адбылася 16 студзеня. У шматлюдных месцах Брэста з'явіліся партрэты Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Дзмітрыя Завадскага. У той жа дзень у Брэсце быў затрыманы грамадскі актывіст Андрусь Шарэнда. Маладога чалавека літаральна «знялі» з тралейбуса супрацоўнікі АМАПу.

Спачатку на актывіста быў складзены пратакол за «дробнае хуліганства». Ён нібыта аблаяў матам тых самых амапаўцаў. Пасля быў складзены другі пратакол ужо за расклейку плакатаў. Па абвінавачванні ў дробным хуліганстве Андруся Шарэнду хацелі асудзіць праз некалькі гадзін пасля затрымання, аднак яго вызвалілі з залы суда. Складу правапарушэння ў дзеяннях актывіста суддзя не пабачыла, а адміністрацыйны пратакол загадала вярнуць у міліцыю на дапрацоўку.

Разгляд справы па другім артыкуле прайшоў 23 студзеня. Адміністрацыйная камісія Маскоўскага раёна Брэста прызнала Шарэнду вінаватым. Але даведаўся пра гэта хлопец толькі 27 студзеня з ліста, які атрымаў па пошце.

**Паводле «Еўрапейскага радыё»**

### ОРША. Рокер дабіўся кампенсацыі

**Кіраўнік рок-клуба «DOORS» Аляксандр Мухін адстаяў свае правы ў Віцебскім абласным судзе.**

Нагадаем, 10 траўня яго забралі з дому ў аршанскі псіханеўралагічны дыспансер. Пасля гутаркі з лекарамі яму паставілі дыягназ «сіндром залежнасці ад алкаголю» і пачалі прымусовыя лячэбныя працэдуры.

Прымусовае лячэнне працягвалася тры дні, Мухіну не дазвалялі патэлефанаваць родным, забралі акуляры. А персанал, паводле ягоных слоў, увесь час паўтараў, што яго са шпіталю больш не выпусцяць. Тым не менш 12 траўня яго адпусцілі дадому, але паставілі на ўлік у псіханеўралагічным дыспансеры.

Мухін напісаў заяву ў аршанскую пракуратуру. Пасля чаго яго знялі з уліку, і 23 ліпеня ён атрымаў ліст з цэнтральнай паліклінікі, дзе кіраўніцтва прызнавала, што псіхіятры паставілі беспадстаўны дыягназ і парушылі правы пацыента. Гэты дакумент стаў аргументам у судзе. Мухін напісаў іск пра нанясенне шкоды ягонаму гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі ды запатрабаваў кампенсацыі маральнай шкоды памерам 25 мільёнаў рублёў.

Суд прыняў рашэнне спагнаць з паліклінікі 3 мільёны рублёў на карысць Мухіна. Але рашэнне было абскарджана. 22 студзеня ўжо Віцебскі абласны суд пакінуў без зменаў рашэнне аршанскага суда наконт матэрыяльнай кампенсацыі пацярпеламу. Для самога Аляксандра Мухіна справа абароны ўласнага гонару была прынцыповай. Ён вядомая ў рэгіёне асоба — стваральнік і кіраўнік рок-клуба «DOORS», арганізатар шматлікіх канцэртаў.

**Паводле spring96.org**

# Адменена пастанова суда аб пакаранні

Марат ГАРАВЫ

**27 студзеня суддзя Мінскага гарадскога суду Валерый Камісараў адмяніў пастанову суда першай інстанцыі аб пакаранні 66-гадовага пенсіянера — бабруйчаніна Алеся Каваленкі за несанкцыянаваны пікет у цэнтры сталіцы.**

Як распавёў Алесь Каваленка, які нядаўна перанёс інфаркт і зараз знаходзіцца на лячэнні, 2 мая 2014 года ён звярнуўся ў Мінгарвыканкам з заявай аб правядзенні 19 мая пікетавання на сталічным пляцы Волі каля будынку гарадской ратушы ў сувязі з тым, што цягам 10 гадоў ні яго сын Ігар, асуджаны на 18 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, ні адвакат сына не могуць атрымаць абгрунтаваныя адказы на свае запыты ў суд. Трэба зазначыць, што Генеральная пракуратура апратэставала пастанову суда першай інстанцыі, аднак гэты пратэст быў адхілены Вярхоўным судом краіны.

«Паколькі на сваю заяву аб пікетаванні я атрымаў адпіску ад уладаў Мінска, 19 мая выйшаў на пляц Волі з плакатам «Чыноўнікі суду, дайце адказы на пытанні майго сына і яго адваката! Хопіць хавацца за адпіскамі!» Аднак не паспеў яго разгарнуць, як некалькі мужчын у цывільным абкружылі, загадалі згарнуць плакат і затрымалі мяне. Так што я нават і не паспеў правесці пікет. У гэты ж дзень суддзя суду Цэнтральнага раёна Мінска Наталля Вайцяховіч аштрафавала мяне за адміністрацыйнае правапарушэнне (несанкцыянаванае пікетаванне) на 3 мільёны 750 тысяч рублёў», — распавёў Алесь Каваленка.

Ён абскардзіў названае рашэнне ў Мінскім гарадскім судзе. У сваёй скарзе Алесь Каваленка звярнуў увагу на тое, што сведкі ягонага затрымання — супрацоўнікі АМАПу давалі супярэчлівыя сведчанні: не змаглі дакладна назваць месца затрымання і блыталі час, калі гэта адбылося. «Апроч таго, адзін са сведак — супрацоўнік АМАПу, які даваў паказанні ў судзе, увогуле не ўдзельнічаў у маім затрыманні, аднак заявіў, што я «не падпарадкаваўся законным патрабаванням на неаднаразовыя просьбы спыніць пікетаванне», — падкрэсліў Алесь Каваленка.

Суддзя Мінгарсуда Валерый Камісараў адмяніў пастанову суддзі Наталлі Вайцяховіч і накіраваў справу ў суд Цэнтральнага раёна на новы разгляд.

«Такія законныя рашэнні пракладваюць шляхі да паразумення грамадзянаў з праваахоўнымі органамі і даюць надзею, што ўрэшце Рэспубліка Беларусь стане прававой дзяржавай не толькі на словах, але і на справе», — лічыць Алесь Каваленка.

# «Заўтра будуць карацца сустрэчы з сябрамі»

**Беспаспяхова завяршыўся вышук першага намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча Свіслацкім раённым судом, які намагаўся пакараць палітыка за ўдзел у адзначэнні Дня памяці паўстанцаў 1863 года.**

«Мог бы стаць чарговым асуджаным, але справу закрылі ў сувязі з тым, што цягам двух месяцаў мяне не знайшлі», — патлумачыў Губарэвіч.

«У адносінах Губарэвіча Ю.І. складзены адміністратыўны пратакол за тое, што ён 26 кастрычніка 2014 года ў перыяд часу з 12 да 14 гадзінаў... удзельнічаў у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (мітынгу, вулічным шэсці), чым парушыў устаноўлены парадак правядзення масавых мерапрыемстваў», —паведамляецца ў копіі пастанаўлення суда, якая паступіла на адрас Юрася Губарэвіча ад суддзі Жанны Салагубік.

Суд прыняў рашэнне спыніць справу, бо скончыліся тэрміны накладання адміністратыўнага спагнання. Адзначаецца, што гэтае рашэнне можа быць абскарджана ў Гродзенскім абласным судзе.

«Справа па Свіслачы — гэта чарговае вар'яцтва, грамадзяне Беларусі — настолькі бяспраўныя, што нават паездкі па памятных мясцінах, звязаных з вызваленчым рухам, якія павінны ахоўвацца і ўшаноўвацца дзяржавай, расцэньваюцца як парушэнне грамадскага парадку», — пракаментаваў сітуацыю першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду».

Па ягоных словах, «сёння рэгламентуюцца і караюцца дзеянні, якія звязаныя з праявамі грамадзянскай пазіцыі, а заўтра будуць карацца сустрэчы з сябрамі».

«Але любая ўлада павінна вывучаць урокі гісторыі і памятаць, што «зацісканне гаек» прыводзіць да таго, што іншадумцы перастаюць пытаца нейкага дазволу на масавыя мерапрыемствы», — заключыў Юрась Губарэвіч.

**рух.by**

# Неабходны грамадскі кантроль за ўладай

**У мінулым годзе 11 беларускіх апазіцыйных партый і грамадскіх арганізацый прэзентавалі праект Антыкарупцыйнай платформы, абмеркаванне якой зараз ідзе па ўсёй Беларусі.**

На антыкарупцыйныя заходы апазіцыі ўлада адказала стварэннем чарговай бюракратычнай структуры — Міждзяржаўнага савета па супрацьдзеянні карупцыі.

Не так даўно была агучана ідэя аб неабходнасці стварэння грамадскага антыкарупцыйнага камітэту. Усё гэта не магло не выклікаць рэфлексію ўладаў. На ініцыятывы апазіцыі адмысловым артыкулам адрэагавала «Советская Белоруссия», а некалькі дзён таму стала вядома аб стварэнні ў межах СНД Міждзяржаўнага савета па супрацьдзеянні карупцыі.

Адметна, што дзяржава і апазіцыя прапануюць абсалютна розныя стратэгіі змагання з карупцыяй.

Лідар АГП Анатоль Лябедзька ўпэўнены — без шырокага грамадскага кантролю дзейнасці чыноўнікаў не можа быць паспяховага змагання з карупцыяй. Таму новая міждзяржаўная структура — не больш, чым стварэнне «цёплых месцаў» для сваіх прадстаўнікоў.

«Праблема карупцыі звышактуальная і для Беларусі, і для Расіі, і для іншых краін постсавецкай прасторы, — адзначае Анатоль Лябедзька. — Тут мы адны з сусветных лідараў. Але стварэнне Міждзяржаўнага савета па супрацьдзеянні карупцыі наўрад ці можа быць паспяховым, таму што ўнутрынацыянальная практыка не прынесла поспехаў у змаганні з карупцыяй ні ў адной з краінаў. Чым яны будуць займацца ў агульным савеце, сказаць складана. Пакуль усё выглядае так, што новую працу і новыя добрыя заробкі атрымае дзясятак-другі чыноўнікаў, і на гэтым усё закончыцца. Будуць толькі нейкія справаздачы. Пакуль не існуе шырокага грамадскага кантролю дзейнасці чыноўнікаў, пакуль дзяржавы занадта шмат у эканоміцы, ва ўпраўленні, не можа быць паспяховага змагання з карупцыяй».

**ucpb.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Казка пра бясконцыя пытанні

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Дзе дно ў беларускага рубля? Калі скончыцца рост долара? Ці будзе дэвальвацыя кампенсаваная ростам заробкаў? Гэтыя пытанні зараз чуюцца паўсюль, дзе б ты ні знаходзіўся. На гэтым тыдні розныя чыноўнікі і адмыслоўцы далі адказы на запыты насельніцтва.**

Дна ў беларускага рубля няма. Прынамсі, ён будзе падаць да таго часу, пакуль будзе падаць расійскі рубель. Пра гэта агенцтву «Інтэрфакс-Захад» расказалі ананімныя банкіры. «Прычына паслаблення беларускага рубля ў тым, што расійскі рубель працягвае слабець. Уся эканоміка Беларусі, за выключэннем, у некаторай ступені, нафтавага сектара і калію, завязаная на Расію, і галоўная мэта, якую цяпер праследуе курсавая палітыка Нацбанка, — аднавіць цэнавую канкурэнтаздольнасць беларускай прадукцыі на расійскім рынку», — лічыць прадстаўнік беларускай «дочкі» аднаго з расійскіх банкаў.

Гэта сапраўды так, і пра гэта сведчыць палітыка Нацбанка. Калі Нацбанк уводзіў так званы «кошык валютаў», еўра, долар і расійскі рубель у гэтым кошыку атрымалі роўныя долі. Зараз рэгулятар перагледзеў склад «кошыка»: на долю расійскага рубля ў ёй прыходзіцца 40%, на долю долара і еўра — па 30%.

Эксперт таксама адзначыў, што, нягледзячы на заявы кіраўніцтва Нацбанка краіны аб пераходзе да больш гнуткага курсаўтварэння, «кіраванне курсам па-ранейшаму ідзе ў ручным рэжыме».

Беларускія адмыслоўцы кажуць, што сітуацыя будзе ўскладняцца. На курс беларускага рубля аказвае ўплыў і дынаміка паступлення валютнай выручкі ў краіну. Акрамя таго, наяўнасць прапановы валюты на біржы была звязаная з перыядам выплаты квартальных падаткаў. То бок, прадпрыемствы прадавалі валюту, каб расплаціцца з бюджэтам. Зараз перыяд гэтых падатковых плацяжоў падыходзіць да канца, а павышэнне да 50% нарматыву па абавязковым продажы часткі валютнай выручкі ўжо не пакрывае попыту на валюту. Таму на таргах 27 студзеня попыт на валюту перавышаў прапанову амаль у 2 разы: $60,4 мільёна попыту супраць $38,3 мільёна продажу.

Такім чынам, валюты больш не стане, а рубель будзе працягвацца каціцца долу.

Ці будзе кампенсаваная дэвальвацыя ростам заробкаў? Не, не будзе. Як паведаміла БЕЛТА міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна, заробак работнікаў будзе падвышацца толькі пры апераджальным росце прадукцыйнасці працы. Гэта прадугледжана пастановай урада №47 ад 26 студзеня 2015 года.

Аднак зазначым, што «росту прадукцыйнасці працы» для павышэння заробкаў проста недастаткова. Ужо колькі разоў казалі: мала стварыць прадукцыю, яе трэба яшчэ і прадаць. «Апераджальны рост прадукцыйнасці працы» без продажу напрацаванага прывядзе толькі да «затаварвання» складоў.

А значыць, росту заробкаў чакаць не даводзіцца. Нават Аляксандр Рыгоравіч падчас кадравых прызначэнняў 27 студзеня заявіў, што ў бягучай сітуацыі падвышаць заробкі не каму-небудзь, а чыноўнікам — немэтазгодна. «У нас няпростая сітуацыя і з аплатай працы дзяржаўных служачых. Ніколі яшчэ мы не правальваліся і не адставалі ад сярэднямесячнай зарплаты ў прамысловасці і ніколі не было такой прапорцыі да сярэдняй зарплаты па краіне. Мы сур'ёзна адстаем. Але вы разумееце, што ў гэты час калі мы пачнем выпінаць зарплату дзяржслужачых, то атрымаем адпаведную рэакцыю народа», — сказаў Лукашэнка падчас разгляду кадравых пытанняў.

**Кожны, хто ходзіць па крамах, неаднаразова задаваўся пытаннем: «Чаму ў нас бананы дзешавейшыя за беларускія яблыкі?». Альбо: «Чаму беларускія агуркі і памідоры каштуюць больш, чым галандскія?»**

Між тым, урад урэшце задумваецца над тым, як зрабіць палёгку грамадзянам у крызісе. Праўда, гэта зноў нагадвае бразільскі серыял: самі ствараем праблемы, і самі гераічна іх вырашаем. Гады тры ўжо, з часоў з'яўлення Мытнага саюза, прадпрымальнікі бадаюцца з уладай наконт розных суправаджальных дакументаў і сертыфікатаў. Як паведаміла на тыдні намеснік міністра гандлю Беларусі Ірына Наркевіч, беларускія ўлады падоўжаць тэрмін рэалізацыі ІП-шнікамі рэштак тавараў легпрама, якія не маюць дакументальнага пацвярджэння адпаведнасці тэхрэгламенту Мытнага саюза. «Пытанне аб пераносе тэрміну з 1 сакавіка 2015 года зараз знаходзіцца ў стадыі прапрацоўкі», — сказала Наркевіч. Разглядаюцца тры варыянты падаўжэння тэрміну рэалізацыі: да канца бягучага года, да 1 красавіка 2016 года або да поўнага распродажу.

Так што яшчэ год прадпрымальнікі змогуць гандляваць без «тэхрэгламенту», які ўсё роўна немагчыма атрымаць на тых рынках, дзе яны, гэтыя ІП-шнікі, закупляюцца. Дык ці варта было ўвогуле заганяць ІП у гэтыя «тэхрэгламенты», калі і без іх добра?

Але на самую цікавую праблему ўрэшце звярнуў увагу наш новы прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў. Думаю, кожны, хто ходзіць па крамах, неаднаразова задаваўся пытаннем: «Чаму ў нас бананы дзешавейшыя за беларускія яблыкі?». Альбо: «Чаму беларускія агуркі каштуюць больш, чым галандскія?» Дадам толькі, што апошняе пытанне я чуў у краме літаральна ў мінулую нядзелю.

Дык вось, спадар Кабякоў даручыў «разабрацца». Зроблена гэта звыклым чынам. «Абласнымі выканаўчымі камітэтамі і Мінскім гарвыканкамам павінна быць забяспечана падтрымка рознічных цэн на плодаагародніннную прадукцыю і бульбу на даступным для насельніцтва ўзроўні», — запатрабаваў Кабякоў на пасяджэнні ўрада.

Ён канстатаваў, што па асобных пазіцыях айчынная садавінна-гароднінная прадукцыя даражэйшая за імпарт, што прыводзіць да росту долі імпартнай прадукцыі на ўнутраным рынку. «Даручана прыняць меры па павышэнні канкурэнтаздольнасці айчыннай плодаагародніннай прадукцыі на ўнутраным рынку па цэнавым фактары», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы ўрада.

Зноўку ўсё праз пень-калоду. Калі айчынная прадукцыя даражэйшая за імпартную, не кошты трэба стрымліваць, і не «забяспечваць падтрымку рознічных цэн». Трэба разабрацца з сабекоштам айчыннай прадукцыі, і зрабіць так, каб яна сама па сабе каштавала меней. А значыць, урад павінен заняцца глабальнымі задачамі па зніжэнні энергаёмістасці прадукцыі, па ўвядзенні новых тэхналогіяў, якія, можа, і каштуюць больш, затое і больш эканомяць, і гэтак далей. Перапісаць цэннік — вялікага розуму не трэба, але ці стане ад гэтага прадукцыя насамрэч таннейшай?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Ірына Наркевіч

**Намесніца міністра гандлю Беларусі мае пачуццё гумару.**

Прынамсі, Ірыну Наркевіч не бянтэжыць дэфіцыт некаторых катэгорый тавараў, які ўзнік з-за дэвальвацыі з адначасовым «замарожваннем» цэнаў.

На прэс-канферэнцыі адзін з журналістаў пацікавіўся: «Па дарозе сюды я зайшоў у тры крамы крокавай даступнасці, і ні ў адной з іх няма памідораў. Што робіцца для таго, каб вырашыць праблему з дэфіцытам некаторых тавараў, і калі гэтую праблему ўдасца вырашыць цалкам?».

«З'есці агурок», — параіла Ірына Наркевіч.

«Напэўна, памідор сёння тавар штодзённага попыту. (…) Вось вы кожны дзень ясьце памідоры ці не? Але ён знайшоў памідор, якога няма ў яго краме, вось менавіта гэты памідор яму сёння патрэбны. Па шляху з працы зайдзіце ў іншую краму, дзе гэтых памідораў дастаткова. Не трэба шукаць тэму дэфіцыту, калі ў трох крамах няма памідораў. Чаго яшчэ няма?» — павучыла журналістаў Наркевіч.

А калі заўтра і агуркі знікнуць?



### Андрэа Рыгоні

**У лютым Беларусь у чарговы раз наведае дакладчык Камісіі па палітычных пытаннях і дэмакратыі ПАСЕ.**

Пра гэта паведаміў старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Уладзімір Андрэйчанка.

Паводле Андрэйчанкі, візіт Андрэа Рыгоні трэба скарыстаць «для развіцця канструктыўнага дыялогу з Парламенцкай асамблеяй Савета Еўропы», пры гэтым адзначыўшы, што галоўны прыярытэт міжнароднай дзейнасці Палаты прадстаўнікоў — прасоўванне эканамічных інтарэсаў, развіццё гандлёва-эканамічных сувязяў.

Андрэа Рыгоні лічыцца зручным для афіцыйнага Мінска дакладчыкам. Ён ужо быў дакладчыкам па Беларусі ў 2007–2009 гадах і адзначыўся ініцыятывай аб вяртанні Нацыянальнаму сходу Беларусі статусу «адмыслова запрошанага» авансам, без выканання выстаўленых тады Мінску ўмоваў. Умовы ўключалі свабоду рэгістрацыі палітычных аб'яднанняў і руху, свабоду СМІ, а таксама ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне і перагляд выбарчага заканадаўства.



### Сяргей Міхалок

**Лідар новага гурта «Brutto» папрасіў від на жыхарства ва Украіне.**

Сваю просьбу Сяргей Міхалок аргументаваў тым, што займацца творчасцю ў Беларусі і Расіі немагчыма.

«Я ўжо больш за пяць гадоў знаходжуся ў руху. З таго часу, як гурт «Ляпіс Трубяцкой» пачаў негалосна праследавацца ў Беларусі, я ўвесь час змяняю геалакацыю. Не сакрэт, што беларускімі ўладамі былі ініцыяваныя некалькі крымінальных спраў — спачатку пракуратурай, потым Следчым камітэтам. Была сфабрыкаваная справа аб абразе прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Мне давялося хавацца ў сяброўскім Еўрасаюзе, у Маскве, Кіеве, Кішынёве, Тбілісі… Тое, што я з'явіўся ў Кіеве, — не нечаканасць. Тут мы з «Ляпісамі» запісвалі тры самыя апошнія баявыя альбомы — «Рабкор», «Матрошка», «Вясёлыя карцінкі». Тут жа мы здымалі самыя баявыя кліпы з Аляксандрам Стэкаленкам. Тут жывуць нашы сябры», — зазначыў Міхалок.

Па ягоных словах, пасля таго, як «Ляпіс» падтрымаў Майдан, а песня «Воіны святла» стала яго негалосным гімнам, «Ляпіс» падвяргаўся жорсткаму прэсінгу. «У мяне былі допыты з ФСБ Расіі, на канцэртах пастаянна прысутнічалі аператыўнікі з падраздзялення «Э» — гэта падраздзяленне па барацьбе з моладзевым экстрэмізмам… Я так звыкся з іх прысутнасцю, што мы для іх нават асобны столік рыхтавалі ў грымёрках», — распавёў музыка.

Кіраўнік Мінкульта Украіны Вячаслаў Кірыленка ўжо заявіў, што ўсе неабходныя дакументы для пераезду музыканта ва Украіну будуць афармлены ў самыя кароткія тэрміны.

# Плюралізм у адной галаве ці асэнсаваная палітыка?

Генадзь КЕСНЕР

**Дзеянні беларускіх уладаў апошнім часам прымушаюць задацца пытаннем: што ж яны робяць? З аднаго боку, імкнуцца падаць сябе свету міратворцамі, сігналізаваць Захаду, што не супраць аднавіць з ім стасункі. З іншага боку, узмацняюць рэпрэсіі, ціск на дэмакратычную супольнасць, добра ведаючы, што гэта раздражняе цывілізаваны свет і робіць немагчымым прарыў на, прынамсі, еўрапейскім напрамку.**



Акцыі пратэсту 2006 года

Тут трэба звярнуць увагу на некалькі момантаў. З аднаго боку, кіраўнік беларускай дзяржавы пасля анексіі Расіяй Крыма і падзеяў на Паўднёвым Усходзе Украіны шматкроць выказваўся ў падтрымку тэрытарыяльнай цэласнасці нашай паўднёвай суседкі, а падчас апошняга візіту ў Кіеў за два дні да сустрэчы з Пуціным казаў свайму ўкраінскаму візаві пра гатоўнасць «зрабіць усё», што пажадае ўкраінскае кіраўніцтва. Вось і 27 студзеня адбылася тэлефонная размова Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Украіны Пятром Парашэнкам. Прэзідэнты, паводле сціплага паведамлення БЕЛТА, «абмеркавалі пытанні, якія ўяўляюць узаемную цікавасць».

### Украіна

Падаецца, што афіцыйны Мінск зацікаўлены ў захаванні добрых стасункаў з Кіевам, балазе ў нас багата там і эканамічных інтарэсаў. У той жа час сілавыя структуры Беларусі арыштоўваюць прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці толькі за жаданне праявіць салідарнасць з народам Украіны ў ягоным змаганні супраць расійскай агрэсіі. Ад пяці да пятнаццаці сутак адміністрацыйнага арышту 23 студзеня атрымалі пяцёра нашых суайчыннікаў за спробу днём раней ушанаваць памяць людзей, што загінулі год таму на кіеўскім Майдане ад куль януковіцкіх снайпераў і «беркутаўцаў».

Як паведамляў наш сайт novychas.info, суды адбываліся ў закрытым рэжыме. У выніку дэмакратычныя актывісты Алесь Макаеў і Максім Вінярскі атрымалі па 15 сутак зняволення, Яўген Батура і Мікола Колас — па 10 сутак, рэжысёр Вольга Мікалайчык — 5 сутак адміністрацыйнага арышту. А 67-гадовая пенсіянерка Ніна Багінская мусіць сплаціць 3 мільёны 600 тысяч рублёў штрафу.

Ніна Багінская распавяла, што падчас і пасля затрымання, калі




**З аднаго боку, афіцыйны Мінск лавіруе на міжнароднай арэне, стараецца зняць геапалітычныя вяршкі з сітуацыі, звязанай з канфліктам паміж Кіевам і Масквой. А з іншага боку, душыць усялякія праявы актыўнасці сваіх грамадзян**

яны ўжо знаходзіліся ў аўтобусе, потым у РУУС супрацоўнікі АМАПу паводзілі сябе скрайне непрыстойна, яны абражалі затрыманых нецэнзурнай лаянкай, дазвалялі сабе цынічныя выказванні нават у дачыненні да жанчыны паважанага веку, забралі ў яе кіёчак. «У мяне такое ўражанне, што супрацоўнікі АМАПу і Цэнтральнага РУУС вельмі дакладна зразумелі словы міністра ўнутраных справаў Шуневіча, што міліцыя — гэта карны орган. Вось яны і паводзяць сябе як карнікі. Іншых словаў я пра гэта не магу падабраць», — скрушаецца суразмоўца.

«У апошнія часы любая вулічная актыўнасць у абсалютна любых формах жорстка падаўляецца ўладамі, — адзначае наменсік старшыні зачыненага Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч. Распаўсюд улётак на вуліцы трактуецца як несанкцыянаваны пікет, публічная фотасесія. У гэтым выпадку было ўскладанне кветак, расцэненае праваахоўнікамі як несанкцыянаванае мерапрыемства. Мне падаецца, што ўсё гэта сведчыць пра набліжэнне прэзідэнцкіх выбараў. Для ўладаў скрайне важна падаўляць любыя вулічныя актыўнасці, не важна, па якой тэматыцы, не важна, хто гэта робіць. Проста не дапускаць выхаду людзей на вуліцы».

Па словах Стэфановіча, дзеянні ўладаў насіллі дэманстратыўна жорсткі характар.

### Францыя

Ідзем далей. 11 студзеня ў шматлікіх краінах свету адбыліся акцыі салідарнасці з ахвярамі тэракту ў рэдакцыі сатырычнага часопіса «Charlie Hebdo» ў Парыжы. Пры нападзе на рэдакцыю выдання 7 студзеня тэрарысты забілі 12 чалавек, у тым ліку 10 журналістаў. У сталіцы Францыі на вуліцы выйшла паўтара мільёна чалавек, сярод іх першыя асобы буйных дзяржаваў, у тым ліку Германіі, Вялікабрытаніі ды іншых. 8 студзеня свае спачуванні прэзідэнту Францыі Францоа Аланду накіраваў і Аляксандр Лукашэнка.

Сваю салідарнасць з народам Францыі ў той жа дзень выказалі і некалькі беларусаў. Але цяпер іх чакаюць суды. Праваахоўныя органы працягваюць складаць пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні на ўдзельнікаў акцыі каля французскай амбасады ў беларускай сталіцы. Тры чалавекі проста стаялі з шыльдамі «Я ёсць Шарлі», напісанымі па-французску.

Справы заведзены на былога рэдактара сатырычнай газеты «Навінкі» Паўлюка Канавальчыка, аднаго з кіраўнікоў Беларускай партыі «Зялёныя» Дзмітрыя Кучука і лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзьку. На іх складаюць пратаколы па артыкуле 23.34 КаАП (несанкцыянаванае масавае мерапрыемства). Санкцыі гэтага артыкула прадугледжваюць штрафы ці адміністрацыйны арышт да 15 сутак.

Як адзначае кіраўнік юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінскага камітэта Гары Паганяйла, існуюць сітуацыі, на якія чалавек мае права адрэагаваць непасрэдна і хутка. «А тая сістэма, якая створана ў Рэспубліцы Беларусь, прадугледжвае, што для правядзення такой акцыі неабходна папрасіць дазволу, а рашэнне пра дазвол будзе прымацца цягам пятнаццаці дзён, ды яшчэ ён будзе абстаўлены ўмовамі аб заключэнні дамоваў з органамі ўнутраных справаў, з камунальнікамі і «хуткай дапамогай». Атрымліваецца, што за гэтым частаколам вымушаных абгрунтаванняў ніякім чынам не атрымліваецца рэалізаваць правы на мірны сход», — падкрэсліваe юрыст.

Па словах суразмоўцы, у Беларусі неабходна ўвесці заяўны парадак, калі людзі, што жадаюць правесці нейкі пікет ці іншае мерапрыемства, маглі б проста ўведаміць мясцовыя органы ўлады. Дзеянні ж беларускіх уладаў таму і асуджаюцца міжнароднай супольнасцю, бо яны супярэчаць міжнародным стандартам у галіне правоў чалавека. «Улады ў нас недэмакратычныя, яны хочуць трымаць народ у падпарадкаванні, таму мы і кажам, што ў нас выбудоўваецца таталітарная дзяржава, калі органы ўлады жадалі б татальна кантраляваць сваіх грамадзянаў ва ўсім, што яны робяць і чым займаюцца», — канстатуе Гары Паганяйла.

### Плюралізм у адной галаве...

Як адзначае палітолаг Аляксандр Класкоўскі, для беларускіх уладаў падтрымка тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, нейкая дыпламатычная лінія па ўкраінскай праблеме і атрыманне адпаведных дывідэндаў — гэта адно пытанне. А грамадска-палітычная актыўнасць беларусаў у гэтым жа пытанні (як і ў аналагічных — тая ж Францыя, — заўвага Г. К.), разглядаецца пад зусім іншым вуглом.

«Беларускае кіраўніцтва хоча толькі манапольна атрымліваць нейкія дывідэнды ад такога кшталту пытанняў. Разам з тым, яно не зацікаўлена, каб расла грамадска-палітычная актыўнасць у Беларусі, і рэпрэсіўныя ўстановкі, якія тычацца любога кшталту вулічных акцыяў, тым больш несанкцыянаваных, цалкам застаюцца ў сіле. Таму ніякай супярэчнасці тут няма. З аднаго боку, афіцыйны Мінск лавіруе ў дыпламатычным плане на міжнароднай арэне, стараецца зняць нейкія геапалітычныя вяршкі з драматычнай сітуацыі ў рэгіёне, звязанай з канфліктам паміж Кіевам і Масквой. А з іншага боку, душыць усялякія праявы актыўнасці сваіх грамадзян. Бо гэта прырода рэжыму, каб усе сядзелі, як мыш пад мятлой», — рэзюмуе Аляксандр Класкоўскі.

Падаецца, што ўлады разглядаюць беларускі народ менавіта як мышыны статак, які і пікнуць ужо не асмельваецца. Магчыма, можна пагадзіцца з меркаваннем некаторых экспертаў, што з набліжэннем прэзідэнцкіх выбараў рэпрэсіі будуць толькі ўзмацняцца. Але мяне асабіста апошнім часам цікавяць іншыя пытанні. Калі на «суткі» трапляюць беларускія людзі за акцыю салідарнасці з Украінай, чаму маўчыць афіцыйны Кіеў? Калі перад судом, а потым і ў вязніцы за падтрымку французаў могуць апынуцца мірныя грамадзяне Беларусі, чаму не скажа слова пратэсту з гэтай нагоды хоць хтосьці з прадстаўнікоў французскай уладаў ці хаця б які-небудзь клерк з Еўрасаюза?

Бяда ў тым, што на тле вялікіх няшчасцяў робіцца незаўважнай маленькая праблема, звязаная з правамі чалавека. Толькі палітыкі забываюцца на той факт, што менавіта з маленькай праблемы аднаго ці некалькіх канкрэтных чалавек пачынаюцца вялікія рэгіянальныя ці нават глабальныя беды.

# 25 гадоў з Законам аб мовах

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Закон аб мовах быў прыняты яшчэ 26 студзеня 1990 года. Ён, такім чынам, нават апярэдзіў нашу незалежнасць.**




### Узнёслы і ачалавечаны

Колькі любові і павагі да беларускай мовы ўклалі распрацоўшчыкі гэтага Закона: Ніл Гілевіч, Зянон Пазьняк, Сяргей Навумчык, Валянцін Голубеў, Уладзімір Заблоцкі, Анатоль Вярцінскі, Алег Трусаў і іншыя. Як песня гучаць словы прэамбулы: «Мова — не толькі сродак зносін, але і душа народа і найважнейшая частка яго культуры»; «Жывe мова — жыве народ»; «Кожная мова (...) — неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву». У павучанне нашчадкам замацоўвалася і такая норма: «Гонар і абавязак усіх — шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту, паважліва ставіцца да моваў іншых народаў».

Закон аб мовах ствараў умовы для развіцця не толькі беларускай, але і іншых моваў, якімі карысталася насельніцтва краіны. У артыкуле 5 Закона прадугледжвалася, што ўсякія прывілеі альбо абмежаванні правоў асобы па моўных прыкметах не дапускаюцца, а публічная абраза, ганьбаванне дзяржаўнай і іншай мовы, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі цягне за сабой устаноўленую законам адказнасць.

Для паступовага ўвядзення палажэнняў Закона ва ўсе сферы жыцця сцвярджалася дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў на працягу 10 гадоў з дня ўступлення Закона ў сілу.

### Рэферэндум 1995 года

Збольшага, гэты рэферэндум узгадваюць з нагоды змянення дзяржаўнай сімволікі. Але першае пытанне ў ім было: «Ці згодныя вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?».

Нагадаем, 11 красавіка 1995 года Вярхоўны Савет 12-га склікання прыступіў да разгляду прапановы Лукашэнкі. У ходзе дыскусіі дэпутаты ад БНФ выступілі супраць правядзення такога рэферэндуму. У выніку ВС не падтрымаў ініцыятыву Лукашэнкі. Ён пригразіў, што прыпыніць дзейнасць Вярхоўнага Савета і арганізуе рэферэндум без ягонагай згоды.

У знак пратэсту дэпутаты ад БНФ заявілі, што пачынаюць галадоўку ў зале пасяджэнняў парламента. Уначы з 11 на 12 красавіка ў залу ўварваліся людзі ў масках і гвалтоўна выцягнулі адтуль дэпутатаў. Пры гэтым некаторыя з пратэстоўцаў былі збітыя. Лукашэнка шмат разоў абяцаў «прадэманстраваць усяму грамадству» відэазапіс гэтага інцыдэнту і расследаваць яго, але так гэтага і не зрабіў.

13 красавіка ВС паўторным галасаваннем (што з'яўляецца парушэннем працэдуры) прыняў пастанову аб прызначэнні рэспубліканскага рэферэндуму. Адначасова з рэферэндумам былі прызначаныя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

Пры правядзенні рэферэндуму былі адзначаны шматлікія парушэнні заканадаўства, асабліва ў сельскай мясцовасці. На фоне высокай яўкі выбаршчыкаў (па дадзеных Цэнтрвыбаркама, 95%), выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета не адбыліся амаль у палове выбарчых акругаў. Гэты факт сам па сабе ставіць пад сумнеў дакладнасць вынікаў галасавання на рэферэндуме.

> **Рэферэндум 1995 года быў прызначаны з парушэннем устаноўленай працэдуры, уключаў пытанні, якія не маглі выносіцца на рэферэндум, быў праведзены з парушэннямі заканадаўства**

### Законам і не пахне

Пытанні, прапанаваныя на рэферэндум, супярэчылі Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі (прэамбуле, артыкулам 1, 2, 3), Канстытуцыі (прэамбуле, арт. 17, 78), Закону «Аб усенародным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» (арт. 3). Прычым, пытанні аб мовах і аб дзяржаўных сімвалах, парушалі «неад'емнае права беларускага народа на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць, гаранты існавання беларускай культуры і мовы».

Пытанне аб наданні рускай мове роўнага статусу з беларускай не магло выносіцца на рэферэндум, таму што дзяржаўны статус беларускай мовы быў замацаваны ў шэрагу палажэнняў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, Законе «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і ў артыкуле 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Варта ўлічыць, што па Канстытуцыі (частка 2 арт.148) забаранялася ўносіць змены і дапаўненні ў Канстытуцыю ў апошнія шэсць месяцаў паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета. Такім чынам, рашэнне аб прызначэнні рэферэндуму было прынята неканстытуцыйна, насуперак гэтай норме.

Таму можна сцвярджаць, што рэферэндум 14 мая 1995 года быў прызначаны з парушэннем устаноўленай працэдуры, уключаў пытанні, якія не маглі выносіцца на рэферэндум, быў праведзены з парушэннямі заканадаўства. Таму яго вынікі не могуць мець ніякага юрыдычнага значэння.

### Папраўкі

Улетку 1998 года ў Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» былі ўнесены змены і дапаўненні. У адпаведнасці з імі была выключаная ўзнёслая прэамбула Закона і ўстаноўлены ў якасці дзяржаўных моваў беларуская і руская мовы. З прыняццем новай рэдакцыі Закона аб мовах ад 13 ліпеня 1998 года было спынена прыярытэтнае развіццё беларускай мовы, як і адменена дзяржаўная праграма яе развіцця.

### Новае жыццё

Цяпер, калі паўстала пагроза суверэнітэту Рэспублікі Беларусь у рамках Еўразійскага эканамічнага саюза, праяўляюцца грамадзянскія ініцыятывы, накіраваныя на абарону беларускай мовы. У прыватнасці, група малады грамадзян ініцыюецца прыняцце закона «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы».

Я падтрымліваю такую ініцыятыву і сам праект закона, які можна паглядзець на сайце tbm-mova.by. У той жа час лічу, што ў нас ёсць падставы не прызнаваць вынікі рэферэндуму 1995 года, у тым ліку па пытанні аб статусе моваў. Як следства такой высновы, Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» ад 26 студзеня 1990 года захоўвае сваю легітымнасць.

Для аднаўлення дзяржаўнага статусу беларускай мовы дастаткова прызнаць факт неканстытуцыйнасці і незаконнасці рэферэндуму 1995 года. Рашэнне па гэтым пытанні можа прыняць новы склад Канстытуцыйнага суда або дэмакратычна абраны парламент краіны.

# Быць патрыётам

Сяргей ПУЛЬША

**Як толькі Беларусь задумваецца пра свае інтарэсы, пэўныя колы ў Расіі адразу ж абвяшчаюць гэта «нацыяналізмам», «нацызмам», і «антырасійшчынай».**



Не так даўно міністр адукацыі Міхаіл Журавкоў заявіў: «Вывучаць геаграфію і гісторыю Беларусі трэба на беларускай мове. Я мяркую, што паступова самі дзеці прыйдуць да таго, што захочуць вывучаць палову ці большую частку прадметаў агульнаадукацыйнай школы на беларускай мове».

Падкрэслю, па-першае, размова тут ідзе пра гісторыю і геаграфію Беларусі — і толькі. Па-другое, пытанне адукацыі ў краіне — унутраная і выключная справа самой Беларусі. Тым больш, што да пачатку 2000-х гэтыя прадметы і вывучалі па-беларуску. Хоць цяжка сабе ўявіць, каб, скажам, у Расіі геаграфію і гісторыю Расіі вывучалі не па-руску, а на іншай мове.

Да таго ж, словы міністра — толькі пажаданне. Але расійскія СМІ і некаторыя «аналітычныя» цэнтры заўважылі ў гэтым выказванні «яўную антырасійшчыну». Інфармацыйнае агенцтва «Рэгнум», напрыклад, напісала, што «ў бліжэйшы час выкладанне гісторыі і геаграфіі на рускай мове ў школах будзе забаронена».

Намеснік дырэктара Цэнтра ўкраіністыкі і беларусістыкі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Багдан Беспалько «сумна канстатаваў», што «Беларусь дакладна ідзе антырасійскім курсам. Улады рэспублікі ідуць па шляху нацыяналізму ўкраінскага кшталту».

«У Беларусі пачалася чарговая хваля дэрусіфікацыі, гэта факт», — кажа кіраўнік інтэрнэт-партала з паказальнай назвай «Імперыя» Юры Баранчык, які пераехаў жыць і працаваць у Маскву з Беларусі.

Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алег Трусаў зазначае, што такая хваравітая рэакцыя выкліканая выключна імперскімі амбіцыямі некаторых расійскіх рэсурсаў. «Нічога дзіўнага. У іх мэта якая? Акупаваць Беларусь. Дзе Расія? Там, дзе ўсе гавораць па-руску. А тут не хочуць па-руску размаўляць. Таму і лямант пачаўся», — кажа Трусаў.

Але пакуль што, па ягоных словах, пагрозы для Расіі ў словах Журавкова няма, бо гэта — толькі словы. «Беларусам трэба звярнуцца да міністра, каб ён гэтыя словы выканаў. Пакуль тое, што сказаў Журавкоў, — пустыя абяцанні, і ніхто нічога пакуль не робіць. Хай ён перавядзе выкладанне геаграфіі і гісторыі Беларусі на беларускую мову, тады беларусы гэта падтрымаюць. А так словы міністра — толькі ў паветры, — зазначае Трусаў. — У асноўным, гэтыя прадметы выкладаюцца па-руску. Зазірніце ў любую краму — беларускамоўных падручнікаў па гісторыі Беларусі і геаграфіі Беларусі ў продажы няма. Першы крок — гэта забяспечыць нашы крамы беларускамоўнымі падручнікамі па гэтых прадметах, каб людзі маглі іх купіць і чытаць іх дома — вось гэта найперш трэба зрабіць. А пакуль што нідзе вы такіх падручнікаў не купіце».

Так што Расіі пакуль рана перажывацца з нагоды заявы міністра, лічыць Трусаў. І нават выкладанне ўсяго двух прадметаў па-беларуску не ёсць «нацыяналізмам». Хаця сам Трусаў не любіць слова «нацыяналізм»: «Гэта бальшавікі ўсё сказілі. Я лічу, што трэба быць не нацыяналістам, а патрыётам. Трэба, каб усе беларусы, незалежна ад нацыі, сталі патрыётамі».

# Анатоль Грыцкевіч: адчуваць сябе беларусам

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Гэта размова была запісана яшчэ ў мінулым годзе. Галіна Сіўчык амаль прымусіла мяне зрабіць гэты запіс. Сёння я ёй вельмі ўдзячны за магчымасць яшчэ раз пачуць голас Анатоля Грыцкевіча.**



**Анатоль Грыцкевіч з дачкой Любай. 1960 г.** Фота «Радыё Свабода»



**Мікола Савіцкі, Анатоль Грыцкевіч, Артур Вольскі, Васіль Быкаў. Свята Аршанскай бітвы. 8 верасня 1992 г.** Фота «Радыё Свабода»

31 студзеня Анатолю Пятровічу споўнілася б 86 гадоў. Крыху не дажыў... Але яго адыход у лепшы свет яскрава даказвае, што мы не сыходзім зусім, пакуль іншыя пра нас памятаюць.

### Шляхецкія карані

— Мой бацька, Пётр Навумавіч Грыцкевіч, быў родам са Случчыны і паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду. Праваслаўнага, дарэчы, аднак сам я перайшоў у грэка-каталікі. Прынцыпова, таму што не хачу быць у царкве, якая падначаленая Маскве.

Калісьці тымі мясцінамі валодаў сын князя Альгерда Уладзімір Альгердавіч. Спачатку ён быў кіеўскім князем, але пасаду страціў, і атрымаў Слуцк.

На жаль, нашай невялічкай вёскі Валкавічы больш не існуе. Гэта чатыры кіламетра на паўночны Захад ад Слуцка.

У нас было 17 гектараў зямлі, на якіх працавала ўся сям'я як звычайныя сяляне. Адзіная прывілея — не плацілі падаткаў.

Дарэчы, некалі мой дзядзька Павел нават хадзіў працаваць да пані Дзяржынскай, якая мела 400 гектараў. Гэта была цётка «жалезнага Фелікса».

Дзед, Навум Фёдаравіч, быў вельмі разумным чалавекам. У нас ніколі не працавалі парабкі, што і выратавала ад ссылкі ў Сібір. Больш за тое, два яго малодшыя сыны (адзін мой бацька) працавалі на савецкую ўладу, у якой тады катастрафічна не хапала кіруючых кадраў. Яны і падказвалі, што трэба рабіць, каб не патрапіць пад рэпрэсіі.

У дзеда было шасцёра дзяцей. Усе хлопцы. І толькі адзін мой бацька, як вельмі хацеў вучыцца, трапіў у Слуцкую гімназію. У яго было дзесяць тамоў Вялікай савецкай энцыклапедыі, таму тое, што я потым стаў гісторыкам, — цалкам лагічна.

Як я ўжо казаў, бацька падтрымліваў савецкую ўладу. Яго накіравалі ў Мінск вучыцца ў партшколу. А маці вучылася на медыка і працавала ў сваім інстытуце бібліятэкарам. Тут і пазнаёміліся.

Я нарадзіўся ўжо ў Мінску. Было гэта 31 студзеня 1929 года.

Калі пачалася вайна, мой бацька пайшоў на фронт дабравольцам. І амаль адразу пад Масквой загінуў. Як і ўвесь 321-ы асобны сапёрны батальён Заходняга фронту. Сталін потым даў загад аднавіць яго ў поўным складзе, бо сцяг часткі захаваўся і не трапіў да ворагаў.

Маці звалі Інэсай Львоўнай Дазорцавай. Родам яна была з гарадскога пасёлку Карма, які знаходзіцца ў Гомельскай вобласці. Яна была лекарам па жаночых хваробах. На жаль, у 1966 годзе яе таксама не стала.

Падчас шлюбу маці нават дзявочага прозвішча не мяняла, бо магло высветліцца дваранскае паходжанне бацькі, а пагроз хапала і без гэтага.

1937 год я добра памятаю (быў у першых класах школы). Бацьку тады выключылі з партыі.

Газета «Рабочы», якая потым стала «Советской Белоруссией», надрукавала вялікі артыкул сакратара (бацька быў старшыня) арганізацыі настаўнікаў вышэйшай і сярэдняй школы, дзе было напісана, што Пётр Навумавіч Грыцкевіч не змагаўся з так званай «дъяковской бандой», якая дзейнічала ў Народным камітэце адукацыі. Маўляў, «депутат и сам учитель не разоблачал «врагов народа». Пашанцавала, усё абмежавалася толькі тым, што выкінулі з партыі. Год ён быў без працы.

Раённа ў Мінску тады яшчэ не было. Толькі гаркам партыі. Яго (амаль у поўным складзе) потым двойчы расстралялі. У тым ліку і тых, хто «выключаў».

У пачатку 1938 года на чарговым партыйным пленуме Сталін выказаўся, што «настоящих коммунистов враги выкинули из партии». Гэта стала сігналам. Майго бацьку аднавілі і прызначылі дырэктарам пятай сярэдняй школы, якая месцілася там, дзе зараз знаходзіцца сквер (ад праспекта Незалежнасці да вуліцы Карла Маркса) насупраць КДБ.

Адтуль ён і пайшоў на вайну.

Як і маці. Яна ваявала хірургам ваеннага шпіталю на Заходнім фронце, а мы з братам былі ў Саратаве ў дзіцячым доме.

### Вяртанне на Беларусь

— Вярнуліся мы ў Мінск у 1944 годзе. Потым маці накіравалі ў Яраслаўль, дзе адкрывалі медычны ўніверсітэт. Пасля гэтага мы яшчэ адзін год пражылі ў Кіргізіі, так што я, акрамя беларускай, англійскай, нямецкай, польскай і рускай, крыху ведаю і кіргізскую мову. Дарэчы, польскую мову я вывучыў самастойна. Толькі яна з «віленскім акцэнтам».

Маці вельмі хацела, каб я быў лекарам. Школу скончыў у шаснаццаць з паловай гадоў і адразу паступіў у мінскі медінстытут.

Пасля мяне накіравалі на чыгунку. Нават іх форму насіў. Чорная такая. З пагонамі. Калі мы дапамагалі адной з вёсак, там мне так і сказалі — эсэсавец...

Даслужыўся да памочніка начальніка ўрачэбна-санітарнай службы беларускай чыгункі, і мог дасягнуць на гэтай кар'ернай лесвіцы значна большых прыступак, але пайшоў у гісторыю.

Дарэчы, калі гэта стала вядома, з чыгункі мяне не хацелі адпускаць. Пераканала толькі тое, што пасля атрымання вучонай ступені я буду атрымліваць значна большы заробак.

Але аб усім па парадку. У 1950 годзе я скончыў медычны інстытут, і праз пару гадоў завочна пайшоў у ін'яз, дзе і прапанавалі паступаць яшчэ і ў БДУ. Гэта я і зрабіў. У 1955 годзе скончыў ін'яз, а ў 1958-м гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Падчас вучобы атрымліваў усе пяцёркі, толькі па адной «палітэканоміі сацыялізму» меў «добра». Усё далей ішло нармальна, але на дзяржаўных іспытах дадалася яшчэ адна «чацвёрка», што не дазволіла атрымаць чырвоны дыплом, — па гісторыі КПСС. Дрэнна ведаў лісты Леніна...

Цікава, што і я, і брат падчас вучобы на медыкаў хацелі дадаткова пайсці ў інстытут гісторыі, але маці была катэгарычна супраць, бо ў 1937 годзе ўсіх гісторыкаў перастралялі і перасаджалі амаль першымі.

Рэдкі выпадак, каб завочніка запрашалі на працу ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР, але са мной у 1959 годзе менавіта так і адбылося. Спачатку малодшым навуковым супрацоўнікам, потым — старшым.

Праз пяць гадоў я абараніў кандыдацкую дысертацыю, якая датычылася гісторыі Слуцку ў XVI–XVII стагоддзях. У 1986 годзе была ўжо доктарская дысертацыя з вельмі незвычайнай тэмай: «Прыватна-ўладальніцкія гарады ў Беларусі і Літве». Дарэчы, абараняў яе менавіта ў Вільні, бо тут маглі не зразумець. У нас лічылася, што гарады бываюць выключна дзяржаўнымі.

Яшчэ падчас работы ў Акадэміі навук мяне запрасілі ў Інстытут культуры, які зараз стаў Універсітэтам культуры і мастацтваў. Ён якраз толькі-толькі адкрываўся. Працаваў там з 1975 года. Стаў загадчыкам кафедры гісторыі.

Потым хацелі нават рэктарам абраць, але перамагла будучая жонка старшыні КДБ. Лічылася, што я нацыяналіст. На мой погляд, гэта было не зусім так. Хаця, канешне, пэўныя падставы існавалі. Яшчэ да аб'яўлення афіцыйнай незалежнасці, я прымусіў усіх выкладчыкаў сваёй кафедры чытаць лекцыі выключна на беларускай мове.

Добра, што я не стаў рэктарам. Лукашэнка б усё роўна гэта выправіў, бо разам з рэктарствам быць яшчэ і ў БНФ сёння немагчыма па вызначэнні.

Доўгі час я быў загадчыкам кафедры. Да 2008 года. 31 год — гэта шмат! А потым год працаваў звычайным прафесарам. Чытаў лекцыі бібліятэкарам, загадчыкам музеяў, дырэктарам клубаў, рэжысёрам народных музычных тэатраў і г.д. Выкладаў да васьмідзесяці гадоў, а потым сышоў і толькі пісаў кнігі.

### Пад знакам беларушчыны

— Для мяне заўсёды важна было адчуваць сябе беларусам. На жаль, некаторыя ставіліся да гэтага вельмі варожа. Адзін мой школьны сябар (палкоўнік Савецкай арміі), калі даведаўся, што я ў БНФ, перастаў сябраваць фразай — «Такую краіну развалілі...»

Магчыма, ён не ведаў (альбо не хацеў ведаць), што краіна тая была вельмі жудаснай. Ніхто яе не развальваў, развалілася сама.

Тая краіна абсалютна не прымала ўсё нацыянальнае. Памятаю, як у першых класах школы мяне забралі з беларускамоўных класаў толькі з-за страху, што могуць абвінаваціць у нацыяналізме.

Дый і зараз стаўленне да ўсяго беларускага ў расейцаў вельмі кепскае. Мой брат Валянцін жыў і памёр у Санкт-Пецярбурзе. Жонка прывезла ўсё, што ад яго засталося пасля крэмацыі, «падзахаваць» на магілу маці. Паставіла невялічкі помнік. З неверагоднымі цяжкасцямі ўдалося пераканаць яе напісаць там хоць некалькі словаў па-беларуску. Зараз ніякіх камунікацый паміж намі больш няма...

Зразумела, што ў эвакуацыі ўсё было па-руску. Калі мне цудам трапляла кніжка на беларускай мове, я літаральна не выпускаў яе з рук. Чытаў, як кажуць, ад коркі да коркі.

Падчас шаснаццаці гадоў працы ў Акадэміі навук самой галоўнай сваёй заслугай я лічу ўдзел у выданні пяцітомнай «Гісторыі Беларусі». Яна кардынальна адрознівалася ад савецкіх міфаў пра нейкае «славянскае братэрства» і дапамогу «рускага народа».

З архіваў (Мінск, Вільня, Варшава, Масква, Санкт-Пецярбург) я ўзяў, што «дапамога» насамрэч складалася з таго, што рускія войскі прыйшлі, парабавалі, частку насельніцтва забілі (асабліва ў гарадах), а сялян масава вывозілі ў Расію, каб зрабіць сваімі прыгоннымі. Вось і ўсё «братэрства».

Дарэчы, у архівах я знайшоў увесь свой радавод і займеў адпаведны герб, які складаецца з дзвюх харугваў. Калі яго ўбачыў мой унук, то сказаў вельмі кранальнае: "Як нас шмат!" І гэта толькі па лініі бацькі.

Цікава, што адным з маіх продкаў быў Юхно Грыцкевіч. Князі называліся Юрыямі, а ўсе астатнія — Юхно. Дык вось, ён удзельнік бітвы пад Воршай, так што ў некаторым сэнсе 8 верасня можна лічыць маім сямейным святам...

А ў БНФ я трапіў так.

Неяк сустрэў мяне Зянон Пазняк і расказаў, што ў Чырвоным касцёле, дзе тады быў Дом кіно, будзе пасяджэнне па стварэнні новай арганізацыі. 19 кастрычніка 1988 года паўстаў Аргкамітэт па стварэнні Беларускага Народнага фронту, які цалкам перапічаны ў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі. Усе 32 чалавекі. У наступным годзе ў Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд.

Калі БНФ падзялілі, мяне спачатку запісалі ў тую частку, якая супрацьстаяла Пазьняку. Потым я з яе выйшаў і ўступіў у Кансерватыўна-хрысціянскую партыю БНФ. Спачатку быў у Сойме, але ў мае гады хадзіць на пасяджэнні вельмі складана, таму прышлося з яго выйсці...

TV

## 2 ЛЮТАГА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё».
**11.50** Камедыя «Ты - мне, я - табе» (СССР).
**13.40** Меладрама «Андрэйка» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Меладрама «Андрэйка» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Арэна.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** «Форум».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Фантастычны баявік «Расамаха: Бессмяротны» (ЗША-Вялікабрытанія).

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Справа прынцыпу».
**22.15** «Штосьці не так з Кевінам». Мастацкі фільм.
**00.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Зорны рынг».
**15.25** «Ежа багоў».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дакументальны праект».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Вечары на хутары ля Дзіканькі» (СССР, 1961 г.).
**00.40** «Халасцякі». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.15** Іранічны дэтэктыў «Сустрэчная плынь» (Расія).
**13.05** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**15.30** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**16.40** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія, 2010 г., 2014).
**19.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія, 2014 г.). 1-я і 2-я серыі.
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**23.20** Хачу ў тэлевізар!
**23.25** Фантастычная камедыя «Вядзьмарка» (ЗША, 2005 г.).
**01.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Дыя@блог P.S.».
**08.25** «Блакітны анёл». Музычная драма (Германія, 1930 г.).
**10.05** «Культпрасвет».
**10.40** «Інтэрвенцыя». Эксцэнтрычная камедыя (СССР, 1968 г.).
**12.25** «Страсці па Уладзіміру». Камедыя (СССР, 1990 г.).
**14.20** «Камертон». Станіслаў Гаварухін.
**14.45** «Размаўляем па-беларуску».
**14.55** «Слуцкія паясы». Дакументальны фільм пра гісторыю ўзнікнення слуцкіх паясоў.
**15.25** «Сёмае неба Паўла Масленікава». Дакументальны фільм пра мастака, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
**15.55** «Свет прыроды». Ля дрэва дружбы трох народаў.
**16.20** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.50** «Дыя@блог P.S.».
**17.15** «Калошы шчасця». Фільм-казка (Чэхаславакія, Аўстрыя, Германія, 1986 г.).
**18.45** «Яно». Драма (СССР, 1989 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.10** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**23.00** «Я не паэта..» Песні Уладзіміра Мулявіна, выконвае Пётр Елфімаў.
**00.30** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Андрэй Плясанаў.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Фрыстайл. Чэмпіянат свету.
**10.30** Гандбол. Чэмпіянат свету. 1/8 фіналу.
**00.00** Баскетбол. НБА. «Аклахома Сіці» - «Клiўленд».
**13.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Жанчыны.
**15.25** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. ХК «Гомель» - «Юнацтва» (Мінск).
**17.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Мужчыны.
**18.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - БК «Ніжні Ноўгарад». Прамая трансляцыя.
**20.40** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**21.10** Баскетбол. НБА. «Аклахома Сіці» - «Клiўленд».
**23.00** Еўрапейскі покерны тур.
**23.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.35** «Людскія справы».
**08.05** Два на два (тэледыскусія).
**08.35** Мова нанова: «Спорт».
**08.55** «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**09.30** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**10.20** «Акапулька – рай для турыстаў і гандляроў наркотыкамі», дак. фільм, 2012 г., Мексіка.
**11.20** Эксперт.
**11.45** Кінаклуб: «Жалезная дама».
**12.00** «Жалезная дама», маст. фільм, 2011 г., ЗША.
**13.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.20** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**14.55** Два на два (тэледыскусія).
**15.25** Мова нанова: «Спорт».
**15.45** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 2 серыя.
**16.25** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**17.15** Гісторыя пад знакам Пагоні: Мітрафан Доўнар-Запольскі.
**17.25** «Час гонару», тэлесерыял.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.55** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Асабісты капітал.
**22.10** Зоры не спяць: Ірына Новік.
**22.45** Кінаклуб: «Жалезная дама».
**22.55** «Жалезная дама», маст. фільм, 2011 г., ЗША.
**00.45** Студыя «Белсат».

## 3 ЛЮТАГА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 5».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.00** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «ЗАГС».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Тэст на цяжарнасць». Тэлесерыял.
**23.10** «Аднаполыя». Тэлесерыял.
**00.10** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.10** «Тыдзень спорту».
**09.40** «Такі лёс».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Што хавае хлусня» (ЗША, 2011 г.).
**15.45** «Ежа багоў».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Прабач за каханне» (Італія, 2008 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Халасцякі». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**10.05** Fitnews. Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.40** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**12.25** Анімацыйны фільм «Леднiковы перыяд» (ЗША, 2002 г.).
**13.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.50** Comedy Woman. Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**16.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**17.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**19.55** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**23.30** Ікра.
**00.00** Хачу ў тэлевізар!
**00.05** Фантастычны баявік «Тэрмінатар-3. Паўстанне машын» (ЗША - Германія, 2003 г.).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**16.40** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 1-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**08.55** «Яно». Драма (СССР, 1989 г.).
**10.50** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**17.30** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**11.15** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Вакальны ансамбль «Камерата».
**12.05** «Размаўляем па-беларуску».
**12.15** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Андрэй Плясанаў.
**12.50** «Культурныя коды». Дакументальны фільм, прысвечаны ўзнікненню славянскага пісьменства.
**13.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Зіновія Бабія.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Зіновія Бабія.
**13.45** «Джульбарс». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1935 г.).
**15.00** Мультфільм.
**15.25** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**15.55** «Навука колеру хакі». Дак. фільм.
**16.10** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**18.00** Канцэрт сімфанічнага «IP аркестра» і пан-флейтыста Алега Мінакова.
**19.20** «Зімовая раніца». Ваенная драма (СССР, 1966 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Адпачынак у верасні». Трагікамедыя. 1-я серыя (СССР, 1979 г.).
**22.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.45** «Адпачынак у верасні». Трагікамедыя. 2-я серыя (СССР, 1979 г.).

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Сноуборд. Чэмпіянат свету.
**10.20** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - БК «Ніжні Ноўгарад».
**00.00** Хакей. КХЛ. «Медвешчак» (Заграб) - «Дынама» (Мінск).
**13.50** Муай тай. К-1. Сусветны Гран-пры.
**15.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Гонка пераследу. Жанчыны.
**16.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. 1/8 фіналу.
**18.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Гонка пераследу. Мужчыны.
**19.25** Сноуборд. Чэмпіянат свету.
**20.50** Спорт-кадр.
**21.20** Муай тай. К-1. Сусветны Гран-пры.
**23.25** Еўрапейскі покерны тур.
**00.20** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Асабісты капітал.
**10.40** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ірына Новік.
**11.15** «Дом», серыял.
**12.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Мітрафан Доўнар-Запольскі.
**13.00** Студыя «Белсат».
**13.30** «Людскія справы».
**14.00** Студыя «Белсат».
**16.25** Асабісты капітал.
**16.45** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**17.15** «Час гонару», тэлесерыял.
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Суб'ектыў.
**19.00** Рэпартэр.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Два на два (тэледыскусія).
**22.20** «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**22.35** «Акапулька – рай для турыстаў і гандляроў наркотыкамі», дак. фільм, 2012 г., Мексіка.
**23.35** Студыя «Белсат».

TV

## 4 ЛЮТАГА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.15** Сфера інтарэсаў.
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Тэст на цяжарнасць». Тэлесерыял.
**23.10** «Аднлюбы». Тэлесерыял.
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Мінск і мінчане».
**09.30** «Цэнтральны рэгіён».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Прабач за каханне» (Італія, 2008 г.).
**15.50** «Ежа багоў».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Пад прыцэлам».
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сардэчна паскардзіцца».
**23.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.30** «Халасцякі». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**12.45** Вышэй за дах.
**13.20** Кіпень.
**13.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**14.45** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**15.45** Рэпарцёр.
**16.40** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**19.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**20.50** Тэлебарометр.
**20.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**21.40** Гандбол. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**21.35** «Спортлато 5 з 36», КЕНО.
**22.40** Прыгодніцкі фільм «Гісторыя рыцара» (ЗША, 2001 г.).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.10** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**07.55, 16.35** Серыял «Робін з Шэрвуда». 2-я серыя. (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**08.50** «Зімовая раніца». Ваенная драма (СССР, 1966 г.).
**10.15** «Дыя@блог». «Пра мову».
**17.30** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.40** «Адпачынак у верасні». Трагікамедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**12.55** «Белеет парус одинокий..» Дзіцячы прыгодніцкі фільм (СССР, 1937 г.).
**14.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Міхаіла Пташука.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Міхаіла Пташука.
**14.45** «Музеі Беларусі». Музей пошты.
**15.10** «Наперад у мінулае».
**15.35** «Культурныя коды». Дакументальны фільм, прысвечаны ўзнікненню славянскага пісьменства.
**16.05** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.55** «Салавей». Канцэрт Людмілы Лазарчык і Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя І.Жыновіча.
**19.25** «Дваццаць шэсць дзён з жыцця Дастаеўскага». Біяграфічная драма (СССР, 1980 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Пакроўскія вароты». Меладраматычная камедыя. 1-я серыя (СССР, 1982 г.).
**22.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.40** «Пакроўскія вароты». Меладраматычная камедыя. 2-я серыя (СССР, 1982 г.).

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.00** PRO спорт. Навіны.
**06.35** Баскетбол. НБА. «Голдэн Стэйт» - «Чыкага». Прамая трансляцыя.
**08.45** Спорт-кадр.
**09.15** Козел пра футбол.
**09.35** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Спрынт. Жанчыны.
**11.05** Баскетбол. НБА. «Голдэн Стэйт» - «Чыкага».
**12.55** Сноуборд. Чэмпіянат свету.
**15.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Спрынт. Мужчыны.
**16.55** Хакей. КХЛ. «Металург» (Магнітагорск) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.00** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. ХК «Гомель» - «Шахцёр» (Салігорск). Прамая трансляцыя.
**21.15** Баскетбол. НБА. «Голдэн Стэйт» - «Чыкага».
**23.00** Хакей. КХЛ. «Металург» (Магнітагорск) - «Дынама» (Мінск).
**00.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфінал.
**02.20** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Два на два (тэледыскусія).
**10.50** «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**11.05** «Ранча», серыял.
**11.50** Беларусы ў Польшчы.
**12.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.35** Студыя «Белсат».
**13.05** Рэпартэр.
**13.35** Студыя «Белсат».
**15.55** Два на два (тэледыскусія).
**16.25** «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**16.45** «Ранча», серыял.
**17.30** Эксперт.
**17.55** Зоры не спяць: Ірына Новік.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Стыль.
**18.55** Асабісты капітал.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні: Мітрафан Доўнар-Запольскі.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.10** Чорным па белым.
**22.35** «Людскія справы».
**23.05** Эксперт.
**23.30** Студыя «Белсат».

## 5 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач».
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 5».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.00** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Камедыйны серыял «Сваты 5».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Сёння ўвечары».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Сёння ўвечары». Працяг.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Тэст на цяжарнасць». Тэлесерыял.
**23.10** «Аднлюбы». Тэлесерыял.
**00.10** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.10** «Прыгоды дылетанта».
**09.45** «Гарачы лёд».
**10.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Пад прыцэлам».
**15.30** «Ежа багоў».
**16.50** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Дорыян Грэй».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Халасцякі». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Прыгодніцкі фільм «Гісторыя рыцара» (ЗША).
**13.10** «Сустрэча з...».
**13.45** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**14.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія).
**15.45** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**16.40** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**19.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**23.35** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 19.00, 00.45** «Галасы з мінулага». 155 год класіку сусветнай літаратуры Антону Паўлавічу Чэхаву.
**08.05** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 3-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**09.00** «Дваццаць шэсць дзён з жыцця Дастаеўскага». Біяграфічная драма (СССР, 1980 г.).
**10.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.45** «Пакроўскія вароты». Меладраматычная камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1982 г.).
**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка Івана Шамякіна.
**13.25** «Сустрэчы ў Букваедзе». Дзіна Рубіна.
**13.50** «Залаты шлягер-2000». «Дунаеўскі + Дунаеўскі». Музыка Ісаака і Максіма Дунаеўскіх.
**15.45** «Наперад у мінулае».
**16.15** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.45** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 3-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**17.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**18.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**18.30** «Сіла веры».
**19.05** «Дзядзя Ваня». Драма (СССР, 1970 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Балтыйскае неба». Ваенная драма. 1-я серыя (СССР, 1960 г.).
**22.35** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.00** «Балтыйскае неба». Ваенная драма. 2-я серыя (СССР, 1960 г.).
**00.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка Івана Шамякіна.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**05.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Жанчыны.
**06.55** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. ХК «Гомель» - «Шахцёр» (Салігорск).
**09.40** Хакей. КХЛ. «Металург» (Магнітагорск) - «Дынама» (Мінск).
**11.35** Гандбол. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфінал.
**13.00** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Портленд».
**14.50** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - БК «Ніжні Ноўгарад».
**16.25** Муай тай. К-1. Сусветны Гран-пры.
**18.25** Авертайм.
**18.55** Футзала. Кубак Беларусі. Фінал. Прамая трансляцыя.
**20.25** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Спартыўныя танцы. Адвольная праграма. Прамая трансляцыя.
**23.45** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Портленд».
**01.30** PRO спорт. Навіны.
**03.05** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Портленд». Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Мітрафан Доўнар-Запольскі.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.40** Чорным па белым.
**11.05** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**11.35** «З хронікі Аўшвіцу», дак. серыял: «Каханне».
**12.05** «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**12.20** Студыя «Белсат».
**12.50** Асабісты капітал.
**13.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Мітрафан Доўнар-Запольскі.
**13.20** Студыя «Белсат».
**15.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.05** Чорным па белым.
**16.30** «Людскія справы».
**17.00** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 2 серыя.
**17.45** «З хронікі Аўшвіцу», дак. серыял: «Каханне».
**18.10** «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Профіль пакалення.
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.15** Відэьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.45** «Фэмэн. Аўтапартрэт», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**23.35** «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**00.15** Студыя «Белсат».

Літаратурная Беларусь

Выпуск №1 (101)
(студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

**Змест**



# Гандляры і спажыўцы

Віктар ЛЕДЗЕНЕЎ, CHARTER97.ORG

**Жыў быў горад (ці краіна). Каму як больш падабаецца. Людзі там жылі самыя што ні ёсць звычайныя, не без недахопаў, вядома.**



Так, драбяза такая-сякая здаралася, не больш таго, можна сказаць, бытавая. З кім не бывае. Але, у асноўным, жыццё ішло ціха і спакойна. Як раптам у гэтым горадзе (ці краіне) аб’явіўся Гандляр. Хто ён і адкуль прыбыў, не ведаў ніхто. Адкрыў краму. Не які-небудзь супермаркет, а самую звычайную, штось накшталт «Тысяча драбязы». Самае галоўнае ў яго гандлі было тое, што кожны знаходзіў у краме менавіта ўсё, што хацеў мець больш за ўсё ў жыцці. Самыя патрэбныя рэчы. І пайшоў гандаль. Быццам бы на самых выгадных умовах — за паўкошту ўсякія рарытэты можна купіць. Але з адной умовай: сёе-тое потым зрабіць трэба будзе.

І патрапілі жыхары горада ці краіны на гэтую прынаду. Людзі плацілі мала, атрымлівалі тавар, можна сказаць, на халяву, ды і даручэнні Гандляра былі простымі і нескладанымі. Кожны іх выконваў ледзь не ў сваё задавальненне. А гандляр быў далёка не прасцяк, ён быццам бы заўсёды дапамагаў людзям, але рабіў гэта так, што выклікаў зайздрасць: дапаможа аднаму, але ў накладзе іншы. Як у задачы з двума трубамі: недзе дадасца, а недзе паменшыцца... Быццам бы драбяза, але страсці разгарэліся не на жарт, дайшло і да забойства...

Страшна стала людзям, а зразумець не могуць, — жылі сабе ціха, мірна, як раптам такія няшчасці. Справа дайшла да таго, што адзін жыхар наогул захацеў падараваць цэлы горад з усімі яго жыхарамі. І падараваў бы...

Я не выпадкова ўсюды дадаваў прыпіску ў дужках пра горад (краіну). Горад жа маленькі, яго цалкам падараваць можна, а вось калі краіна вялікая? Аказалася, што і краіну можна. Нават не проста вялікую, а велізарную. І такая знаходзіцца зусім побач з нашай, можна сказаць — суседская братэрская краіна. І з’явіўся і ў ёй свой Гандляр. З нейкага іншага горада ў сталіцу прыехаў. І стала жыць лягчэй і весялей.

Рэч у тым, што краіна была жудасна багатай. Усё ў ёй было: нафта, газ, золата, жалеза, алюміній, алмазы, нават звяроў было незлічона, а ўжо зямлі і лесу — хоць заваліся... Ва ўсім гэтым мелі патрэбу іншыя суседзі-краіны, якім не хапала сваіх радовішчаў. І пачаў Гандляр паспяхова прадаваць гэтыя багацці; грошы пацяклі ракой. Валюта стала моцная, прыбыткі павышаліся, у некаторых лепшых сяброў Гандляра проста да неймаверных памераў. Але і шараговым жыхарам таксама сёе-тое перападала, так што любілі грамадзяне свайго Гандляра шчыра, пакуль ім ад гэтых багаццяў сёе-тое даставалася. Гандляр ведаў, што ў яго краіне многіх патрэбных рэчаў няма, асабліва тых, якія можна есці, але ён іх купляў у іншых краін, дзе не было карысных радовішчаў, але дзе добра ўмелі рабіць гэтыя самыя патрэбныя рэчы.

І здавалася, што менавіта такі шлях прывядзе да ўсеагульнага шчасця і дабрабыту. Мала таго, самыя блізкія суседзі пачалі зайздросціць і паспрабавалі ўвесці такую ж дабратворную сістэму ў сябе. Адны атрымлівалі шмат (гэта не бяда), іншыя паменш (таксама задаволеныя), астатнія падзялілі тое, што заставалася. Заставалася зусім няшмат, а жыхары гэтай краіны былі людзьмі ганарлівымі, і ім уся такая сістэма (як у суседзяў) моцна не спадабалася. Выйшлі яны на вуліцы і выкінулі свайго (больш дробнага) Гандляра з краіны. Тады гэта не спадабалася вялікаму Гандляру. Як, маўляў, гэта так, бо мая ж краіна добра жыве і жыхары ўсім задаволеныя, чаго ж там тыя (такія-сякія) яшчэ хочуць? І вырашыў пакараць. У іх там (у суседзяў) нейкі паўвостраў дрэнна ляжаў, давай забярэм... І забраў. Тавары далёкім суседзям прадаваць пачаў таннней, чым блізкім. А свае жыхары ў захапленні: вось які наш Гандляр, нікога не баіцца, да нашай найвялікшай краіны яшчэ кавалачак дадаў. Радасць абсалютная. Задаволеныя ўсе, але не сам вялікі Гандляр. Што ў іх там яшчэ дрэнна ляжыць смачнае? Забраць бы яшчэ, лішнім не будзе...

Сам Гандляр у тыя справы, як ён сам усіх запэўніваў, не ўмешваўся. Гэта, кажа, усё яны, нейкія невядомыя чалавечкі робяць, быццам бы з Марса, а можа і яшчэ адкуль... А далёкія суседзі мелі вочы не тое каб на патыліцы, а нават у космасе, усё бачылі, і ім гэта моцна не спадабалася. Як у тым напачатку згаданым маленькім горадзе адзін чалавек адразу падазраваў Гандляра ў несумленнай гульні. Звалі яго проста — Шэрыф. А тут шэрыфаў аказалася значна больш, і ім паводзіны Гандляра таксама здаліся звычайным махлярствам, яны пачалі выхоўваць яго. Так, спачатку павольна, не розгамі, а ўгаворамі. Але вялікі Гандляр не сунімаўся, бо яго ўсе жыхары падтрымлівалі. Яны не разумелі, што ўсе гандлёвыя шчадроты і падарункі нездарма рабіліся, а менавіта для такіх вось сітуацый. І дружна закрычалі: «Ату іх, супастатаў!».

І пайшлі (некаторыя нават добраахвотна) расчышчаць Гандляру дарогу да яго любімага паўвострава. А Гандляр успомніў пра вялікую Кнігу — Біблію. Там (ён не чытаў усю кнігу) недзе было сказана, што левая рука не ведае, што робіць правая. І адной рукой пачаў даваць сваім і чужым усялякія там танкі, гарматы і ракеты, а другой — пісаць паперы, што не ведае ён, маўляў, што там робяць яго ўдзячныя грамадзяне. І за што яны там паміраюць. Жыхары краіны, атрымаўшы жаданыя рэчы накшталт зарплаты ці пенсій, не зразумелі, што за гэтыя патрэбныя рэчы хутка давядзецца расплочвацца ўтрая даражэй, і не толькі грашыма і прадуктамі, але і жыццямі...

Шэрыфы з усяго свету і так і гэтак яго ўломвалі, але нічога не мянялася, не хацеў Гандляр ні паўвостраў вяртаць, ні свае прынцыпы перагледжваць. Тады шэрыфы цэны на ўсе яго тавары знізілі. У адказ ён падняў цэны для сваіх радасных суграмадзянаў. Баш на баш. Вы — ніжэй, я — вышэй... І зноў народ радуецца. Праўда, краіне-суседу дрэнна, але і гэта Гандляру па душы. Тут, аднак, і свае пачалі было нешта лішняе казаць і дазваляць, дык ён ім хуценька раты заткнуў, новыя забаронныя законы напісаў. А ў яго яшчэ адна магутная зброя была, яе ён і ўжыў. Страшнай забойнай сілы зброя — прапаганда! Ён, маўляў, самы лепшы, і без яго ўсё абрынецца, а астатнія — так, нішто. Тэлебачанне і большасць так званых СМІ гэта пацвердзілі. Вось так яны і жывуць да гэтага часу.

У тым далёкім, Богам забытым гарадку Гандляр захацеў увесь населены пункт падараваць, але не атрымалася. І чым спрабаваў? Дынамітам, па-старому. А ў сучаснага Гандляра ёсць нешта круцей дынаміту, ды яшчэ і з кампутарным навядзеннем. Там, у гарадку, толькі палова яго ўзляцела на паветра, аднак сам Гандляр ацалеў. Гэты вялікі Гандляр таксама спадзяецца ацалець, у яго ўласнае надзейнае сховішча ёсць, раптам уратуе. Што станецца з горадам, краінай, народам і таго Гандляра, і гэтага мала цікавіць. Галоўнае, выжыць самому і спакойна памерці ад старасці...

Вось такая гісторыя. Нібыта як казачная, фантастычная. Але я не казачку прыдумаў, а проста пераказаў раман знакамітага пісьменніка Стывена Кінга «Патрэбныя рэчы». Толькі параўнаў раман з нашым часам. Шкада, што гандляры больш прадаюць «патрэбныя» рэчы, у тым ліку і кнігі, а не чытаюць іх самі. А то б маглі задумацца і пастараліся б неяк выправіць гэтае бядотнае становішча — у сваім горадзе (ці краіне), ды і суседніх таксама. Хоць наўрад ці такое здарыцца.

Цуды бываюць толькі ў кнігах...

# Саюзнае папаўненне

**На пасяджэнні Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, якое адбылося 16 снежня, у шэрагі арганізацыі былі прынятыя шэсць літаратараў.**



**Разалія Адамаўна Александровіч** нарадзілася 4 траўня 1956 года ў сям'і беларускіх татараў. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, магістр філалогіі (1984). Працуе метадыстам у аддзеле метадычнага забеспячэння дашкольнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. Закончыла аспірантуру НІА (2006). У суаўтарстве з Т. Нескаромнай выдала кнігу «Зямля з блакітнымі вачыма». Займаецца даследаваннем гісторыі і культуры беларускіх татараў.



**Андрэй Пятровіч Аляхновіч** нарадзіўся 8 красавіка 1963 года ў мястэчку Халапенічы Крупскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і службоўцаў. Атрымаў вышэйшую педагагічную адукацыю. Працаваў настаўнікам гісторыі і сацыяльным педагогам. Па выніках 2000 года быў прызнаны найлепшым педагогам рэспублікі ў намінацыі «Пазашкольнае выхаванне». У 1998 годзе стварыў разам з сябрамі і ўзначаліў грамадскую краязнаўчую арганізацыю «Харугва скаўтаў Малога Палесся», якая выдае тэматычны альманах.



**Уладзімір Ігаравіч Глазаў** нарадзіўся 22 красавіка 1974 года ў Брэсце. Скончыў школу, вучыўся на філфаку Брэсцкага педагагічнага інстытута. Першыя вершы апублікаваў у 1991 годзе. З 2010-га супрацоўнічае з газетай «Брестский курьер». Аўтар паэтычнага зборніка «Время собственное».



**Анатоль Казіміравіч Малюк** нарадзіўся 21 сакавіка 1938 года ў вёсцы Кудаюнцы Воранаўскага (былога Радунскага) раёна ў сялянскай сям'і. Пачаў навучанне ў Гродзенскім пединстытуце (гісторыка-філалагічны факультэт), пасля перавёўся ў Мазырскі пединстытут, філалагічны факультэт якога закончыў у 1963 годзе. Кандыдат філалагічных навук (1980), дацэнт (1987) Гомельскага дзяржуніверсітэта. Доўгі час з'яўляўся сябрам Рады па абароне кандыдацкіх дысертацый у гэтым універсітэце, 10 гадоў узначальваў кафедру беларускай мовы. Узнагароджаны медалём «Ветэран працы», знакам «Выдатнік народнай адукацыі БССР», Ганаровай граматай Міністэрства асветы Беларускай ССР. Аўтар паэтычнай кнігі «Дабравесце».



**Вера Данілаўна Міцкевіч** нарадзілася ў Мінску ў 1961 годзе. Родны дзед па лініі бацькі — народны паэт Беларусі Якуб Колас. Скончыла Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (цяпер — БДЭУ). У 1982—1991 гг. працавала таваразнаўцам, экспертам Бюро экспертыз Гандлёва-прамысловай палаты БССР, старшым лабарантам на кафедрах таваразнаўства. У 1991—2001 гг. — вядучы навуковы супрацоўнік аддзела фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. З 1993 года выступае ў друку з публікацыямі пра малавядомыя старонкі жыцця і творчасці Якуба Коласа. З траўня 2006 года працуе бібліятэкарам сектара навуковых работнікаў аддзела бібліятэчнага абслугоўвання Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.



**Раіса Міхайлаўна Раманчук** (Шымко) нарадзілася 20 красавіка 1957 года ў вёсцы Літáраўшчына Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла Варанчанскую сярэднюю школу, прафесійна-тэхнічнае вучылішча (па спецыяльнасці повар), тэхнікум лёгкай прамысловасці (тэхнік-тэхнолаг). З 1979-га 33 гады адпрацавала тэкстыльшчыцай (ад кантралёра якасці да брыгадзіра вытворчасці), ветэран працы. Свой першы верш надрукавала ў 1972 годзе ў Карэліцкай раённай газеце. Друкавалася ў рэгіянальнай і рэспубліканскай прэсе, калектыўных зборніках. Аўтар кнігі «Сцежка ў дзяцінства».

Віншуем і жадаем усім доўгага і плённага веку ў літаратуры!

**Прэс-служба СБП**

## ЛЮТАЎСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Уладзімір Нічыпаравіч Марудаў (нар. 04.02.1950)
Ала Іванаўна Канапелька (нар. 14.02.1960)
Галіна Паўлаўна Тварановіч-Саурук (нар. 17.02.1955)
Людміла Іванаўна Сіманёнак (нар. 19.02.1975)
Вячаслаў Ціханавіч Вольскі (нар. 27.02.1935)
Ала Мікалаеўна Петрушкевіч (нар. 27.02.1960)



Жадаем усім радасці,
натхнення і дабрабыту!

# «Палац» №2

**Пабачыў свет другі нумар літаратурнага альманаха «Палац», які выдаецца Гомельскім абласным аддзяленнем ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і прысвечаны творчасці мясцовых літаратараў і ўвогуле культурнаму жыццю рэгіёна.**




У зборніку апублікаваныя паэзія, проза, творы для дзяцей, а таксама краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя матэрыялы. Звяртаецца ўвага і на гісторыю Гомеля, і на захаванне памяці творцаў ды іх пісьменніцкай спадчыны, і на традыцыйную культуру беларусаў.

У выданне ўвайшлі тэксты на беларускай і расійскай мовах 37 аўтараў.

Першая прэзентацыя альманаха адбылася ў Гомельскім Палацы Румянцавых-Паскевічаў — з удзелам як гомельскіх аўтараў, так і іх калегаў з Мінска.

# «Ратуша» №1

**У Віцебску прайшлі дзве прэзентацыі доўгачаканага першага нумара літаратурнага альманаха «Ратуша» Віцебскага абласнога аддзялення СБП.**



Фота Алены Мартынавай




З яго з'яўленнем усе пяць абласных філій грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» упершыню ў гісторыі адначасова займелі свае штогадовыя выданні.

Першая сустрэча прайшла ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя Машэрава, дзе студэнтам прадставілі сваю творчасць сябры філіі ГА «СБП» Ірына Грумандзь, Анастасія Лазебная, Міхась Мірановіч, Уладзімір Папковіч і іншыя літаратары Віцебшчыны, чые творы апублікаваныя на старонках выдання.

Перад аўдыторыяй таксама выступіў старшыня СБП Барыс Пятровіч, які распавёў пра Школу маладога пісьменніка, што трэці год працуе пры СБП, і заахвоціў пачаткоўцаў смялей спрабаваць свае сілы ў літаратуры і ўдзельнічаць у конкурсах.

Другая сустрэча адбылася ў славутай гарадской Ратушы (Віцебскім абласным краязнаўчым музеі) і сабрала вялікую колькасць цікаўнай публікі, а таксама мясцовых аўтараў ды мінскіх гасцей.

Імпрэзу адкрыў прывітальным словам Пётр Падгурскі — начальнік аддзела культуры Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама.

Да прысутных звярнуліся старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч і першы намеснік старшыні СБП Алесь Пашкевіч, павіншаваўшы грамаду з новым здабыткам на ніве літаратуры і культуры Віцебскага краю.

Адметным сваім пазітывам і шчырай непасрэднасцю сталася выступленне вядомага віцебскага празаіка Франца Сіўко. Напрыканцы выступу ён пажадаў плёну і поспехаў новай старшыні філіі і ўкладальніку штогадовіка Анастасіі Лазебнай.

Прыемным прэзентам сталася выступленне барда Алеся Камоцкага, што адбылося ў фінале імпрэзы.

Вечарына завяршылася аўтограф-сесіяй тых аўтараў, якія апублікаваліся на старонках першага нумара «Ратушы».

# Сход Брэсцкага аддзялення СБП

**Важная падзея адбылася ў жыцці літаратурнай Берасцейшчыны — у абласным цэнтры прайшоў чарговы справаздачна-выбарчы Сход.**

Сабралася бальшыня сяброў філіі, а таксама старшыня Саюза Барыс Пятровіч, першы намеснік СБП Алесь Пашкевіч, памочнік старшыні Усевалад Сцебурака.

На парадку дня былі пытанні аб праведзенай філіяй працы, аб выданні літаратурнага альманаха Берасцейшчыны «Жырандоля», аб дзейнасці старшыні абласной арганізацыі Івана Мельнічука, які пераеміў пачэсную грамадскую пасаду ад Ніны Мацяш. У справаздачных дыскусіях удзельнічалі Лявон Валасюк, Іван Мельнічук, Леанід Філатаў. Слова бралі і іншыя сябры філіі, у прыватнасці, галоўны рэдактар газеты «Брестский курьер» Мікалай Аляксандраў, які распавёў пра супрацу яго выдання з філіяй у сферы падтрымкі маладых літаратараў-пачаткоўцаў.

У выніку абмеркавання сход прызнаў працу старшыні абласнога аддзялення і мясцовай рады задавальняючымі і перайшоў да выбарчай часткі. Большасцю галасоў на пасаду быў пераабраны Іван Мельнічук, які і прыступіў да выканання абавязкаў (для яго гэта другі тэрмін).

Да сходу звярнуліся таксама Алесь Пашкевіч і Барыс Пятровіч. Старшыня распавёў пра асноўныя накірункі дзейнасці пісьменніцкай арганізацыі, павіншаваў прысутных з 80-годдзем ГА «СБП», што святкуецца сёлета, а таксама ўручыў пасведчанні новым сябрам пісьменніцкай грамады — Уладзімеру Глазаву (Брэст) і Раісе Раманчук (Баранавічы), якія былі прынятыя ў сябры арганізацыі на Радзе 16 снежня ў Мінску.

Берасцейская абласная пісьменніцкая арганізацыя ГА «СБП» з'яўляецца набольшай па колькасці сяброў і адным з лідараў у грамадскай і творчай актыўнасці.

# «Выбранае» Анатоля Кудраўца

У серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў (выдавецтва «Кнігазбор») пабачыла свет кніга майстра прозы Анатоля Кудраўца (1936—2014).

У зборнік увайшлі выбраныя апавяданні і аповесць «Развітанне», у якіх выяўляецца стылістычная каларыстыка, грамадзянская актуальнасць і багаты праблемна-тэматычны змест прозы Анатоля Кудраўца. А да ўсяго — і прачулы лірызм: «Вясна, як і хвароба, пачынаецца з прадчування. Яшчэ на двары мароз, быццам зіма ў самай сіле ці нават набірае разгон, хапнеш раніцай носам паветра — і закіпяць на вачах слёзы. І снег валіць — машыны не паспяваюць вывозіць за горад. А падыдзеш да акна, зірнеш на шэрае з прозеленню неба, на вугал суседняга дома, — снег ля яго асеў, закрамянеў ад сонца, — і нешта варухнецца ўсярэдзіне: вясна, яшчэ адна вясна...» (з «Успаміну пра шэршня»).

# Уладзімір Калеснік: жыццё пасля жыцця

**Дваццаць гадоў сыходу з жыцця ўжо сама па сабе — сур'ёзная нагода, каб звярнуцца да асобы і творчай спадчыны Уладзіміра Калесніка.**



Творчай спадчыны прафесара і шматгадовага загадчыка кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, таленавітага вучонага-літаратуразнаўцы і пісьменніка, аднаго з карыфеяў беларускай гуманістычнай думкі другой паловы XX стагоддзя.

Уладзімір Калеснік быў яскравым прадстаўніком гуманітарнай навукі ў класічным рэнесансавым разуменні і ўспрыняцці гэтага феномена як сукупнасці самых разнастайных ведаў і навук аб чалавеку і грамадстве: філасофіі, гісторыі, літаратуры, рэлігіі, жывапісу, медыцыны і інш.

Вучоны-энцыклапедыст і носьбіт універсальнай гуманітарнай веды, ён яшчэ ў савецкія часы чытаў лекцыі па эстэтыцы для дактароў і медперсаналу ў медыцынскіх установах Берасця, на прафесійным узроўні займаўся жывапісам, фатаграфіяй, разьбой па дрэве. Дасканала ведаў не толькі ўласна гуманітарныя дысцыпліны (літаратуру, фальклор, філасофію, грамадзянскую гісторыю і гісторыю мастацтваў і рэлігіі), але і практычны бок жыцця: земляробства, цяслярства, плытагонства (бацькаў занятак) і г.д.

Каштоўнасць асобы, навуковай і творчай спадчыны Уладзіміра Калесніка тым больш значныя, што ягоны жыццёвы шлях пралёг праз жыццё ў Заходняй Беларусі, выпрабаванні Другой Сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў. Значны ўплыў на ягоны светапогляд як пісьменніка і вучонага аказалі дзве хвалі грамадска-палітычнай лібералізацыі і духоўна-творчай эмансіпацыі ды разняволення грамадства ў часы хрушчоўскай адлігі і гарбачоўскай перабудовы сярэдзіны 80-90-х гадоў, якія стымулявалі і накіроўвалі ягоную навуковую і творчую ініцыятыву і дзейнасць. Пісьменнік разумеў, што ў такія перыяды абуджэння грамадства патрэбныя новыя арыенціры, якія б адпавядалі стоеным чаканням і ўнутраным патрэбам народа.

Агромністы жыццёвы вопыт, змена розных грамадска-палітычных і ідэалагічных укладаў і арыентацый стымулявалі ягонае станаўленне як даследчыка-канцэптуаліста, тэарэтыка, які ішоў ад канкрэтных фактаў і жыццёвых назіранняў да тэарэтычных асэнсаванняў і высноў, стварэння шырокай панарамнай карціны гісторыка-літаратурнага працэса. Вузкапрофільнасць, дробнатэм'е, фрагментарнасць, якія пануюць у сучаснай гуманітарнай навуцы, былі не ягоным выбарам.

Глыбокія і разнабаковыя тэарэтычная гуманітарныя веды і веданне рэальнага жыцця спалучаліся і выяўляліся ў арыгінальных літаратуразнаўчых і мастацкіх назіраннях Уладзіміра Калесніка.

Гуманітарныя даследаванні, навука, якую ствараў Уладзімір Калеснік, былі ўсталяваны не толькі на трывалым фундаменце традыцыйнай гісторыка-культурнай школы і прынцыпах марксісцка-ленінскай дыялектыкі, але насілі сістэмны, канцэптуальны характар, вылучаліся глыбінёй і народным поглядам на жыццёвыя з'явы.

Цэласны падыход да аб'ектаў навуковага даследавання, шырыня і энцыклапедызм ведаў у іх міждысцыплінарных узаемасувязях і прычынна-выніковай абумоўленасці былі асновай ягонага даследчыцкага метаду і поспехаў у распрацоўцы ідэалогіі і эстэтыкі Беларускага Шляху як скразнога, магістральнага напрамку даследаванняў, пазначаных выхадам і публікацыяй у друку такіх знакавых для беларускага літаратуразнаўства прац, як «Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура» (1959), «Час і песні» (1962), «Зорны спеў» (1975), «Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі» (1977), «Тварэнне легенды» (1987), «Усё чалавечае» (1994).

Якраз у гэтай паслядоўнасці выхаду кніг-манаграфій, у якіх даследчык рухаўся ад заангажаванай сацыяльнымі і нацыянальнымі праблемамі літаратуры Заходняй Беларусі да рамантызму і захаплення айчыннай гісторыяй, адраджэнскімі постацямі Францыска Скарыны і Міколы Гусоўскага, заключалася ягонае спасціжэнне Беларускага Шляху як тварэння нацыянальнай легенды, ветразем якой з'явіўся паслядоўны гуманізм, аб чым ён так яскрава заявіў у сваёй апошняй, развітальнай кнізе «Усё чалавечае...».

Уладзімір Калеснік быў адным з першых у беларускім літаратуразнаўстве 50-70-х гадоў, хто вельмі хутка зразумеў, што актуальны сацыяльны і рэвалюцыйны змест літаратуры (а менавіта такой пераважна была масавая паэзія Заходняй Беларусі) не вычэрпвае і далёка не раскрывае ўсяго багацейшага зместу нацыянальнага жыцця, якое ўгрунтавана на тысячагадовым вопыце і традыцыях народнага жыцця. Што масавай літаратуры Заходняй Беларусі для мастацкага самапазнання катастрафічна не стае гістарычнай глыбіні і рэтраспектывы, праявы якіх ён назіраў у лепшых творах М. Гарэцкага, В. Ластоўскага, У. Жылкі, Н. Арсенневай, М. Танка. Адсюль ягоны зацікаўлены зварот да літаратуры эпохі Сярэднявечча і Рэнесансу, да асобы і творчасці Ф. Скарыны і М. Гусоўскага, пра якіх яму ўдалося сказаць сваё глыбокае і арыгінальнае слова.

Як даследчыка і мастака яго вылучалі найперш маральна-эстэтычная чуласць, непрыманне і адпрэчванне амаральнасці, крывадушша і фальшу. Праўда — якой бы цяжкой і горкай яна не была — стаяла за ўсім, што б ён не рабіў, пісаў ці думаў. Яна была адзіным, самым высокім і годным крытэрыем ягоных ацэнак, паводзін, маральнай пазіцыі, якая ўзвышала даследчыка над усімі прыяцельскімі, сямейна-сваяцкімі, ідэалагічнымі і іншымі прыхільнасцямі і сімпатыямі, бо была бясспрэчнай асновай нармальнага чалавечага жыцця і стасункаў паміж людзьмі.

Аб гуманістычных і маральных прынцыпах, што ляжалі ў аснове навуковай і пісьменніцкай этыкі Уладзіміра Калесніка, выразна сведчыць расказаны ім у аўтабіяграфічнай кнізе «Доўг памяці» адзін з эпізодаў жыцця аднавяскоўцаў пад Польшчай: «За зямлю, за правы ўладаць ёю ішлі бойкі і здараліся забойствы. На прадзіўленне ўсе злачынствы на глебе ўласніцтва вельмі лагодна караліся ўладамі. Так, Аляксееў малодшы брат Уладзік, будучы прымаком у Яромічах, забіў вечарам на полі швагра і трапіў у турму ўсяго на тры гады, ды і то ўладкавалі яго там кашаварам, так што вярнуўся выпасвеным, з гладкаю мордай і прыстойным пузам. Дзівіліся людзі, а чулыя да праўды — пляваліся і адварочваліся ад забойцы, не пазнавалі, бо пазнаваць жа азначала хоць часткова мірыцца з яго ўчынкам, дапускаць, што і такое правамерна ў жыцці».

Не дзіўна, што гуманітарную навуку, сферу адукацыі, асветы і школьніцтва Уладзімір Калеснік разглядаў як справу грамадзянскую, якая павінна палепшыць духоўны стан грамадства, вызначыць для яго сэнсоўныя гуманістычныя мэты, а таксама ідэйныя, маральныя і эстэтычныя імператывы.

У гэтым сэнсе вузаўская навука, у параўнанні з акадэмічнай, была для прафесара асаблівай сферай, бо была звязана з жывым працэсам адукацыі і выхавання грамадства, адчувала жывыя токі і патрэбы, якія ішлі ад людзей, і аказвала на іх самы непасрэдны і дзейсны ўплыў. Менавіта пагэтаму пастаянны і сістэматычны занятак навукаю Уладзімір Калеснік лічыў важнейшай асновай паспяховай і прадуктыўнай вучэбна-педагагічнай дзейнасці прафесарска-выкладчыцкага складу. Навукова-тэарэтычную аснашчанасць лекцый і практычных заняткаў, абазнанасць выкладчыкаў у навейшых дасягненнях сучаснай гуманітарнай навукі, уменне творча выкарыстоўваць іх у вучэбным працэсе, пры аналізе мастацкіх твораў, разглядаў як асноўны крытэрый іх вартасці.

Паводле ягонага цвёрдага перакanання, без навукі няма прафесійнага творчага росту выкладчыка ВНУ. Таму якасці і актуальнасці навуковых даследаванняў выкладчыкаў прыдаваў асаблівае значэнне, бачыў кожнага, сачыў за прафесійным ростам, чытаў усе публікацыі, якія папярэдне выносіліся на абмеркаванне. «Брэсцкая марка» літаратуразнаўчай навукі пры ім стаяла і каціравалася ў рэспубліцы надзвычай высока. Нездарма са сцэнаў берасцейскай almamater выйшлі такія вядомыя ў Беларусі вучоныя-літаратуразнаўцы, як акадэмік НАН Беларусі У. Гніламёдаў, доктар філалагічных навук М. Тычына, прафесары І. Шпакоўскі, А. Майсейчык, В. Зарэцкая, цяперашняя плеяда ўніверсітэцкіх філолагаў-навукоўцаў, якія працягваюць традыцыі Калеснікавай школы.

Уладзімір Калеснік ніколі не баяўся ісці нецярэбленымі сцежкамі, часта выклікаючы агонь на сябе, уступаючы ў вострую палеміку з сталічнымі аўтарытэтамі, калі гэта пярэчыла ягонаму досведу вучонага і грамадзяніна.

Такой была, у прыватнасці, ягоная прынцыповая пазіцыя ў дачыненні да тэорыі так званага паскоранага развіцця беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, у якой паскоранасць тлумачылася амаль выключна ўплывамі высокаразвітых літаратур суседзяў і ў цэлым сусветнай літаратуры, пры гэтым недаацэньвалася роля нацыянальнага фальклору як фактару яе арыгінальнасці і самабытнасці.

Сваёй прыцягальнай асобай, аўтарытэтам незалежнага вучонага і таленавітага пісьменніка Уладзімір Калеснік тварыў і ствараў вакол сябе самадзейную супольнасць творчых людзей, сімвалам і прытулкам для якіх станавілася «Берасцейскае вогнішча» — як ён сам акрэсліў асяроддзе, дзе пануе няўрымслівы дух творчага гарэння... Ён любіў гэтае таварыскае кола сяброў-літаратараў, вучоных і мастакоў, выкладчыкаў і студэнтаў-пачаткоўцаў, людзей розных узростаў і прафесій, якіх яднаў агонь святой і чыстай любові да радзімы, роднага слова, літаратуры, паэзіі, мастацтва, навукі.

У гэтым коле блізкіх па духу людзей ён быў для ўсіх не проста старэйшым сябрам, настаўнікам, але паходняю, носьбітам высокага і ахвярнага Праметэевага агню, што здабываў і выкрэсваў настойлівай і ўпартай працай на ніве айчыннага пісьменства і культуры.

Захоплены і натхнёны ідэямі слугавання радзіме, людзям роднага краю, ён пачуваў сябе чалавекам Адраджэння, пераемнікам гуманістычных і асветніцкіх традыцый Ф. Скарыны і М. Гусоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Танка і інш. Ягоны магутны творчы дух і грамадзянскі тэмперамент, энцыклапедычныя веды і эрудыцыя вучонага выклікалі ў малодшых не толькі пашану, але і настойлівае жаданне вучыцца, пазнаваць, тварыць. І на гэтай дарозе ён быў для іх настаўнікам, бацькам, сябрам. Ён прыкмячаў кожны новы талент і быў шчаслівы адчуваннем, як расце і шырыцца знутры Беларусь!..

Імя гэтага выдатнага чалавека — Уладзімір Калеснік.

Ужо два дзесяцігоддзі як яго няма разам з намі. І замяніць яго ў той ролі і на тым месцы, якое ён займаў у літаратурным і культурным жыцці Берасця і Берасцейшчыны ў 50-90-х гг., не пад сілу аднаму чалавеку. Зрабіць гэта магчыма хіба што ўсім разам, з'яднаўшы свае намаганні і творчыя сілы дзеля духоўнага прагрэсу чалавека і грамадства, росквіту Айчыны.

**Генадзь ПРАНЕВІЧ,**
**www.bk-brest.by**

# Людміла Сільнова: «Чытаю не **што**, а **каго**»…

***— Шаноўная Людміла Данілаўна, у Вашай творчасці заўсёды ёсць месца пошуку і эксперыменту: «Рысасловы», транслінгвізм і спробы ствараць уласную мову… Гульня са словам, лінгвістычныя эксперыменты Вас па-ранейшаму захапляюць?***

— Так. Відаць, гэта асаблівасць майго характару… Толькі цяпер я пра гэта сказала б не так узнёсла — «са словам», а больш прыземлена, як практык, — «са словамі». Словы як маленькія энергетычныя складнікі, празрыстыя «кубікі» нашай чалавечай культуры мяне па-ранейшаму цікавяць, а ў працэсе назірання, выкарыстання, гульні, зрэдзьчас і эксперымента — захапляюць! У мяне растуць унукі-дашкольнікі, і ў час блізкага кантактавання з імі я разумею, што вялікі свет адкрываецца мне нанова. У трэці раз (пасля сябе і ўласных дзяцей). Хіба гэта не падарунак для паэта? Наогул, для чалавека? Мне здаецца, што жыццё — гэта сума хваляў (накіраваных працэсаў). Шкада, што ў Беларусі няма натуральнага мора. Добра, што ёсць азёры. Іх празрыстыя хвалі — мадэль асяродка для чалавека.

Сучасны прыклад натуральнай моўнай гульні. Калі трохгадовае дзіця на празмерна стракатыя і крыклівыя серыйныя мультфільмы, або «мульцікі», што на экране тэлевізара, нейкі час упарта кажа «муць». Гэта і ступень вымаўлення слова, і наіўны прысуд, і нагода для смеху… У спрактыкаванага дарослага адразу ўключаецца вясёлая гульня асацыяцыяў.

Цікава яшчэ, што слова можа быць не толькі маленькім складнікам культуры, але і вялікім, вельмі вялікім, нават пагрозліва вялікім. Напрыклад, як камп'ютарная каманда, спартыўны сігнал, вайсковы загад або гукавое «адзенне» свяшчэннага сімвала. Роля словаў у мастацкай творчасці таксама вялікая. Асабліва ў паэзіі — гэтым згушчаным рэчыве, падобным да завярдзелых кавалкаў замерзлай вады, колатага лёду ці крышталю. Параіла б моладзі вучыцца бачыць у словах, перафразуючы модны выраз — кніжную назву, «сто адценняў празрыстага».

***— Вы захапляецеся маляваннем і вырабам кніг з тканіны і нетрадыцыйных матэрыялаў. Як уплывае гэтае хобі на літаратурную творчасць? У чым знаходзіце крыніцу натхнення?***

— Сёння я, на жаль, маю менш магчымасцяў займацца сваім хобі (а асноўная магчымасць і рэсурс творчага чалавека — вольны час!)… У маладосці «штучных кніжачак» стварала больш. Гэта былі вынікі творчага перайманння (Пушкін, Маякоўскі, Хлебнікаў, Апалінэр), самаадукацыі, эксперымента, нешта для сумесных калектыўных праектаў («Арт-прагноз-96»), нешта як водгук на творчасць калег-паэтаў (Разанаў, Артханаў, Глобус), а нешта як падарунак на



Дзень народзінаў блізкім і знаёмым ці да іншага свята. Напрыклад, Дзень святога Валянціна так і спрыяе вырабу нечага з рукадзелля!

Ёсць яшчэ ў памяці і творчых сшытках архіў нерэалізаваных — нематэрыялізаваных! — падобных ідэяў! Спадзяюся, як прыйдзе час, да іх вярнуцца. Хутчэй — да іх звярнуцца, бо я нікуды ад іх не сыходзіла, яны заўсёды са мной. Там, у душы, недзе на асветленых сонцам лясных сунічных палянах… Каля невысокіх дрэваў, у пахкім зялёным імху, там бруіцца і халодная крыніца майго натхнення.

Як дарослага чалавека, які «ў пошуках радасці» мае ўжо «трэцяе пакаленне», адлічваючы ад сябе і сваіх равеснікаў, сёння мяне натхняе само жыццё. Яго цяпер ужо заўважна неспасцігальная тайна. Гэта нечаканы выклік чалавеку са свецкай адукацыяй 60–70-х гадоў мінулага стагоддзя. І гэты факт цяжка без горычы ўсвядоміць ды прыстасавацца да сваёй мадэлі сусвету. Тут дапамагае не рацыянальнае, а вобразнае мысленне.

Паступова прыходзіць адчуванне жыцця як яркага, рознакаляровага дарунка. Можа быць, кнігі. А каму — лялькі, цацачнай машыны, будаўнічага набору, мазаікі… Прымі, будзь удзячны і гуляйся з ім да Змяркання. Пакуль ласкавая маці не возьме цябе за руку і не павядзе, стомленага, у ложак.

***— А што Вы самі чытаеце цяпер і на што звярнуць увагу параілі б нашым чытачам?***

— Я чытаю не «што», хутчэй «каго». З нядаўняга часу я вынайшла шлях больш хуткага пошуку добрай (ці проста цікавай) мастацкай літаратуры, а менавіта: чытаць усе кнігі раз упадабанага аўтара. Сёння гэта пісьменнік, літаратуразнаўца, журналіст і вандроўнік Пётр Вайль (кнігі «Родная мова», «Руская кухня ў выгнанні», «60-я: свет савецкага чалавека», апошняя па часе «Слова ў дарозе»; усе на расійскай мове, частка напісана ў суаўтарстве). А летам я чытала ўнікальны раман Алеся Усені «Грэх». Раман унікнуў многіх праблемаў беларускай мастацкай прозы, і найперш назалелых часу і месца. Ён гістарычны, але не ў стылі дакументальнай прозы ці фэнтэзі, а я б сказала «неарэалізму». Усё апісана настолькі блізка да рэальнасці, што недзе ўжо і чуецца, бачыцца, халодзіць: гэта рэальнасць!

Чытачам «новачаснай» «Літаратурнай Беларусі» я б параіла пачытаць яшчэ арыгінальныя беларускія паэтычныя і гульнявыя кніжкі апошняга часу, якія сталіся нечаканым адкрыццём: «Дзіцячая заМова» Глеба Лабадзенкі, «Раннія вершы» Таццяны Сапач, «АКРЫ» Арцёма Кавалеўскага. Школа гульні са словамі і кніжкамі працягваецца!

**Алесь Сачанка**

# Той ліст да мяне

**…Як сон, мільгне першая сустрэча з Генадзем Бураўкіным і Міхасём Стральцовым у Віцебску, на семінары маладых творцаў. І тыя словы Генадзя: «Трэба пісаць на той мове, на якой маці спявала над калыскай».**



Фота Глеба Лабадзенкі

Старэйшыя пісьменнікі ўгледзелі маю паэтычную душу, прынялі ў сваю і схілілі ў правільнае русла. У часопісе "Маладосць" быў змешчаны мой верш "Гадзіннік" — першы на роднай мове. А да гэтага друкаваліся ў газетах рускамоўныя вершы.

У «Маладосці» я і пазнаёмілася з добрым чалавекам — Міколам Якаўлевічам Аўрамчыкам. Ён няньчыўся там з юнымі летуценнікамі, выяўляў і падтрымліваў літаратурную змену. Рыхтаваў па-бацькоўску, ветліва і сур'ёзна. Ён, мусіць, каля трох дзясяткаў гадоў запускаў у паэзію юнае племя праз «Маладосць».

З верша «Гадзіннік» я і пайшла патрыятычнай сцяжынай — беларускай. Мікола Якаўлевіч чытаў мае слабенькія вершы і ветліва, сур'ёзна хваліў, мякка адштурхоўваў рыфмаваную кволь — даваяраў маёй душы, якая прадчувала паэтычныя вобразы, хацела паэзіі, але яшчэ не натрапіла на думную крыніцу.

Сёння я з удзячнасцю згадваю ягоную працу ў аддзеле паэзіі. Ён заўсёды адзываўся на вершы, дасланыя ў часопіс. «Марыя, — казаў ён, — ты ж мінулы раз прыслала куды лепшы верш, чым гэты на тую самую тэму. Прышлі яшчэ што-небудзь грамадзянскае — і атрымаецца добрая падборка». Ён, такім чынам, прыдаваў маладым аўтарам натхнення, падштурхоўваў да працы літаратурнай.

Мілы Мікола Якаўлевіч, ён прайшоў жыццёвыя выпрабаванні франтамі, палонам, шахтамі і спачуваў у горы-бядзе. Я знайшла ў сваіх паперах ліст да мяне на Каляды семдзесят другога года. Аўрамчык адгукнуўся на мой сум-жаль.

«Марыя!

Атрымаў твой кароценькі ліст — і неяк разгубіўся… Не ведаю, што сказаць табе, як дапамагчы ў тваім бязмерным горы?.. Выказваю табе сваё глыбокае спачуванне… Ні якое, вядома, спачуванне не верне ўжо маці, самага блізкага і дарагога табе чалавека…

Доўга не пісаў табе нічога наконт твайго зборніка, бо былі на гэта свае прычыны. Знаходзіўся ў дзьвюх працяглых вандроўках па краіне. А пасля гэтага навалілуся праклятыя грып, які час-ад-часу дае знаць пра сябе дагэтуль. І цяпер вось сяджу дома хворы.

Чакаў таксама вырашэння канчатковага лёсу тваіх вершаў, якія ты пакідала для «Маладосці». Цяпер у нас новы парадак у рэдакцыі: усе падборкі вершаў, падрыхтаваныя аддзелам для друку, чытаюць члены рэдкалегіі і выносяць вершам канчатковы прысуд. Твая падборка таксама знаходзілася ў іх. Вось толькі цяпер мне вярнулі яе, ухваліўшы да друку ўсяго два вершы. Я іх здаў у сакавіцкі нумар.

Зборнік твой я прачытаў даўно. Аснова кнігі ёсць… Усё тое, што варта ўключыць у зборнік, я адзначыў птушкай. Мінус паставіў на тых вершах, якія трэба зняць зусім. Пытальнікам адзначаны вершы, над якімі варта яшчэ папрацаваць, бо яны нейкія цьмяныя, невыразныя…

У вершах, падкрэсленых мною, няўдалыя радкі і словы. Іх варта павыпраўляць....

Зборнік пакідае нядрэннае ўражанне. Адзіная толькі заўвага ў мяне да яго: трошкі нейкія аднастайныя вершы ў ім па сваёй кампазіцыйнай будове. Нібыта як мімалётныя паэтычныя іскрынкі. Хацелася б, каб былі ў зборніку і нейкія сюжэтныя або апавядальныя вершы ці балады. Ад гэтага ён быў бы больш разнастайны і багацейшы… Наогул табе трэба падумаць над гэтым пры сваёй дальнейшай працы.

А пасылаць зборнік у выдавецтва можаш у хуткім часе. Праўда, якраз гэтымі днямі адбыліся некаторыя змены ў нашым выдавецтве. Цяпер выдавецтва «Беларусь» не будзе выпускаць мастацкія кнігі. Гэтай справай будзе займацца новае выдавецтва. Яно ўжо створана і будзе называцца, як быццам, выдавецтва мастацкай літаратуры. Адным словам, у бліжэйшыя дні пра гэта будзе надрукавана ў «Літаратуры і мастацтва».

Якія крокі ты будзеш рабіць цяпер у жыцці?.. Што будзеш рабіць з працай або вучобай?..

Жадаю табе ўсяго найлепшага ў жыцці!

Будзь мужнай і разважлівай!

З таварыскім прывітаннем М. Аўрамчык»

Вось чытаю і дзякую той ягонай тактоўнасці, уважлівасці, асцярожнасці і дабрыні.

Ну, якія там мае вершы былі? Цёплы смех, з душы, ад тых двух вершаў, што «ўхвалілі да друку», і ад рукапіса, які «пакідае нядрэннае ўражанне». А як падрабязна пералічвае хібы і не дае расчаравання! Наадварот, стварае надзею.

Хачу сказаць Міколу Якаўлевічу, гэтаму прамому, добраму, выносліваму беларусу, што я ўсё памятаю: і тыя кароткія сустрэчы ў рэдакцыі, размовы, і тую адкрытасць, з якой ён на нейкім нашым з'ездзе пісьменнікаў кінуўся насустрач і абняў.

Хачу сказаць Вам, дарагі Мікола Якаўлевіч, што Вы не пастарэлі — Вы распаўсюдзіліся ў сэрцах, у памяці тых юных паэтаў, якім шчыра давалі пуцёўку ў паэзію. Сардэчна зычу і Вам жаданых, промністых успамінаў пра маладосць і «Маладосць». І разам з чытачамі «Літаратурнай Беларусі» віншую з Вашым студзеньскім 95-годдзем!

**Марыя Баравік**

# На фоне маленькай радзімы



Мікола КАНАНОВІЧ

### Клямка

*Парэзаў клямкай палец — баліць!*
*Тут цёткі, дзядзькі, бацька малец,*
*Сябрук ягоны падшыванец*
*Вастрылі клямку з марай жыць.*
*Жыцці згарэлі іх каметай.*
*Адзін я ў хаце роднай гэтай*
*Цяпер пра тое узгадаў,*
*Як боль з-пад пазура працяў.*
*Памацаў клямку — вось жа дзіва!*
*Грамада рук яе вастрыла,*
*Ды гладзіў палец зверху ўніз,*
*О, клямка — родавы стрэптыз!*

*Сышлі, хто хату будаваў.*
*Тут бацька жыў — і ён сканаў.*
*Мы, дзеці, ўжо жывем не тут,*
*А тут — кут матчыных пакут.*
*Хаця заўсёды кажа маці:*
*«Мне жыць найлепш у сваёй хаце».*
*Але ўжо так занемагла,*
*Што ўчора ў бальніцу лягла.*

*У хаце пуста, ціха, ўтульна.*
*Я тут гарэлку п'ю культурна.*
*Адзін застаўся я з усіх,*
*Хто браў на грудзі і пад дых*
*Пад гэтым дахам нашым родным*
*За тое, каб быў род нязводным.*
*І вось адзін я. П'ю адзін.*
*Са мной не вып'е так мой сын,*
*Як піў я з бацькам і дзядзькамі —*
*Той свет разлёгся паміж намі.*
*Ды клямка вострая, як нож,*
*І болі маці — што найгорш...*

### Матылі

*Пад шклом, пад вокладкаю грузнай*
*Схавалі дзеці матылёў*
*Ад адмірала да капустных*
*І з агародаў, і з палёў.*
*Расплюшчана-сушона сутнасць*
*Ім захавала прыгажосць*
*І асабістую прысутнасць,*
*Калі матыль узімку ёсць.*
*Мне ж матылі — імгненні лета,*
*Якога ўжо не будзе больш,*
*Пад мёртвай вокладкай паэта*
*Чытаюць верш пра сонца й дождж.*

* * *

*Мая маленькая радзіма*
*Не прапусціла мяне міма*
*У край чужы, у край багаты —*
*Пакінула сядзець ля хаты*
*І зімаваць, і летаваць,*
*Касіць, палоць і асыпаць,*
*Саджаць, капаць і выбіраць,*
*Каб замачыць ды меру знаць.*
*...Мая маленькая радзіма*
*Са мной навечна недзяліма.*

* * *

*У сховах памяці трываўнае зацішша.*
*Дзяцінства цінькае сініцай за вакном,*
*Як запрашае, ці вярнуцца кліча*
*З вясною новай у бацькоўскі дом.*
*А ў гэтым доме позіркам на стале*



*Шукаю сэнс разбэрсаных гадоў,*
*Ён голасам дачкі гучыць паволі:*
*«А ты ў дзяцінстве біў сваіх катоў?»*
*Не помню ўжо, ці біў я іх, ці лашчыў.*
*Любіў, напэўна, бо й цяпер люблю.*
*Я столькі ўжо катоў тых перабачыў —*
*Хапіла б на кашэчую Зямлю.*
*Даўно жыву — падумаў быў нядаўна,*
*Калі ўзгадаў, што не катоў — людзей*
*Няўмольны час спісаў, як сшытак, спраўна*
*У вечнасць, на клады, паміж падзей*
*Няўцешных збольшага*
*ў гісторыі навейшай,*
*Якая ёсць такою для ўсіх нас,*
*Хоць вешай ярлыкі, а хоць не вешай*
*У гэты змрочны і няпэўны час.*

*...Люблю катоў, сабак, люблю рыбалку,*
*Глядзець люблю у вечнасці блакіт,*
*Як кот, прысеўшы на вясковым ганку —*
*Надзейнейшай з усіх зямных арбіт.*

* * *

*Мільгацяць матылямі дні,*
*Свярбяць абрыўкі пачуццяў*
*У промнях сонечных, бы ў агні*
*Бязлітасных нашых будняў.*

*Згараем. За годам год*
*Наш цішэй і хрып, і кашаль.*
*Пасля нас здрабнее народ,*
*А нашы хаты паточыць шашаль.*

*Не дарэмна кітайцы тут.*
*Вузкавока і утрапёна*
*Яны нам падправяць статут*
*На жанчынах нашых будзённа.*

*Еўраазія без балды*
*Пацямніць колер нашай скуры.*
*Нас вядуць — і мы ідзем туды*
*За даўно звар'яцелым гуру.*

* * *

*Неба высокае.*
*Поле далёкае.*
*Дні ачумелыя.*
*Ночы не белыя.*
*На фронце ўсходнім —*
*Без перамен.*

# Бяссонніца



Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

* * *

*Давай з табой сам насам пагаворым*
*Скрозь недасяжных зораў далячынь,*
*Якім самотна ў беспаветранай*
*прасторы,*
*Дзе нават дыхаць няма чым.*

*Давай сумовімся з табой*
*у стылі «рэтра» —*
*Без сеціва, мабільных і лістоў,*
*Знарок даверыўшы сябе сівому ветру —*
*Ён ведае, каму, куды, нашто.*

*Давай з табою... Хоць на колькі словаў —*
*Да раніцы мы можам шчэ паспець.*
*Паверу лёгкага нам будзе дастаткова*
*Адно другога непамыльна зразумець.*

*Давай з табою гутаркаю знішчым*
*Маўчання радыё і поўначы ржэым! —*
*Бязлюдна гэтак у паноўнай цішы,*
*Што нават дыхаць няма з кім.*

### Гульня словамі на пляжы

*Хвілі хвалі*
*Зухвалыя хваляць,*
*Але марыць мора,*
*Што зморыцца морак*
*Гарачыні, —*
*Яна,*
*Бы з гарна,*
*Гарэзіць згары.*
*Загарай — не згары!*
*Бо спёка,*
*Як пёкам**
*У пекле,*
*Пекных*
*І мажных мажа*
*На пляцы пляжа.*

*Пёк — густое вязкае рэчыва чорнага колеру, якое застаецца пасля перагонкі дзёгцю альбо смалы.

* * *

*Наведаўшы старыя могілкі,*
*Дзе спяць, апалыя лісцём,*
*Ізноў адчуў павек зняволеным*
*Сябе жыццём і небыццём.*

*Кастрычнік вязамі дыхтоўнымі*
*Працяў блакіту цішыню*
*І латкамі кадзіў няўлоўнымі*
*На апусцелую зямлю.*

*А я ж — усё пра невымоўнае,*
*Нібыта доўг які плачу,*
*Нібыта страціў найгалоўнае,*
*Не ведаўшы яму цану...*

### Тры апошнія дні

***Героям украінскага Ілавайску***

*Тры дні ў свінцовым закалоце.*
*Праз дым і сонца не відно.*
*Хоць камандарм на нашай роце,*
*Пэўна, паставіў крыж даўно.*

*Два дні ў ратах — ані аплаткі.*
*Без сну, без сувязі — ў баях.*
*Нават не снілі нашы маткі*
*Такога аб сваіх сынах.*

*Апошні дзень. Патрон апошні.*
*Зямлю прасуем, як смажы.*
*Ды на прарыў па чорнай пожні*
*Усталі, ўзняўшы штых-нажы...*

### Бяссонніца

*Без дазволу, але не запозніцца,*
*Скрозь сівы цыгарэтаў дым*
*Прыйдзе госцяй апрыклай бяссонніца*
*З позіркам непазбыўна тваім.*

*Толькі трохі прымружацца вочы,*
*Бы на яве паўстануць ізноў*
*Плыўкіх рухаў мядовы мосенж*
*І ядвабная плынь валасоў.*

*Ахіне пладоў выспелых пахам*
*З экзатычных, чужых берагоў,*
*Каб мацней чым узрушыў мне памяць*
*Прызмерк зорысты вечароў.*

*Галава неўпрыкмет кругам пойдзе,*
*Як любізнічкам хто апаіў.*
*Можа, тая, чыю прамень поўні*
*Постаць мройліва асвяціў?*

*Самавольная не запознілася,*
*І, нібы цыгарэтаў дым,*
*Пакой апанавала бяссонніца*
*З позіркам непазбыўна тваім.*

### Маналог Юркі Моніча

***Да Дня памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў***

*Зноў узгадваюць, моляцца, плачуць,*
*Кладуць кветкі і ставяць зьнічы*
*Тым, каго прысуд «надзвычайкі»*
*У ворагі й здрайцы ўлічыў.*

*Непапраўныя нацыі страты...*
*Толькі сэрца пытаннем шчыміць:*
*Хіба кат адзін вінаваты,*
*Што хацелі цішком перабыць?*

*З грудзей боль пякельны не вырваць —*
*Бо кастрычнік агнямі ўзгарэў.*
*Хто змушаў апяваць тую чырвань,*
*Што вяла нас усіх на расстрэл?*

*Хіжа шчэрыцца Молах крывавы,*
*Толькі кіну драпежніку ў твар:*
*— Мяне не прынеслі ў ахвяру, —*
*Я*
*Жыццё Краю ахвяраваў!*

### Жаўнеры дванаццатай гадзіны*

*Прымае бой апошні свой*
*Бамонд вайсковага мастацтва,*
*Каму пашэнціла застацца*
*Жывымі на перадавой.*

*Не са старонак пыльных кніг*
*Вучылі гарады Еўропы,*
*А калі ў складзе ўдарных ротаў*
*Кацілі на бране скрозь іх.*

*І паміж жорнамі франтоў,*
*Бы паміж Сцылай і Харыбдай,*
*Мінулі засені Аіда*
*І лабірынты шпіталёў.*

*Сваіх правінаў змрочны спіс*
*Падоўжым перад тым, як згінуць, —*
*Вої дванаццатай гадзіны,*
*Распачынаем бенефіс.*

*Абралі самі гэты шлях*
*І пойдзем да канца сумленна,*
*Каб моладзь новых пакаленняў*
*Узняла наш праменны сцяг.*

*Хай пераможцы вядуць рэй,*
*А нам нічога не зыначыць,*
*Ім нашу вернасць растлумачыць*
*Агонь прыцэльны батарэй.*

*І спёкай зробіцца мароз,*
*У небе стане мінам цесна.*
*Пад тракаў лязг і косцак трэскат*
*Мы ў штыхавы ідзем урост.*

*...Крывёю набрыняль снег*
*Сшарэў ад пораху і дыму.*
*Мы ўчора шчэ былі жывымі*
*Пад сонцам, што імкнула ўверх.*

* Так гавораць пра тых жаўнераў, якія, ужо ведаючы, што перамогі не будзе, працягваюць зацята змагацца з ворагам за свае ідэалы.

# Эсэ жыцця і смерці



Сяргей ЕГАРЭЙЧАНКА

— ...Асцярожна, дзверы зачыняюцца.

Я расплюшчыў вочы. Так хацелася спаць... Я не спаў ужо другі дзень. Не паспяваў. Справаздачныя дакументы павінны былі праз тыдзень апынуцца на іншым баку планеты, у Сіэтле. Божа, як далёка...

Пра Сіэтл я ведаў няшмат. Толькі тое, што гэта найбуйнейшы горад «вечназялёнага» штата Вашынгтон. Усё. Мне больш пакуль не трэба было ведаць. Усё роўна з дакументамі ляцеў не я, а Сам — падпісваць дамову аб адным з найбольш значных праектаў па культурніцкім супрацоўніцтве.

Дакументы не былі гатовыя. Кантракт я перапісваў, пэўна, ужо дзясяты раз. І яшчэ буду перапісваць. Не сёння. Ужо заўтра. Сёння мне б дабрацца да ложка, упасці на яго і памерці. Хоць на некалькі гадзінаў памерці.

Дзверы вагона павольна адчыніліся. Натоўп ірвануўся, нібыта ў адзіным страшным спазме, выціскаючы сам сябе з металічнай каробкі...

Я павярнуўся і выслізнуў у дзверы. На платформе азірнуўся. У які мне бок? Курва, я ж усё жыццё пражыў у гэтым горадзе, але ўсё адно блытаюся, у якім напрамку мне выходзіць з метро.

Мая машына чакала мяне на паркінгу наверсе. Ніхто з сяброў не разумеў, на халеру я езджу на метро, нават пасля таго, як сто разоў тлумачыў, што ненавіджу марнаваць час, стоячы на праспекце ў гадзіну пік.

Зверху біла сонца. Яркае, цёплае сонца. Травень.

Я падняў галаву на адно імгненне — і ўбачыў яе.

Вочы хаваліся ў цені капелюша. Вусны моцна сцятыя, нібыта ў роспачы.

Каму, як не мне, пазнаць гэтыя вочы? Каму, як не мне, пазнаць гэтыя вусны?

Яна паглядзела на мяне. Позіркам у позірк. І ледзьве заўважна паружавеў яе твар. Заўсміхаліся амаль нябачныя зморшчынкі ў кутках шэрых вачэй. Зморшчынкі ў цябе? Ды не веру! Ты ж абяцала быць заўжды маладой!

А потым усё знікла. Яна прабегла міма, не спыніўшыся. А я застаўся стаяць. Я не быў упэўнены, што гэта яна. Прайшло шмат гадоў. Я не быў упэўнены ні ў чым.

Яна знікла дзесьці ў памяці, а памяць паслужліва выкрэсліла яе з жыцця. Архівы гараць прыгожа, архівы памяці — тым больш. Толькі гэтае полымя не кожны ўмее бачыць. Яна знікла, і я не мог нават успомніць пах яе валасоў. Я памятаў толькі, што яе валасы пахлі так дзівосна, так неверагодна, так пяшчотна (хто сказаў, што пахі не могуць быць пяшчотнымі?), што я забываўся, развучваўся дыхаць звычайным паветрам пасля гэтага паху. І цяпер, праз пяць гадоў, я не памятаў тых адценняў. Я памятаў толькі, як пакутліва вучыўся дыхаць пасля.

Я выехаў з паркінгу. Направа, святлафор, потым налева на скрыжаванні, яшчэ раз налева праз разрыў у двайной суцэльнай. Я не думаў пра гэта ўсё.

Я думаў толькі пра тое, што гэта не магла быць яна.

Не магла. Не яна. Не быць.

Міма пранеслася агромністая пажарная машына, выючы пранізліва сірэнай. За ёй праляцела яшчэ адна. І яшчэ. Божа, што ж так палае?

Адразу за пажаркамі праляцеў «Хуткія».

Над галавой нечаму радавалася вечаровае неба.

Эсэ жыцця? Не, так скончылася эсэ смерці. Неба магло радавацца. Яно жыло.

***

Дзесьці шмат гадоў таму быў дзень. І пасля ноч. І зноўку быў дзень. Дзень, які дагараў адценнямі лета, адценнямі маёй беднай памяці, адценнямі паху яе валасоў.

— Не стой у вадзе. Застудзішся.

— Вада цёплая...

— Застудзішся, кажу.

— Не сёння. Не ў гэтым жыцці.

Грымеў Нёман. Ён размаўляў са мной і лашчыўся да маіх ног, нібыта агромністы тыгр, страшны і мякка-ласкавы адначасова.

Такім далёкім быў золак. І такім блізкім было неба. Наверсе, на адлегласці выцягнутай рукі, пакуль шчэ цьмяна блішчалі першыя зоркі. Іх можна было згрэбці ў далонь, пальцамі паварушыць і зноўку павесіць назад на месца, каб хтосьці іншы пасля мяне мог зрабіць тое самае. Такое магчыма толькі раз у жыцці. Гэта быў той самы дзень.

Вечарам было шмат расы. Пасля цёплай вады яна была амаль ледзяной і непрыемна пякла холадам ногі. Я дабег да вогнішча, нацягнуў на босыя ногі сланцы. Сеў на бервяно побач.

Людзі навокал нягучна размаўлялі. Яны не хацелі трывожыць ціхі вечар, размову леса з ракой і ледзьве чутны зоркавы звон. Такое здараецца рэдка.

Па коле ішла гітара, хтосьці ціха спяваў, але я не слухаў песняў.

Абапершыся спінай на яе плячо, я сядзеў, далёка закінуўшы галаву назад, адчуваючы сваёй патыліцай яе скронь. І ў першы раз я не быў ёй патрэбны. Больш мне нічога не трэба было ад гэтага свету...

Вогнішча палала, там не разыходзіліся самыя стойкія, што ніяк не маглі наталіцца песнямі леса пад акампанемент старой гітары.

І толькі на ўскрайку паляны, у вялікім намёце не перарываўся ціхі шэпт.

— Гэта тое, пра што марыў?

— Гэта лепш, чым тое, пра што марыў. Боль, шчасце, смерць, нараджэнне — нават калі ўсё гэта змяшаць у адной пасудзіне, закіпяціць на вогнішчы, а потым выпіць адным глытком — не будзе і напалову так востра, так добра, так горача.

— Горача? Мне ж падаецца, што ты ўшчэнт змерз.

— Гэта проста з мяне выходзіць холад. І разам з ім выходзіць страх.

— Страх? Чаго ты баішся?

— Цябе.

Толькі лес шапоча знадворку. Лес і першая кропля дажджу, што пачынаецца так імкліва.

Залева над Гарадзеншчынай. Залева над намётам. Залева ў сэрцы. Цёплая залева. Шчаслівая.

Рука ў руцэ. Ноч і пах валасоў. Самы шчаслівы пах майго жыцця. Вечнасць нішто ў параўнанні з імгненнем.

Сыпле дождж. І з грозным рыкам перакотвае хвалі незадаволены Нёман. Усё ў жыцці знікла, каб даць душам наталіцца маленькім сусветам, што нараджаўся ў палатняных сценах.

Вочы велізарныя, якіх не бывае ў свеце, шэрыя, але не той халоднай шэрасці, як у астатніх, а поўныя жывога агню, які ніколі не палаў для іншых. Я веруў у гэта, і мне не трэба было праўды.

— Толькі ты не знікай, я прашу.

— Я застануся, за пацалунак.

Гром. Дождж, Нёман і два сэрцы. Гром.

І ў маланках нараджаецца раніца.

***

На стале былі раскіданыя аркушы паперы. Я сядзеў, абхапіўшы рукамі галаву. Нічога не хацелася. Паслязаўтра першы раз на працу пасля двухтыднёвага адпачынку. Праўда, хіба ж гэта можна назваць адпачынкам?

Дакументы даўно былі ў слаўным горадзе Сіэтл. Іх падпісалі, Галоўны мусіў сёння вылятаць назад: аэрапорт Сіэтла — Джы Эф Кей — Лондан — Мінск. Клёвы маршрут. Я б сам такім з задавальненнем палятаў.

Забудзь. Доўга яшчэ не палятаеш.

Два тыдні адпачынку зжэрла працэдура паскоранага афармлення ўсіх дакументаў. Заўтра вырашацца апошнія фармальнасці.

Усё ясна. Усё зразумела. Я больш не быў адзін. Але, Божа, дай мне права адматаць назад, я б абраў перспектыву застацца самотным на ўсё жыццё, толькі б не так.

Мне не хапае паветра. Таго, ляснога, якое я тады без шкадавання забіваў папяросным дымам. І пах валасоў я ўжо не ўзгадаю ніколі.

Затрымцеў мабільнік. Я паглядзеў на яго з непаразуменнем, нібыта на імгненне забыўся, што гэта за штука і на якую халеру людзі яе прыдумалі. Выкінуць яго ў вакно? Не, нельга. Цяпер нельга. Раней я распараджаўся толькі сабой. Цяпер — не.

— Слухаю.

— Як ты? — спытаўся з тонкім адценнем жалю мяккі дзявочы голас.

— А што мне? Жыць буду.

— Віталік, гэта было цэлых пяць гадоў таму!..

— Ты патэлефанавала, каб лячыць мяне?

— Я патэлефанавала сказаць, што працэдура афармлення матэрыяльнай дапамогі скончана. Праз месяц атрымаеш першую. Навошта табе гэтыя капейкі? Ты ж няблага зарабляеш.

— Мне? Не мне. На картку. Можа, гадоў праз дзесяць штосьці назбіраецца.

— Абясцэніцца...

— Гэта мае праблемы. Яшчэ навіны ёсць?

— Не.

— Дзякуй за дапамогу, Вераніка. Я б адзін не справіўся.

— Можа быць, ты...

— Не. Больш не. Хопіць.

— Зайдзіце хоць разам.

— Калі-небудзь. Да пабачэння, Вераніка.

— Пачакай!

— Угу?

— Віталік, няўжо ты сапраўды вырашыўся?

— Да пабачэння.

Я стаў нейкай цынічнай скацінай. Раней ніколі я б не дазволіў сабе кідаць слухаўку, тым больш размаўляючы з чалавекам, які дапамог мне. Гэта было раней. Мінулага больш не засталося. Зусім. Яго вырвалі. Па кавалку. Па кропельцы. Па валаску, якія пахлі лепш за ўсё на гэтым свеце.

Там, за спінай, застаўся нехта іншы, не я. Я ішоў, не азіраючыся.

...Толькі не заснуць. Нельга спаць.

Дзверы ў мой пакой адчыніліся са звярыным скрыпам. Тэрмінова змазаць! Заўтра ж з раніцы. Абавязкова.

На парозе стаяў бялявы чатырохгадовы хлопчык. Для свайго ўзросту ён быў занадта высокі, злёгку паўнаваты, але гэта хутка пройдзе. Ён глядзеў на мяне сваімі дарослымі шэрымі вачыма і толькі па-дзіцячы стараўся не міргаць, нібыта я магу ад гэтага знікнуць.

Ён быў зусім не падобны да мяне. І мне гэта падабалася.

— Дзядзька Віталік! Дзядзька Віталік!

— Што, мой харошы? Хочаш чагосьці?

— Дзядзя Віталік, дзе мама?

Што мне было адказаць табе, мой маленькі шэравокі анёлак? Ніхто так і не сказаў табе, дзе яна, твая мама. Ніхто так і не прыдумаў, што можна табе сказаць. Каб гэта было б хоць на паўпальца праўдай і ў той жа час не зруйнавала б твой маленькі і просты сусвет.

Я столькі гадзінаў думаў пра тое, як адказаць на гэтае пытанне, і столькі разоў мяне сціскаў бязгучны плач. Здавалася, даўно скончаны ліміт усіх слёз, што адведзены чалавеку, а яны ўзнікалі зноў ды зноў. Гэта быў нібыта страшны сон, ад якога то прачынаешся і ўздыхаеш з палёгкай, то зноўку правальваешся ў яго і марыш толькі аб адным: прачнуцца, і каб усё скончылася ў сне.

— Мама вернецца, Арцёмка. Абавязкова вернецца.

— Калі? — настойліва патрабаваў адказу хлопчык.

— Я... я не ведаю. Але ты не бойся, мама не кіне цябе. Я табе абяцаю. Хадзем.

А ў ложку ён распавядаў мне, як яны плавалі з мамай у возеры два месяцы таму. Як мама трымала яго на руках, а потым апускала на ваду — і ён плыў да берага сам, амаль як дарослы, што яго трымаў толькі лёгкі дотык мамінай рукі і нічога больш, як ён плыў, плыў, пакуль не дабраўся да жоўтага мяккага пяску на беразе вялікага возера, назвы якога ён, канечне ж, не ведаў.

Возера звалася Свіцяззю, і нідзе больш вы не маглі быць, мой мілы анёлак. Твая мама так любіла гэтае возера...

І калі ён заплюшчыў свае — МАМІНЫ — шэрыя вочкі і ціхенька засоп, стомлены такім доўгім і захапляльным аповедам, я накрыў яго коўдрай, зачыніў дзверы ў пакой і ціха дайшоў да ваннай...

Там я ўпаў — не апусціўся, упаў — каленямі на халодную кафлю падлогі.

Паўгадзіны мяне калечылі страшныя спазмы, і я ўсё ніяк не мог спыніць іх, а потым мне падалося, што я памёр.

Што мне было адказаць табе, Арцёмка? Ці патрэбна было сказаць праўду, што мама больш не вернецца?

Праўду пра тое, што тады, два месяцы таму, на прыступках станцыі метро ў цэнтры горада я сустрэў яе, і я не памыліўся: гэта было немагчыма. Гэта была твая мама, мой маленькі, жанчына, якая абодвум нам падаравала жыццё, — табе доўгае і, можа быць, цяжкое, а мне кароткае, затое нерэальна шчаслівае.

Ці распавесці пра тое, як праз хвіліну, як я ад'ехаў з паркінгу, запахла селітрай і з-пад зямлі пацягнула белым дымам? Што туды імчалі пажарныя машыны і «Хуткія»? Што яшчэ праз хвіліну мне патэлефанаваў лепшы сябра і дрыготкім голасам спытаўся:

— Ты ўжо не ў метро?

Не, мой мілы сябра, я ўжо не быў там.

Там былі іншыя. Там была яна.

Я ніколі не распавяду табе, што я ўбачыў там, пасля таго, як прымчаў назад, яшчэ праз тры хвіліны. Як я блукаў сярод жывых і мёртвых на зямлі, плакаў голасна і крычаў яе імя, і нікому не было да мяне ніякай справы. Як я знайшоў акрываўлены кавалак жоўтай курткі, апусціўся побач з ім і ўжо не падняўся, пакуль мяне не прывялі ў прытомнасць.

Гэты маленькі хлопчык не быў маім сынам. Я так і не даведаўся, хто быў яго бацькам. Яна сама, падаецца, марыла забыць яго. У яе не было нікога, акрамя яе дзіцёнка, і ніхто больш не быў ёй патрэбны.

Я ведаў гэтае пачуццё, калі жывеш толькі дзеля аднаго чалавека. У мяне не было права на хістанні. Я рабіў тое, што мусіў рабіць.

І, назіраючы за ім, я суцяшаў уласную душу.

Яна не памерла. Яна жыла ў глыбіні ягоных шэрых вочак — такіх самых, як у мамы. Яна пасміхалася мне — зусім як тады, пяць гадоў таму.

Тры эсэ — два пра жыццё і адно пра смерць. Такія кароткія, такія важкія...

...У маланках ізноў нарадзілася раніца.

# Наша прысутнасць



Марыя БАРАВІК

### Пабыць

*Бог даў мне думку, даў мне фарбы слоў,*
*Букет пачуццяў і адну любоў.*
*Хачу пабыць, з удзячнасцю пабыць,*
*Найродны свет любімы далюбіць.*
*Пабыць! Няхай акругліцца сляза,*
*Каб гэты сон удзячна дасказаць —*
*Такая смага, і так шэпчуць губы:*
*«Мой родны свеце!*
*Я з табою, любы!»*

* * *

***«Мамы не стала — не стала радзімы»***
***Рыгор Барадулін***

*Леты і зімы! Ад хвіляў радзінных...*
*Вось я вазьмі і скажы:*
*«Мамы не стала — аховы адзінай*
*Цела майго і душы.*

*Таты і мамы. Душа сірацінна*
*Ў люднасці сцежак-дарог*
*Сном забаліць перад думнай карцінай:*
*«Мой найлюбімы парог».*

*Брата не стала, як месяца-поўні —*
*Смутак уеўся, як бур.*
*Цяжка глядзець у напрамку на поўнач*
*Думкай... на Санкт-Пецярбург.*

*Леты і зімы! Ад хвіляў радзінных...*
*Вось я вазьмі і скажы:*
*«З кім гаварыць сёння мне пра радзіму,*
*Тую, якая ў душы?»*

* * *

***Памяці Васіля Быкава***

*...I дадзена была яму вайна...*
*Не быць наскрозь прабітым, не згарэць —*
*Праз ейны смерч прайсці і зразумець,*
*Што трэба яшчэ думкай адбалець,*
*I змест вайны той вычарпаць да дна.*
*I праўду ўзяць на гарт свайму цярпенню,*
*Святому і шчымліваму натхненню —*
*Вайну пранесці мужна праз здуменне.*
*Бо лёсам дадзена яму вайна.*
*Яна яго прабіла думкай болю.*
*Яна стварыла смагу, як ніколі,*
*Піць з гэтай думкі праўду да спатолі.*
*Бо лёсам дадзена яму вайна.*

### У сінім сне

***«Надзвычай прысутным быў ён...»***
***Анатоль Вярцінскі***

*Малюся, каб на слова йсці,*
*На голас і на пачуццё.*
*Я пад уражаннем часовасці*
*Такога цуда, як жыццё.*

*Бяжыць бяссілле за надзеяй,*
*У часе хвілі не стрымаць.*
*I дух наш творчы сірацее —*
*Ужо й Бураўкіна няма.*

*З выразнасці душа якога,*
*З імклівасці, як вадаспад.*
*Няўжо ён адкінеў трывогай,*
*Навек заснуў яго пагляд?*

*Ягоных хваль няма ўжо ў сіні?*
*«Надзвычай ён прысутным быў».*
*Да роднай беларускай плыні*
*Кірую свой прыток журбы.*

*Дык што? Ён толькі ў сінім сне?*
*Спыніўшы крылы на вясне?..*

*Пра што яшчэ мая сляза*
*З-пад сэрца точыцца сказаць?*

* * *

***Да Анатоля Вярцінскага***

*— Ёсць слова. Словам і пакліч! —*
*Сказаў бы Анатоль Ільіч. —*
*Ёсць слова. Усміхніся ім,*
*I адлюструй у ім наіў*
*I захапляльную красу,*
*I годнасць, і адчай, і сум.*
*Ёсць слова. Словам і заплач —*
*Яно не ўтрымлівае зла.*
*Ад слова — цішыня і шум,*
*I утрапенне, і сляза...*
*I слова хочацца сказаць —*
*У слова заключыць душу.*

* * *

***Да Сяргея Законнікава***

*Твой чую ўздых, засумлены Сяргей,*
*Што так «прыдзвінскіх» скарацііўся рэй.*
*Пачуй і мой сустрэчны сэрца стук...*
*З Глыбоччыны іду на пошук рук.*

* * *

***Да Васіля Зуёнка***

*«Даўжэюць, цяжэюць ночы».*
*Глядзіць у думныя вочы*
*Суцяшальная таямніца,*
*Каб нам у вечнасці не згубіцца.*
*Пытальнага смутку бераг,*
*Кіруй у рэчышча веры,*
*Для паратунку святога сэнсу*
*Любові.*

* * *

*Наша прысутнасць ратуе жыццё,*
*Роднае слова, святло, пачуццё.*
*Наша прысутнасць, наша прысутнасць —*
*Роднасці духу і еднасці сутнасць,*
*Сілы стваральнай і годнасці сутнасць.*
*Дадзены Богам нам час на прысутнасць.*
*Мы яшчэ тут, дык давайце паўторым*
*Нашу прысутнасць, як хвалю у моры,*
*Бляскам прысутнасці, шорахам сцежкі,*
*Поціскам рук і даверам усмешкі,*
*Словам суцешным, голасам лёзным...*
*Дык пававорым аб важным і розным...*
*Скінем з душы цемнату і пакутнасць.*
*Бо найгалоўнае — наша прысутнасць.*
*Веру, што ёй зацікаўлена вечнасць,*
*Словам святым, дзе — святло*
*і сардэчнасць.*

### Песня вязня сумлення

***Да юбілея Міколы Статкевіча***

*Ты — лёсавая сіла! Ты — не слава.*
*Абранніца на цяжкім віражы.*
*Калі на волю зроблена аблава,*
*Любімая! Стаяць дапамажы!*

*Такога склону ты, такога роду,*
*Мая незакранальная свабода,*
*Якую не загоніш у куток —*
*Цячэ па думках волі кіпяток.*

*Ты ж ува мне, іскрыстая, віруеш,*
*Імкнеш раўнютка, ведаеш, куды.*
*I я цябе люблю! Як свет, старую,*
*За покліч вечны, лік твой маладых.*

*Тваё імя я сэрцам расшыфрую:*
*«Свая! Бо дарагая» назаўжды.*
*Я за цябе цярплю, табой шчырую,*
*Закінуты ў закратныя гады.*

*Такі матыў. I песня — не забава.*
*Як ледзяністым холадам імжыць,*
*Як дзьме і валіць,*
*шкваліць з-пад дзяржавы,*
*Любімая! Стаяць дапамажы!*



*Такога склону ты, такога роду,*
*Мая незакранальная свабода,*
*Якую не загоніш у куток,*
*Цячэ па думках волі кіпяток!*

### Ты — свеце мой

*Ты для мяне — значэнне,*
*Мая сляза для ачышчэння,*
*Мой дух у светлым абуджэнні,*
*Успышка боскага свячэння.*
*Маё паветра для гарэння*
*I лепшай думкі апярэнне,*
*Ратунак мой ад агарчэння*
*У стратах, думных атачэннях,*
*Спакой у рэчышчы трывог.*
*Ты — сэнс жыцця, які даў Бог;*
*Падараваная з Нябёс —*
*Анёл святла цябе прынёс —*
*Аздобіць паэтычны лёс.*
*Я стала ўдзячнасцю да слёз.*
*I ў патаемнае журбе*
*Малітвай першай за цябе.*

* * *

*Гады ці сны? Нябачнай чарадою?*
*А я ўступіла ў розныя гурты...*
*Ды ясніцца мой сэнс увесь Табою.*
*Найлепшы гурт наш боскі — Я і Ты.*

* * *

*Агонь Нябёс і гронак тых рабінаў,*
*У ліпені, ад квецені густым,*
*Дзе з'явай роднай, ласкай галубінай*
*Прыйшла на свет і ў лёс мой новы Ты.*

*Святлом прасветлым, раніцай нядзельнай,*
*Усходнім сонцам з квецені лугоў;*
*Усё ў Табе іскрыцца непадзельна*
*Для шчасця мацярынскага майго.*

*Ты — свеце мой, абноўлены і родны,*
*Узнёслы і аб'ёмны ў пачуцці,*
*Святы, ласкавы, годны і свабодны,*
*Нязгасна юны, мройны па жыцці.*

### Зіма ў акне

*Прастор маўклівы, бела-шызы,*
*Лянівы позірк сонца ў ім.*
*I далягляд згубіў абрысы;*
*Стаіць святло ў акне маім.*

*Снег занямеў, аддаўся чарам.*
*Вісяць задумліва махры.*
*Нідзе — ні воблачкаў, ні хмараў.*
*Няўжо мароз скаваў вятры?*

*Такога холаду не страшна.*
*Імгненню беламу на здзіў*
*Ён, ратавальна-незаўважны,*
*У думках слёзы астудзіў.*

### На палявым прыпынку

*У разнатраўі бялютка-рамонна*
*Кветкі збягаюць з нябёс.*
*Позірк імкнецца сюды шматпалонна,*
*Думак жаўцее авёс.*

*У даганялкі аблочныя цені*
*Шляхам гуляюць зямным.*
*I з разнатраўя былых летуценняў*
*Вобраз узнік і заныў.*

*I дакрануўся світальным адценнем,*
*Зззяннем расінак і слёз.*
*Згадкава цудна: у цёплым імгненні*
*Думкі сягаюць нябёс.*

### Бягом

*Сіняю строчкаю жыта прашыта*
*У васільковасці сноў.*
*Зімаў і летаў за жытам ужыта,*
*Розных наткана высноў.*

*Думак узімлена з холаду зімаў,*
*З шэрані вобразных кос.*
*Ціха і мройна, у свет найлюбімы,*
*Зорак набрана з нябёс.*

*Строчкаю колераў розных прашыта*
*Прасціна лёсу майго.*
*Як у вагонным акне тое жыта,*
*Дзень васільковы — бягом...*

### Рабінавыя згадкі

*Ачнуўся ад пранізлівай маркоты*
*Грыбны наш лес, світальна-трапяткі.*
*Тут, мабыць, ветрык зазірнуў у ноты,*
*I музыкай прамовілі лісткі.*

*Не помніць зрок мой вадзяной заслоны —*
*Раскрыўся лес і фарбы запаліў.*
*I ў верш, як сон блакітны і зялёны,*
*Рабінавыя згадкі паплылі.*

* * *

*Вясна праб'ецца з цішы беласнежнай —*
*Вільготны вецер сон яе лізнуў.*
*Душэўны покліч музыкай суцешнай*
*Узваньваецца верай у вясну.*

*I тая суцяшальна закранае*
*Насуперак пранізлівай журбе.*
*I я душу малітвай распранаю —*
*Цяжар скідаю мужнасцю з сябе.*

# Той, каго ўдарылі

## Фрагмент рамана



Леанід ДАЙНЕКА

Мой бацька не баяўся смерці. Мой бацька памёр, памёр, як паміраюць усе людзі, калі пакліча іх з зямных абшараў у сваю вечную нябесную дзяржаву Бог.

Я не прысутнічаў пры ягоным кананні, не ведаю, лёгка ці ў пакутах адыходзіў ён, бо так ужо запавешчана зверху нам, людзям — радуемся разам, пакутуем паасобку. Дарафееўна, другая бацькава жонка, казала мне, што той зімовай марозлівай ноччу апошнімі бацькавымі словамі былі: «Хутчэй дай мне лякарства!» Ды лекі ўжо не дапамаглі.

Я люблю ягонае імя. У нашай спрэс зрусіфікаванай Клічаўшчыне ў кожнай вёсачцы было аж зацесна ад Іванаў, Сямёнаў і Рыгораў. Бацькава ж імя было нейкае нетутэйшае, было, як выкапнёвы мамант, цвіло чужацветам на савецкім лузе. Начальнікі і начальнічкі розных рангаў прамаўлялі яго, калі ўзнікала такая неабходнасць, на расейскую манеру — Мартын. А гэта было пашанотнае старадаўняе еўрапейскае імя! Марцін, служка грознага рымскага бога вайны Марса!

То й праўда — у чатырох (!) войнах удзельнічаў мой міралюбны бацька. У так званым «вызваленчым» паходзе 1939 года, калі Сталін з Гітлерам з двух бакоў няшчадна грамілі Польшчу, у наймарозлівейшым студзені 1940-га, калі крамлёўскія стратэгі вырашылі за кошт фінскіх земляў «обеспечить безопастность колыбели революции Ленинграда», улетку 1940-га ў горадзе Рызе, калі працоўныя Латвіі адзінадушна, як захліпваючыся ад шчасця крычалі штатныя савецкія прапагандысты, вырашылі ўліцца ў СССР, і, вядома ж, у звышжорсткай і звышкрывавай вайне 1941–1945 гадоў.

Што далі тыя войны майму бацьку, усёй нашай сям'і і мне? Ды нічога добрага. Бацька стаўся інвалідам — аж шэсць нямецкіх куляў пранізала яго бліз польскага горада Ломжы. Маці мая з малалетнімі дзецьмі панабегалася, пакалаціліся ад страху падчас акупацыі ў лясах і балотах. Удзень апошні харч забіралі паліцаі. Уначы нярэдка заходзілі партызаны. Тыя і другія не раз ставілі да сценкі, пагражаючы расстрэлам. Нас, дзяцей, як мышэй, заганялі ў падпечча. Усю вайну і ўсю акупацыю народ быў між двух смяротных агнёў. Вечны жах. Вечны голад. Пастаяннае ўсведамленне, што ты нікчэмнейшая мізэрнейшая кузюрка, якую ўзброены да зубоў чалавек, што па-гаспадарску ўваліўся ў тваю хату, можа прыкончыць адной пстрычкай.

Ды я адхіліўся ад сваёй першапачатковай задумы... Пачынаю свой аповед, сваю гісторыю дзеля таго, каб, заглыбіўшыся ў стагоддзі, расказаць пра хрысціянскую вуніяцкую веру, якая на працягу амаль 250 гадоў ( 1596–1839) была жывой верай нашага народа, якая, калі прамаўляць высокім штылем, стварыла нашу сённяшнюю Беларусь, якая падчас«нямога» для беларушчыны 18 стагоддзя адзіная паміж усіх захавала беларускую мову ў сваіх храмах і якую гвалтоўна знішчылі, высеклі пад корань. Вось чаму я вяртаюся да першапачатковага сказу гэтага твора, бо менавіта ад свайго бацькі я ўпершыню пачуў пра вуніяцтва.

Мой бацька не баяўся смерці. Ён, як літаральна ўсе савецкія людзі, быў атэістам, дакладней, вымушаны быў быць атэістам, бо Улада Ваяўнічых Бязбожнікаў, якая сцірала з твару зямлі Божыя храмы, расстрэльвала або гнаіла ў турмах святароў, скідвала са званіцаў званы, перапрушчвала ў залаты і срэбны металам святыя абразы, тушыла свечкі і душы, не давала чалавеку права выбару жыццёвай дарогі. Толькі адна дарога была ў кожнага і ва ўсіх разам. Толькі тая, што вядзе ў камунізм. Іншыя дарогі абавязкова вялі або на Салаўкі, або ў Курапаты.

Яны, Ленін і кампанія, зрынуўшы Бога, самі сябе аб'явілі багамі. Яны ў свой гонар прыжыццёва сваімі імёнамі называлі гарады і вуліцы, марскія караблі і калгасы.«Cuius regio, eIus religio» — чыя ўлада, таго й вера. Крамлёўскія ўладары вельмі добра засвоілі канцэпцыю Аўгсбургскага міру 1555 года, канцэпцыю, якой скончылася ў Еўропе крывавая рэлігійная вайна. Адзінай верай, калі толькі верай можна назваць звышлютую дыктатару, была аб'яўлена камуністычная вера.

Дарэчы, амаль ніхто не задумваўся, адкуль узяўся псеўданім Уладзіміра Ульянава — Ленін. Лічылася і лічыцца, што такое прозвішча пайшло ад сібірскай ракі Лены, у крайнім выпадку, ад жаночага імя Лена. Прапаную сваю разгадку. Псеўданім камуністычнага правадыра створаны ад слова «лен», што азначае зямельнае ўладанне, якое на ўсё жыццё ўручаў пан-суверэн васалу за ягоную звышверную службу. Ад каго ж, ад якога такога гаспадара атрымаў лен (усю Расійскую імперыю!) васал Ленін?

...Мой бацька Марцін Дайнека быў атэістам, але не быў камуністам, хоць членамі кіруючай партыі і членамі камсамолу былі ўсе ягоныя пяцёра братоў. Каб не здраджваць ісціне, зазначу, што ён таксама хацеў уступіць у партыю, пісаў заяву і насіў яе за шэсць кіламетраў у райцэнтр у Клічаў, ды поспеху не меў. Аказваецца, ён быў жанаты на сястры ворага народа, то бок, на маёй маці, старэйшы брат якой, Павел, старшыня калгаса, згінуў, як камар у спёку, падчас чарговага яжоўскага хапуна. І невядома, дзе прах ягоны. Ясна адно — не ў крамлёўскай маскоўскай сцяне. У ёй, сцяне, і каля яе мірна спачываюць верныя слугі і апрычнікі камуністычнага рэжыму.

Адзінага старшынёўскага сына Толю загналі аж на Калыму. Толькі ў 1956 годзе вярнуўся ён дадому, сядзеў у нашай хаце, прагна піў гарэлку, закусваючы кіслай квашанай капустай, моцна, неяк істэрычна захмялеў, сараў з сябе кашулю, і на ягонай шырокай валасатай грудзіне ўбачылі татуіроўку:«Отец, ты спишь, а я страдаю».

Але ці быў мой бацька і ўвесь навакольны люд бязбожнікам? Вядома ж, не. Чалавек ужо з матчынага лона выпраўляецца ў неабсяжны белы свет запраграмаваным на рэлігійнасць, гэтаксама як запраграмаваны ён на адчуванне голаду, смагі, цеплыні, пяшчоты, любові... І гэта не мая белетрыстычная выдумка. Гэта цвярозы голас сённяшняй шматвектарнай усюдыіснай навукі. Бог быў. Бог ёсць. Бог будзе заўсёды. І нават, калі патухне над нашай зямлёй вечнае сонца, Бог будзе. А тыя, што скідвалі яго з нябёсаў, зрабіліся мярзотным пылам мярзотных падзямелляў, дзе поўзаюць бязвокія мярзотныя павукі.

Па словах маці мой бацька мог бы стацца вялікім начальнікам, калі б у свой час не збег дадому са Свіслачы (не гродзенскай, а магілёўскай), дзе вучыўся на настаўніка. Што падштурхнула яго на гэта? Сум па роднай Змітраўцы? Адсутнасць харчоў? «Вунь Васілька ў Клічаве дырэктарам школы робіць, а ты быкам хвасты круціш», — часцяком, разззлаваўшыся, ушчувала бацьку маці. Васілька (Васіль Кандратовіч ) разам з бацькам паехаў у Свіслач, але не збег адтуль, датрываў да канца вучобы, у чыне дырэктара важна хадзіў па райцэнтры ў сінім гальштуку і ў белым капелюшы.

Марцін жа Сцяпанавіч пры ўсім сваім вострым прыродным розуме, дасціпнасці і нязводным гумары пайшоў, як камень, на сацыяльнае дно. Не, ён не ператвараўся ў шараговага селяніна-калгасніка, аднаго з тых ціхмяных аднаколерных людзей, што спрадвеку сахой, а затым і трактарным плугам рэжуць зямлю, і пра якіх іранічна кажуць: «Бяры болей, кідай далей». Перад самай вайною ён быў старшынёй мясцовага змітраўскага калгаса «Пяцігодка», пасля вайны — загадчыкам прадуктовай базы на станцыі Несята, куды аж з-за акіяну, з Амерыкі, прысылалі прадукты харчавання. Тады мы пачулі таямнічае слова «лэндліз». Базаўскія грузчыкі выкладвалі цэлыя піраміды з прыгожых бліскучых кардонных скрынак, якія называліся «рацыёнамі». Іх дзяліла-размяркоўвала згаладаламу да дзікунства мясцоваму насельніцтву раённая начальства. Нейкая драбяза перападала й майму бацьку Марціну. Калі сёння нехта па камуністычнай завядзёнцы бэсціць Амерыку, я ўспамінаю той галодны год і тыя «рацыёны». Толькі дзякуючы ім мы выжылі. Дзякуючы ім мы даведаліся, што такое тамматны сок, шакалад, кава, свіная тушонка, апетытна нарэзаная вяндліна ў бляшанках, жуйка... Нашы камуністы-гуманісты, нашы начальнікі ўсё гэта елі ўдосталь яшчэ да вайны, але свайму народу далі магчымасць паспытаць-пакаштаваць такія прадукты толькі гадоў праз пяцьдзясят.

Пасля гэтай базы мой бацька, так мовіць, заўсёды быў на кіруючых пасадах сярэдняга звяна. Брыгадзір, загадчык малочнай фермы, каморнік-землямер... Яму даручалі нарыхтоўваць у навакольных вёсках бульбу і вагонамі адпраўляць яе данбаскім шахцёрам. І вось за гэтую самую бульбу, што змерзла ў капцах, ён атрымаў пяць гадоў зняволення, якія (два з пяці) адбухаў у мінскай турме. З турмы прывёз шахматы — уласнаручна вытачыў іх на турэмным станку, часам гуляў са мною, але хутка стамляўся, загарэлай даланёй змятаў фігуры з дошкі.

Няпростае нялёгкае жыццё, вядома ж, гняло яго, і ён моцна пасябраваў з гарэлкай. Працуючы брыгадзірам, ездзіў на кані. Іншым разам п'яны не мог сесці ў сядло, чапляўся рукамі за лейцы, намотваў лейцы на рукі, і разумны конь асцярожна валачыў яго па зямлі дадому. Аднойчы прыкалываўся ўначы да сваёй хаты, пастукаў у шыбіну і жалосна папрасіў родную жонку:

— Жанчынка, падкажы, у якім баку Змітраўка.

Успамінаючы пра такое, я абсалютна ўпэўнены, што не абражаю свайго любімага бацьку, што, прачытаўшы гэта, ён весела ад душы пасмяяўся б разам са мной і, смеючыся, абавязкова сказаў бы:

— Калі б я не піў, ужо б даўно памёр. Налівай, Лёнік. Глынем яшчэ па адным каліву. І, дай Бог, не апошняму.

О, гэты жыццярадасны бацькаў смех! Да скону не забуду яго. Да скону не забуду тыя доўгія восеньскія і зімовыя вечары, калі над нашай хатаю глуха шумелі старыя змрочныя ліпы, чэрства шкрэбліся халодным голлем у вокны, а мы сядзелі пад жоўтым утульным святлом керасінавай лямпы, і бацька з гумарам і досціпам распавядаў пра сваё жыццё-быццё. І радасна ззялі ягоныя добрыя, самыя сінія на зямлі вочы.

Сам сябе бацька называў бальшавіком, хоць савецкай уладзе не верыў.

—Ат, замянілі аднаго цара другім, — махнуўшы рукою, быццам адганяючы надакучлівую муху, іншым разам казаў ён мне. Калі ж я паступіў вучыцца на журфак у Мінску і пакрысе пачаў натольваць сваю заўсёдна дэмакратычную душу неўтаймаваным студэнцкім вальнадумствам, ён з усёй абачлівасцю і клапатлівасцю папярэдзіў:

— Не лезь у палітыку. Заб'юць.

Словы «заб'юць» і дагэтуль сядзіць у маёй свядомасці як моцна загнаны вострый жалезны цвік. І цвік той не вырваць з душы ніякімі абцугамі.

Да майго пісьменніцтва адносіўся з паразуменнем, але без асаблівага піітэту. Прачытаў мой першы раман «Людзі і маланкі», калі адпасваў радоўку ў лузе.

— Пішы, — толькі й пачуў я ад яго. Адно гэта кароткае бацькава слова значней і важней для мяне шмат якіх рэцэнзій. У звязку з гэтым хачу падзяліцца з вамі, мае цярплівыя паважаныя чытачы, вось якой думкаю... Вышэйшае кіраўніцтва жадае, каб беларуския пісьменнікі напісалі новую«Войну и мир» Льва Талстога, а не новую«Новую зямлю» Якуба Коласа, і тады яно, вышэйшае кіраўніцтва, шчодра ўзнагародзіць пісьменнікаў, бо сучасным беларусам край як трэба ведаць пра жыццё багатага памеснага рускага дваранства XIX стагоддзя. Што на гэта можна сказаць? Кіруюць Беларуссю не нашы чытачы...

Недзе пасля васьмідзесяці, як я заўважыў, бацька пачаў задумвацца пра сваю магчымую смерць. Неяк мы стаялі каля магілы маёй маці, а ягонай жонкі, і я з маладзёвай жорсткай прасталінейнасцю ва ўпор спытаў, ці баіцца ён смерці.

Бацька зірнуў на мяне, усміхнуўся, сказаў:

— Хоць зараз вось тут яміну капай — і я лягу побач са сваёй Тэкляй.

Гэта не было бравадаю. Гэта не было старэчай халоднасцю, калі паступова тухне агонь ва ўсіх жылах. Нешта іншае было ў гэтых словах, і,пэўна, я расшыфрую іхні патаемны глыбінны сэнс толькі тады, калі сам буду паміраць, адлятаць душою ў нябёсы.

Даўно ўжо няма майго любімага бацькі. Я не магу дакрануцца да яго, не магу пачуць ягоны голас, не магу ўбачыць самыя сінія на свеце вочы. У таямнічым шуме начнога ветру, у няспынным загадкавым цячэнні рознакаляровых воблакаў, у срэбным звоне кропляў, што зрываюцца з даху майго лецішча і пляскаюцца аб пясок, тчэцца родны воблік. Здаецца, зрабі крок, і ажыве мінулае, але... Але смерць змятае людзей з твару зямлі, быццам смецце. Балючае параўнанне? Непрыемнае? Неэстэтычнае? Згодзен з вамі. Але ўслухайцеся — якія падобныя два гэтыя словы. Смецце. Смерць.

Тады, каля матчынай магілы, я ўпершыню пачуў ад свайго бацькі пра вуніяцтва. Напомню, што за камуністычным часам амаль усе мы, у тым ліку мой бацька і я, былі атэістамі, а рэлігія, як бадзёра навучалі нас тыя, што шчыльнымі шэрагамі стаяць сёння са свечкамі ў руках у святых храмах, была опіумам для народа. Калі-нікалі мне цьмяна ўзгадвалася, што мы праваслаўныя. Але толькі цьмяна і толькі калі-нікалі. І не больш.

Мы не праваслаўныя. Мы — юніяты, — сказаў раптам бацька, стоячы каля магілы маёй маці, сказаў менавіта «юніяты», а не «вуніяты». — Нашага прадзеда Мікіту сілком загналі ў праваслаўе. Як і ўсіх мясцовых людзей. Людзі не хацелі, шмат

# па шчацэ

хто са святароў не хацеў, але іх загналі. Знішчылі амбоны. Забаранілі іграць на арганах.

З найвялікшым здзіўленнем глядзеў я ў той дзень на свайго бацьку. Вось што, аказваецца, жыло ў ягонай душы і нарэшце вырвалася на волю, як вырываецца з-пад халоднага снегу і лёду вясновы ручай!

Пасля такой размовы я адразу пайшоў у бібліятэкі (ніякага Інтэрнэту тады ж не было), з галавою нырнуў у даведнікі і энцыклапедыі. І вось што высветлілася, вось што выплыла з глыбіняў гісторыі.



Царква Св. Духа — першая вуніяцкая святыня ў Мінску. Рэканструкцыя В. Сташчанюка

18 кастрычніка 1596 года на царкоўным саборы ў горадзе Берасці аб'ядналіся праваслаўная і каталіцкая царква Рэчы Паспалітай. Кароль і вялікі князь Жыгімонт III Ваза зацвердзіў гэтае аб'яднанне, якое атрымала назву Берасцейскай вуніі. Рымскі папа Клімент VIII таксама ўхваліў вунію. Праваслаўная царква Рэчы Паспалітай стала грэка-каталіцкай (вуніяцкай), прызнала вяршэнства папы рымскага, прызнала каталіцкі дагмат аб зыходжанні святога духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына. Узамен за гэта яна захавала сваю ўласную арганізацыйную структуру і іерархію, шмат якія праваслаўныя абрады, народныя мовы (ліцвінскую (беларускую) і ўкраінскую) у рэлігійнай літаратуры і казаннях. Пётр Скарга, Іпацій Пацей, Язэп Руцкі, Кірыла Цярлецкі, Міхал Рагоза, Рыгор Загорскі, Лявонцій Пяльчыцкі, — вось якія мудрыя выбітныя людзі прычыніліся да гэтай эпахальнай падзеі. Берасцейская вунія — рэха Фларэнцыйскай вуніі 1439 года, ейны заканамерны, добра прадуманы, падказаны жыццём працяг. Фларэнцыйская вунія была ў свой час спробаю стварыць агульнаеўрапейскі бастыён супраць няўмольнай экспансіі туркаў-асманаў, што паставілі на калені Візантыйскую імперыю, імкнуліся авалодаць Венай і Рымам. Рэч Паспалітая, народжаная ў 1569 годзе, і ейнае дзіця — вуніяцкая царква трымалі ў полі зроку не толькі ваяўнічых асманаў, але ў першую чаргу агрэсіўную Масковію, якая ў 1589 годзе самахоць аб'явіла аб стварэнні свайго праваслаўнага Патрыярхату, аб сваім гістарычным праве (!?) на ўсё наследдзе былой Кіеўскай Русі, прагавіта вастрыла зубы на землі Вялікага Княства Літоўскага, няспынна атакавала ягоныя ўсходнія межы. Па сутнасці, Масковія была той жа мангольскай імперыяй Чынгісідаў, ваяўнічай і жорсткай, толькі перафарбаванай у хрысціянскія еўрапейскія колеры.

Так нарадзілася Вунія. Так яна набірала сілу, расла, мацнела і зрабілася, урэшце, народнай рэлігіяй. Напрыканцы XVIII стагоддзя, перад самым сконам Рэчы Паспалітай ад рук драпежных суседзяў, у Вялікім Княстве Літоўскім жыло 39 адсоткаў вуніятаў, 38 — каталікоў, 6,5 — праваслаўных, 4 — старавераў, 1,6 — пратэстантаў. Вуніяцкія цэрквы Княства ўваходзілі ў склад Кіеўска-Віленскай, Пінскай і Полацкай дыяцэзій. Кіеўска-Віленская дыяцэзія апекавалася духоўным жыццём 1804 388 парафіянаў, Полацкая — 765154, Пінская — 85103.

Тры падзелы Рэчы Паспалітай, тры вераломныя ўдары проста ў сэрца адбыліся з 1772 па 1795 год. Аўстрыя, Прусія і Расія, як тры сцярвятнікі, разарвалі на кавалкі славяна-балцкую хрысціянскую дзяржаву ў самым цэнтры Еўропы. Толькі з-за акіяну, з амерыканскіх штатаў, данёсся голас пратэсту. Еўропа ж не заўважыла разбой двух немцаў і адной немкі — расійскай імператрыцы Кацярыны Другой. Пэўна, палякам і ліцвінам помсцілі за Грунвальд, за ганебную паразу пад Воршай у 1514 годзе, а таксама не супраць былі паласавацца багатай чужой маёмасцю, прыхапіць чужой зямлі.

Сканала Рэч Паспалітая. А неўзабаве за ёю накінулі вяроўку на шыю вуніяцкай веры. Усё падавалася як дабраахвотнае «воссоединение, возвращение к природной вере праотцов». Але чаму ж тады ў студзені 1839 года ў Віцебскую губерню быў накіраваны 29-ы казачы полк палкоўніка Карнеева? Казакоў размясцілі ў Лепельскім, Сенненскім, Полацкім, Дрысенскім і Себежскім паветах. Загарцавалі казацкія коні, заблішчэлі шаблі ў шмат якіх паветах Мінскай губерні. Ва Ушачы для сціхамірвання вуніятаў сцягнулі артылерыю. У вёсцы Забор'е Полацкага павета сяляне, калі туды прыехаў дэкан Нікановіч перадаваць вуніяцкую царкву праваслаўным, павалілі яго на зямлю, вырвалі з рук ключы ад царквы, закрычалі, як адзін:

— Не жадаем веры ламаць!

Супраціўленне забойству сваёй царквы аказалі базыльянскія кляштары ў Полацку, Жыровічах, Менску, Барунах, Быцені. Віцебскія манашкі на велізарным белым палатне вышылі чырвонымі ніткамі лік архіепіскапа-пакутніка Язафата Кунцэвіча, трымаючы яго ў руках, загарадзілі ўваход у кляштар праваслаўнаму святару.

— Святы Язафаце, абарані нас! — крычалі манашкі.

Асэсар Беларускай кансісторыі Ян Ігнатовіч разам з рэктарам полацкай семінарыі Міхалам Шалепіным, інспектарам той жа гімназіі Антоніем Томкавідам, іераманахам Канецкім уначы збіраў у сваёй полацкай кватэры незадаволеных, з усёй жарсцю заклікаў духоўных асобаў берагчы вунію, змагацца супраць яе скасавання і далучэння да праваслаўя. Акрамя таго ён пастаянна ездзіў у Себежскі і Дрысенскі паветы, сустракаўся са шляхтай і сялянамі, гаварыў з імі, узбадзёрваў, натхняў, абнадзейваў і ўмольваў. У вёсцы Царкоўна Дрысенскага павета, дзе святарыў ягоны родны брат, ён разам з братам і святаром прыдруйскай царквы Касецкім правёў святочную літургію і зноў усхвалявана прасіў усіх трымацца вуніяцкай веры. Падрыхтавалі прашэнне да імператара Мікалая I, якое падпісалі 111 святароў. «Калі вунія будзе ўсё ж скасавана, — заяўлялася ў прашэнні, — мы жадаем перайсці ў каталіцтва».

Ды аб якой вуніі і якім каталіцтве можна было заікацца ў «единой и неделимой»? Полацкі ваенна-палявы начальнік падпалкоўнік Агатонаў загадаў неадкладна арыштаваць Яна Ігнатовіча разам з Антоніем Тамкавідам і 29 святарамі. Суд быў кароткі: Ігнатовіча і Тамкавіда на высылку, астатніх — каго ў кляштары, каго ў дзячкі. Тут вам не малочныя рэкі з кісельнымі берагамі! Гэта калі Стэфан Пермскі хрысціў у праваслаўе лясных комі-пермякоў, то цалаваў кожнага неафіта, даваў кожнаму залаты рубель, хрысціянскі крыжык і белую нацельную кашулю. З вуніятамі абышліся без залатых рублёў і пацалункаў.

12 лютага 1839 года ў Полацку быў падпісаны Саборны Акт з просьбай аб далучэнні вуніяцкай царквы да праваслаўнай. Акт гэты завезлі ў Санкт-Пецярбург, і Святы Сінод адразу ж зацвердзіў пастанову:«О принятии греко-униатской церкви в полное и совершенное общение святых православно-католических Восточных церкви и в нераздельный состав церкви Всероссийской». Імператар Мікалай I, якому ўрачыста паднеслі гэты дакумент, «изволил начертать» на ім: «Благодарю Бога и принимаю». Вось такая гісторыя.

Калі я сёння чую і чытаю аб росквіце і шматлюднасці Беларускай праваслаўнай царквы, якая падпарадкоўваецца Маскоўскаму Патрыярхату, калі па тэлевізіі паказваюць бясконцыя шэсці, службы, натхнёныя твары бабулек і юных дзяўчатак, залаты бляск адзення святароў, імпазантныя касцюмы ўрадавых чыноўнікаў са свечкамі ў руках, я памятаю, я не забываю, што ў абсалютнай большасці сваёй усе гэтыя людзі — прамыя нашчадкі тых вуніятаў, у якіх калісьці адабралі іхнюю царкву, «зламалі» іхнюю веру. Няспынная рака жыцця даўно знесла ў далёкую далячынь колішнія ўздыханні і слёзы іхніх продкаў. Тая рака ўжо не вернецца, бо новыя рэкі пабеглі па зямлі. А яны, сённяшнія беларускія праваслаўныя, зачараваныя галасістым перагудам маскоўскіх званоў, нават не ведаюць пра сваіх папярэднікаў-вуніятаў.

Асабіста мне сумна, што сучасная Беларуская праваслаўная царква, дзяржаўная, калі казаць па шчырасці, царква, не аўтакефальная. Мне сумна, а некаму вельмі радасна з гэтае прычыны. Нічога не папішаш. Такое жыццё. Такія ягоныя законы. І кожны з нас, людзей, павінен годна несці свой вызначаны Богам і лёсам крыж. Так пінскі расійскамоўны паэт Валеры Грышкавец натхнёна ўскліквае: «Люблю всё русское!». Любі. Ніхто не перашкаджае. У тым ліку, любі й прыгоннае права, якое аж да 1861 года (даўжэй, чым дзе на планеце!) трымала ў жахлівым рабстве сялян. І не чорных неграў, а белых еўрапейцаў.

Ды я ведаю, што й дагэтуль жыве вуніяцкая вера і вуніяцкая царква на нашай зямлі. Так жывуць копты ў Егіпце, парсы ў Іране. Паміж мора іншаверцаў, якія далёка не заўсёды сябры. Іх пакуль што няшмат, але яны ёсць, яны з годнасцю ідуць духоўнай дарогаю сваіх прадзедаў. І ў самым пярэднім іхнім шэразе — нашыя беларускія пісьменнікі. Значыць, не ўсё страчана, і ёсць надзея на новы крылаты ўзлёт. І ён ужо, як бы цяжка ні было, пачаўся. Вунія — гэта вуліца, па якой ішоў і сёння ідзе народ, гэта — вочы, якімі ён глядзеў і сёння глядзіць на свет Божы.

Што тычыцца майго бацькі, мы мелі з ім яшчэ адну вельмі запамінальную размову — зноў жа тамсама, на змітраўскіх могілках.

— Калі памру, — усміхаючыся, сказаў бацька, — дам табе адтуль нейкі знак, нейкі сігнал.

Ён круціў у руках жоўтую калючую шышку, што ўпала на зямлю з пракаветнай хваіны. Такія хваіны, гонкія меднаствольныя, шумяць над тутэйшымі магіламі ўжо не першае стагоддзе.

Трэба адзначыць, што мой бацька па складу свайго характару быў містыкам, а я ўрадзіўся падобным на яго.

— Ды ты што? — запярэчыў я, але запярэчыў слаба і няўпэўнена, бо добра ведаў: мой бацька Марцін Сцяпанавіч слоў на вецер не пускае. Калі ўжо што надумаў, то грунтоўна, усур'ёз.

У мітульзе дзён, месяцаў і гадоў забыліся тыя бацькавы словы. Навалілася столькі клопатаў, столькі праблемаў, што толькі паспявай сціраць пот з ілба і хаўкаць ротам. Памёр бацька. Мы пахавалі яго побач з маці. Зашумелі над ім, як і над ягонымі равеснікамі, меднастволыя хваіны, што ад старасці не вытрымлівалі напору ветру, і ўсё часцей з грукатам і крэктам абрушваліся на металічныя магільныя агароджы і крыжы. З родных у Змітраўцы ў мяне засталася жыць старэйшая сястра Дзіна. (На жаль, 9 лістапада 2010 года і яе не стала ). Вось да сястры я й паехаў аднойчы па замеценых снегам зімовых няўтульных дарогах, дакладней, паехала мая жонка Зіна, як кіроўца аўтамабіля, а я сядзеў побач з ёю і з дрыготкай паныласцю пазіраў наўкола. Ехалі ад Мінска на Бабруйск, потым на Клічаў, адтуль у Змітраўку. Усё было спавіта нейкай нерэальнай цішынёй. Згубіліся галасы. Згубіліся гукі. Мяккалапая белая зіма асцярожнай ваўчыцаю кралася па лясах і палетках. Здавалася, за вакном аўтамабіля не дваццаць першае стагоддзе, а сямнаццатае або нават шаснаццатае.

Пагасцяваўшы пару дзён у сястры, засабіраліся назад у Мінск. Ужо калі выбраліся з сестрынога падвор'я на шашу, што вядзе ў Клічаў, я раптам загадаў жонцы спыніцца, кумільгом выскачыў з аўтамашыны, па калена правальваючыся ў снезе, пайшоў-пабег да могілак, метраў сто па цаліку. Снег быў то зіхотка-белы, то сіні.

— Ты куды?! — крыкнула ўслед здзіўленая жонка. Але я толькі махнуў рукою. Як бы нейкае яркае-яркае святло ўспыхнула ўва мне. Як бы нейкі голас паклікаў.

Вось і могілкі. Вось і месца вечнага спачыну маіх маці і бацькі, цэнтр майго зямнога сусвету. Цішыня. Снег. Старыя хваіны. Ніякага голасу. Ніякага зыку. Ніякага следу. Я здзёр з галавы шапку, перахрысціўся, ступіў колькі крокаў наперад да сіняй зледзянелай агароджы і раптоўна спыніўся, замёр, адчуўшы гарачы штуршок у сэрцы. Паміж непарушнай белі тоўстага, як падушка, снегу, што выпаў, пэўна ж, уначы і яшчэ быў цнатліва-чысты, прамяніста-свежы, на магіле бацькі якраз у тым месцы, дзе калісьці супакоілася пад покрывам зямлі ягоная галава, мне ўбачылася круглая чорная дзірка. Быццам нечым надзвычай гарачым выпаліла-выплавіла снег. Яшчэ раз паўтаруся: наўкол, па ўсіх могілках, не было ні следу, ніякага следу, нават пункцірнага птушынага. Што ж гэта? Варона несла нешта цяжкое і выпусціла з дзюбы? Непадобна. Сарвала рэзкім парывам ветру з хваіны шышку і шпурнула ўніз? Не. Кропля зорнага дажджу, аскабалачак метэарыту завітаў з касмічнага бязмежжа ў нашу ціхую Змітраўку? Не. Тады што гэта? І раптам мне ўспомніліся бацькавы словы: «Калі памру, дам табе адтуль нейкі знак, нейкі сігнал».

Я ўздрыгнуў, я сеў проста ў снег, а потым паглядзеў у студзёнае зімовае неба. І мне падалося, што з неабсяжных вышыняў пазіраюць на мяне, цёпла і клапатліва ўваходзяць-усяляюцца проста ў душу самыя родныя, самыя сінія на зямлі вочы. Дзе ж ты, бацька?

Пішу гэтыя радкі, успамінаю цябе, мой Марцін, мой еўрапеец, мой вуніят. І мне добра.

*28 студзеня Леанід Марцінавіч ДАЙНЕКА адзначыў свой 75-гадовы юбілей. Сардэчна жадаем яму здароўя, творчай моцы і беларускіх радасцяў!*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 1 (101) | 30 студзеня 2015 | № 4 (421) Новы Час

# «Хай толькі потым вернецца і ўратуе...»



Сяргій ЖАДАН

***

*Нашы дзеці, Марыя, растуць, як трава:*
*спрацаваныя рукі, стрыжаная галава,*
*па адрасах часовых туляюцца, як піраты*
*паўжывое дзяржавы ў пошуку ежы*
*й пітва.*

*Жывуць сваімі законамі,*
*страхамі і маной,*
*не патрабуюць зменаў і маралі дурной.*
*Якія могуць быць змены ў тым,*
*чаго не існуе?*
*Якая ўжо тут мараль*
*між вайной і труной?*

*А вось твой, Марыя, сын*
*зусім не па-людску жыве:*
*з галавою ў відзежах, цудах і хараstве,*
*кажа дзіўныя словы, нібы сіла ў любові,*
*а без любові, маўляў, не расці й траве.*

*Кажа, ніякі закон не мае вагі*
*і ўсе нашы страхі прывідныя, бы снягі,*
*а ворагі ў нас з'яўляюцца*
*толькі таму, што*
*мы гэтых ворагаў першыя б'ем з нагі.*

*Але ж мы сваіх ворагаў помнім у твар,*
*ведаем, колькі схаваў іх лясны гушчар,*
*колькі і дзе працуе на нашых заводах,*
*колькі ахвяраў на наш пакладуць алтар.*

*Хто іх прывёў, скажы, на нашы палі?*
*Якога... цуда жывуць на нашай зямлі?*
*Чаму нашы дзеці, Марыя,*
*глядзець павінны*
*у іхны аўсвайс, —*
*хто яны і адкуль прыйшлі?*

*А вось твой сын заўсёды з чужымі,*
*твой сын*
*апавядае чужым, з якіх рычагоў*
*і спружын*
*складаецца неба над намі ў гэтую поўнач,*
*выхоўвае іхных дзяцей,*
*суцішае іхных жанчын.*

*Не можа чужых быць, кажа, —*
*тут, дзе сума й турма,*
*дзе на паўгода дажджы*
*й на паўгода зіма,*
*чужымі нас, кажа,*
*робіць наша пагарда,*
*яна сама нас знаходзіць*
*і забівае сама.*

*Таму нашы дзеці просяць*
*гэтак сказаць яму:*
*хай са сваёй сумою ў сваю турму*
*валіць адсюль і ўсіх забірае чужынцаў,*
*усіх, хто верыць яму невядома чаму.*

*Хай забярэ ўсе іх кнігі — далей ад бяды,*
*хай ачысціць ад ромаў вёскі і гарады,*
*ад равінаў і муфціяў,*
*кніжнікаў і прарокаў, —*
*хай іх выводзіць адсюль,*
*калі ма́е куды.*

*Інакш мы пусцім да неба*
*цяжкія дымы,*
*іх базарныя будкі й малельныя*
*спалім дамы,*
*горкія сінагогі й крохкія мінарэты —*
*усё, чаго зразумець*
*не маглі й не хацелі мы.*

*Хай іх выводзіць і сам разам з імі йдзе,*
*каб за пажарам не здарыцца*
*горшай бядзе,*
*хай памятае, што ўсіх,*
*хто тут застанецца,*
*мы ўсё адно патопім у нашай вадзе.*

*Хай забірае адсюль*
*усіх гэтых людзей,*
*хай там іх цешыць*
*любой са сваіх ідэй.*

*Хай толькі потым вернецца.*
*Вернецца і ўратуе*
*калі не нас, то, прынамсі,*
*нашых дзяцей.*

***

*Не разумеючы, што да чаго,*
*не цямячы, дзе й нашто,*
*усё ідзе, як павінна ісці,*
*ідзе сабе, як ідзе.*
*Я жыву ў краіне,*
*у якую не верыць ніхто,*
*і размаўляю мовай,*
*якую не разумеюць нідзе.*

*Але покуль хаця б ты адна*
*чытаеш нашы радкі,*
*покуль прынамсі ты*
*застаешся тут,*
*нам і далей выпадае па клавішах*
*ці ад рукі,*
*нам і далей выпадае помніць*
*пра твой маршрут.*

*Мы нават не памятаем,*
*хто і пра што гаварыў,*
*мы нават не заўважаем*
*заган тваіх і акрас.*
*Галоўнае, каб ты лавіла*
*кожны раз гэты рытм,*
*паўтараючы ўсю нашу ерась*
*даслоўна за кожным з нас.*

*Каб насіла ў кішэнях*
*нажніцы й ключы,*
*выцягваючы са смерці*
*невядома каго,*
*маючы толькі імёны паэтаў,*
*якіх цытавала ўначы,*
*і рваны салодкі апёк*
*грамадзянства свайго.*

*Трымаючы неба ў вачах —*
*і паветра нясе,*
*бароніш нават тады,*
*калі шанцаў нуль,*
*мову сваёй пяшчоты,*
*што разумеюць усе,*
*межы сваёй свабоды,*
*бачныя адусюль.*

***

*Качагар, покуль б'ецца жалезнае*
*сэрца машыны*
*і ўсхліпвае вільгаць*
*у рваных лёгкіх кінгстонаў,*
*пакажы ў гэтым небе*
*мне ўтоеныя спружыны,*
*пакажы рычагі мне,*
*што рэгулююць пачатак сезонаў.*

*Адрозніваць навучы*
*прамысловых рыб ад атрутных,*
*не блытаць крэйсераў цені*
*з ценямі кашалотаў,*
*навучы разумець лісты*
*з кішэняў нагрудных*
*у знойдзеных сярод рыфаў*
*афрыканскіх пілотаў.*

*Колькі б я ўсяго ведаў,*
*каб разрозніваў іхнія мовы,*
*колькі б сонцаў гарэла*



*ў маіх вачніцах,*
*я ведаў бы, пра што думаюць*
*спруты й марскія каровы,*
*і пра што плачуць забойцы*
*на астравах у вязніцах.*

*Колькі ў гэтай вандроўцы*
*было б ад мяне карысці,*
*колькі бесаў за лета я*
*з грэшных прымусіў бы выйсці,*
*колькі спазнаў бы сакрэтаў*
*быцця й нябыту,*
*слухаючы самотна казкі святога Віта.*

*Навучы, качагар, мудрасці*
*ды цярпенню,*
*з якім ты запальваў з сярэдзіны*
*згаслыя печы,*
*удзячнасці, з якой кідаеш*
*вугальнае каменне,*
*і пакоры, з якой прадаеш*
*асабістыя рэчы,*

*стрыманасці, каб не йсці*
*на галасы з туману,*
*мужнасці, калі пальцы*
*метэярыт апячэ,*
*сілы — хаваць сваіх блізкіх*
*пад скураю акіяну,*
*слабасці —*
*потым любіць кагосьці яшчэ.*

## Жыццё Марыі

*Яна сказала яму*
*на пачатку лета,*
*калі ўжо цяжка было нешта*
*ўтойваць.*
*«Калі чакаць?» — спытаў ён.*
*«Дзесь пасля Новага году», —*
*адказала яна.*

*Летняе паветра пахне дажджом,*
*і дні такія доўгія, што нават пасля*
*заходу сонца пэўны час*
*не настае цемра.*

*Зранку ў мора выходзяць рыбакі,*
*і калі вяртаюцца,*
*іхнія сеткі цяжкія ад марскіх*
*вожыкаў*
*і пякучых, як агонь,*
*мядуз.*

*Прыкладаючы галаў да яе*
*жывата, ён слухае яго,*
*нібы мушлю, што хавае ў сабе*
*спевы дэльфінаў.*

*Вечарамі,*
*пасля працы,*
*ён сядзеў каля яе й распавядаў*
*пра справы, пра ўсё, што з ім*
*здарылася за дзень.*
*Дамовіліся, што калі будзе*
*дзяўчынка, імя выбірае яна,*
*а калі хлопчык —*
*выбірае ён.*

*І Марыя перабірала ўголас*
*жаночыя імёны,*
*ведаючы, што насамрэч*
*гэта будзе хлопчык.*
*А Язэп перабіраў імёны*
*мужчынаў,*
*яшчэ нічога насамрэч не ведаючы.*

***

*А зараз, Марыя, пра тое,*
*як я сустракаўся з д'яблам.*
*Д'ябал мае адзін адказ*
*усім нашым траблам —*
*уводзіць табе пад скуру*
*волава з мёдам і перцам,*
*прышывае табе да цела*
*ўласныя голаў і сэрца.*

*Будзеш хадзіць з яго галавою,*
*бачыць яго вачыма.*
*Сонца лавіць у небе,*
*думаць, у чым прычына.*
*Усё адно анічога не сцяміш*
*і не спаймаеш.*
*І застанешся з тым, у што верыш,*
*то бок з тым, што ты маеш.*

*Д'ябал, Марыя, — гэта кравец,*
*чорны майстар з Бронкса,*
*у лёгкіх яго палае агонь,*
*у вачах яго плавіцца бронза,*
*шые на святы нам фракі*
*і нагавіцы са стрэлкамі,*
*арганізуе бойкі з вулічнымі*
*перастрэлкамі.*

*Прыводзіць сабе ўначы*
*залатых кітаянак,*
*а потым іх целы ў затоцы*
*топіць пад ранак,*
*кладзе табе ў рукі пакункі*
*з ранішняй поштай,*
*просіць аднесці, ты знаеш,*
*куды і навошта.*

*І я, Марыя, хадзіў да прагных*
*з той перадачаю,*
*тыя бязважкія скруткі,*
*тыя канверты гарачыя,*
*зношваў сэрца сабе*
*пад улюбёнай футболкай,*
*прабіваў сабе скуру*
*яго цыганскаю голкай.*

*Але мяне заўжды выратоўвала*
*твая ўвага,*
*трымала тваёй любові летняя смага,*
*абаранялі твае дрэвы,*
*што снегам пакрыліся,*
*напаўняла цяплом радзімак тваіх*
*кірыліца.*

*Д'ябал, Марыя, не ведае,*
*што рабіць яму з намі,*
*з нашымі галасамі, з нашымі снамі.*
*Ён мае справы з шоўкам,*
*ён трымаецца сушы.*
*Што яму нашыя беды,*
*што яму нашыя душы?*

*Адкуль яму ведаць,*
*як ламаецца голас*
*ад размоваў з табою,*
*як высыхае горла*
*ад таго, што маўчыш ты,*
*як вырастаюць расліны,*
*як шнары загойваюцца*
*ад тваёй светлай сліны.*

*Пра што ён можа дазнацца*
*ў сваёй майстэрні?*
*Нашыя спевы гучаць яму ўсё няцерпней.*
*Нашыя лютасць і гнеў яму —*
*дзіўная дзіва.*
*Але адсутнасць веры дзіўная асаблівa.*

**Пераклаў з украінскай Андрэй Хадановіч**

# Пра сваіх...



Славамір АДАМОВІЧ

## Бабуліны страхі

Пакуль два сыны дзесяці й трынаццаці гадоў адпачываюць у дзіцячым санаторным летніку, маці робіць рамонт у дзіцячым пакоі. Ейны меншы — вялікі эстэт, ну проста інтэлігент ад гаршчка, таму шпалеры выбіраў сам. Ну і выбраў, каб над яго ложкам была паласа шпалераў з нью-ёркскімі матывамі. Тым больш, што ў яго й бейсболка ё з запаветнымі літарамі N.Y.

Як сын замовіў, так маці і купіла. І ўжо наклеіла. А там нейкія надпісы ўдоўж і ўпоперак, накшталт «сабвэй», «ван вэй», «лібэрці стрыт» і да таго падобнае...

І тут заходзіць у пакой бабуля Любоў Іванаўна, заўважае на сцяне нейкае абы што з «нярускімі» пісьмёнамі й кажа дачцы: глядзі ж, каб не пасадзілі...

Унук вярнуўся з летніка й страшна рады сваім крутым шпалерам, правяраючы па слоўніку значэнні ангельскіх словаў. Пра бабуліны перажыванні маці яму не кажа — не зразумее...

***

«Усе мы на адной хвалі. Толькі гайдаемся па-рознаму»

***

Нарэшце і над Мар'інай Горкай прайшоў сапраўдны дождж. Можна сказаць нават, што праліў сябе. А потым — град: барабаніў па маім беларускім даху майго беларускага дома, і я аджываў у сваіх уласных вачах, натхнёна трапятаў плаўнікамі й хвастом, раскрываў шчэляпы й працаваў жабрамі... Першы сапраўдны дождж над Пухавічамі за ўсю вясну...

І я цяпер на пад'ёме, раскрыў вокны ў доме, гляджу «Пальп фікшн» і гатовы зрабіць табе масаж ступні, мая мілая, мілая незнаёмка...

## Пра «святых айцоў» і «фашысцкія кнігі»

У суботу, шукаючы хоць нейкага беларускага жыцця ў Мар'інай Горцы і з увагі на антыбеларускія паводзіны новага ксяндза Генрыха Кучынскага пайшоў з пасынкам Мікалаем на службу да грэка-каталікоў, якія збіраюцца ў адзіным нашым касцёле. Парафія мар'інагорскіх уніятаў складаецца бадай з адной сям'і спадара Юркова: ягонай жонкі, — украінкі родам з Львоўшчыны, іхных трох дачок, дзесяцімесячнай унучкі ды зяця. Ну і я спрабую падтрымаць...

Дык вось, прыйшоў я пад касцёл а трэцяй дня, як і дамовіліся. Храм зачынены. Айцец Пахом (ён жа — Павал Кавалёў, былы «талаковец», мусіў прыехаць з Менску і крыху затрымліваўся. Нарэшце святар разам з парафіяй пад'ехаў на аўто. Звоняць ксяндзу, каб адчыніў. Той адмыкае дзверы зсярэдзіны, заўважае мяне й сходу пачынае тлумачыць айцу Пахому, які я страшны чалавек, атакаваў яго, пагражаў напісаць мітрапаліту і што ён ужо зрабіў папераджальныя захады й сам звярнуўся да менскіх касцельных уладаў на прадмет такога неспакойнага парафіяніна. Усё гэта было выказана айцу Пахому хвілін за пяць, пакуль той спрабаваў прайсці з сваёй парафійкай у храм...

Нарэшце ўсе прайшлі бліжэй да аўтара, а Кучынскі схаваўся дзесьці ў сваіх пакоях. Пакуль уніяцкі святар рыхтаваўся да службы, жонка спадара Юркова паспела расказаць мне, што і ў яе з новым ксяндзом здараліся канфлікты па прынцыповых пытаннях, нават у тэлефонных размовах...

Пасля службы я коратка растлумачыў айцу Пахому сутнасць маіх прэтэнзіяў да новага ксяндза, на што святар параіў мне паводзіцца больш спакойна і шукаць іншых парафіянаў, з якімі можна было весці размову з ксяндзом...

Ага, ледзь не забыўся. У сваёй скорагаворцы, звернутай да айца Пахома, ксёндз выдаў самую, што называецца, каронную інфу пра мяне: «А яшчэ ў яго на кніжных паліцах фашысцкія кнігі стаяць!» Ну а як жа, кнігі па гісторыі гітлераўскага Трэцяга райху ці біяграфія самога Гітлера аўтарства Ёхіма Фэста «фашысцкія» абавязкова і без выняткаў.

Пра «фашыцкія кнігі» яму нашаптала хутчэй за ўсё жонка-беларуска расейца Сабліна, які рабіў мне кніжныя паліцы і лесвіцу ў мой новы дамок і якога я палічыў быў патрэбным запрасіць на адкрыццё сваёй творчай галерэі...

## Пра сваіх...

Пяць дзён адгасцяваў у мяне бацька.У панядзелак адвезлі мы яго назад да бабы Юзі, у Альхоўку.

Прыехалі раннём, да спёкі, тут жа арганізавалі полудзень. За сталом усплыло таемнае: наша баба Юзэфа, ратуючы запасы дачачнай гарэлкі ад бацькавага пільнага вока й чулага носу, зліла яе ў трохлітровы слоік ды закатала пад металёвую крышку.

І вось у панядзелак пад абед закансерваваная гарэлка знайшла сваіх дэгустатараў. Маці разліла па чарках. Я першы паднёс напой да рота, але выпіў ці не апошні: з чаркі тхнула густым водарам дыні, але градусаў не было чуваць і блізка. Пачалі разбірацца. Аказалася, што 38-градусная дынная ўжо гадоў шэсць стаіць у слоіку сярод іншых закатак-варэнняў у варыўні, зрубленай яшчэ першым ейным зяцем, Валеркам Грышкевічам...

Ну ды што ж, хоць у роце і не пякло, і спіртам у нос не шыбала, але настрою мне паддало. Ды такога, што ў самы разгар спёкі я пасек сваёй менскай сякерай старую-старую вольху, папіленую на калоды другім зяцем бабы Юзэфы, былым работнікам крымінальнага вышуку Юр'ям...

Ужо вечарам, пасля лоўлі ў нашым Альховацкім возеры нашых тутэйшых мідыяў, прыселі з бацькам за стол ды зноў разлілі дынны вытхлай. Выпіўшы чарку з выглядам, які паказваў усю глыбіню бацькавай пагарды да малаградуснага напою, ён неяк неўпрыкмет перайшоў да ўспамінаў пра свой род па мячы. Я гэтак жа неўпрыкмет уключыў на запіс свой нарвежскі мабільны...



**Вышыванка — безумоўны сімвал Народу і Нацыі. Спачатку была вышыванка, а ўжо потым — нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг...**

## Свой

Надвечар пайшоў па лазовыя пруты ў кустоўе, што каля Новага рынку — на плот. З сабой прыхапіў скрутак шпагату ды сякеру.

Па дарозе заманулася мне ў крамку з нетутэйшай назвай «Ахматар». Заходжу, прыхінаю сякеру да лядоўні з півасікам ды на ўсялякі выпадак, з прысмехам у голасе, кажу прадавачцы, каб не баялася. А тая ў адказ: «А я і не баюсь. Я жэ знаю, што вы свой. Я жэ слышу, што вы всегда по-нашому»...

І высняецца далей, што ўжо трэці год — а якраз столькі часу я жыву ў Мар'інай Горцы — чарнявая прадавачка сярэдняга веку лічыць мяне сваім земляком, украінцам! Я мужна пракаўтнуў гэтую неспадзеўку, не стаў даказваць адваротнае і выслухаў жанчыну (ой як часта трэба чалавека толькі выслухаць!).

З выслуханага даведаўся, што кабета яшчэ ў 1987-м прыехала разам з мужам-ваенным сюды, у Беларусь. Муж (дарэчы, беларус) закончыў Львоўскае камандна-штабное... з таго часу яна сярод нас. Сын і дачка. Сама 1970-га года нараджэння. Радня была з Чаркашчыны...

Сёння я ізноў завітаў у крамку і, устаўляючы дзе-нідзе ўкраінскія словы, ненавязліва пачаў гаварыць на ўчарашнюю тэму, перапыненую кліентамі... Пачуў, што дзед ейны працаваў ва ўрадзе УССР і ўжо не раз перавярнуўся ў труне з-за тых падзей, якія цяпер адбываюцца на Украіне...

На Данбасе, дзякуй Богу, у яе нікога няма, і яна ну ніяк не разумее, як можна разбураць тое, сваё, што так цяжка будавалася іхнімі дзядамі й бацькамі...

На рэшту размовы я ўзяў бутэльку «брэст-літоўскага» малака, чэкушку гарэліцы «Sobieski» і бохан слуцкага хлеба ды выйшаў, пажадаўшы зямлячцы здароўя. Перад брамай ва ўласны двор дастаў учора прыкуплены пачак тутэйшых цыгарэтаў «Фэст», уставіў адну ў зубы і з ярасцю, вартай сапраўднага курца, высмаліў яе за пяць зацяжак.

***

Даслалі паведамленне, што памёр Алег Дышлевіч — перакладчык з польскай, адзін з нямногіх «натуральных» нашамоўных інтэлігентаў-ліцвінаў, г.зн., які вырас у белмоўным асяроддзі (сям'і), а не мусіў вяртацца да Беларушчыны ў дарослым веку праз свядомы выбар. Ён быў адным з трох маіх настаўнікаў духоўных (як бы гэта ні гучала патасна) у той крытычны час, калі я толькі прыехаў у яшчэ падсавецка-камуністычны Менск 1983-га...

Звяла нас сталіца, але хутары-сядзібы нашых дзядоў, адасобленыя толькі Лібава-Роменскай чыгункай, суседзіліся яшчэ з канца XIX ст.: урочышча Дышлевічаў «Южукова» межавала з вёскай Вераб'і на поўначы; урочышча Адамовічаў «Казіміраўка» на поўдні межавала з надзеламі мужыкоў в. Альхоўка, на ўсходзе — з маёнткам пані Нямiравай і на захадзе — з урочышчам «Пятроўшчына» пана Дубовіка...

Пахавалі Алега на могілках в. Вялікія Нястанавічы, што на Лагойшчыне. Ідучы на фэст у Буду — адведайце. Я запомніў яго бяскрыўдным чалавекам.

Адпачывай з мірам, дарагі зямляк, і нас доўга чакай...

## Пах чорных парэчак

Усё, як вядома, з дзяцінства, ад пупка...

Калі ў цябе было дзяцінства — у цябе будзе што ўспомніць і ў сталым веку.

Дзяцінства — гэта духоўная пупавіна чалавека...

Але ж я не пра тое...

Я — пра пах чорных парэчак. І пра ажыну. Таямнічыя і вабныя ягады...

Летам падступіцца да маліны было проста. А вось раскошная ажына хавалася ў густым лазова-крушынным кустоўі, была ўдвая калючэйшая за маліну, і — не давалася! Таму й ягады ейныя былі ўдвая смачнейшыя. Таму з гадамі, калі я пачаў пісаць, калючы куст ажыны ўсплыў у маіх фантазіях у вобразе раскошнай, недаступнай, нават нават звязанай і з гонарам Жанчыны. Іншы раз мне здаецца, што гэта была мая бабуля Грасільда...

Не раслі на нашым хутары і чорныя парэчкі. Па іх трэба было ісці на раку Алшанку, прыток Сэрвачы. Асабліва многа смуродзіны было за саўгаснай фермай, якая стаяла на месцы былой сядзібы пані Нямiравай. Над фермай вісеў густы экзос каровіных лепяхоў і здохлых цялятаў, таму прамінуць гэты сімвал савецкага народаўладдзя хацелася як найскарэй.

І толькі там, у цёмна-зялёным шыракалісці кустоў чорнай парэчкі, якія спляталіся з учэпістымі зялёнымі паразітамі дзеразою, дзікім гарошкам і хмелем, — толькі ў гэтым царстве хларафілу губляўся смурод гніення і панаваў водар фотасінтэзу — пах чорных парэчак...

Потым, з гадамі, цалуючы сваіх жанчын у іхнія таямнічыя месцы, я часамі прыгадваў і тую калючую і неверагодна смачную ажыну, і тыя чорныя прырэчныя смуродзіны... І ад тых згадак ува мне самім адбываўся нейкі неверагодны сінтэз, за які мяне потым і любілі, і дзякуючы якому любіў я...

## Што такое вышыванка?

Вышыванка — адзін з элементаў нацыянальнага строю, касцюма...

Ні пад нямецкай, ні пад польскай, ні пад савецкай акупацыяй нават акупанты не дадумваліся «наязджаць» на традыцыйныя нацыянальныя строі (прынамсі я такіх фактаў гістарычных не ведаю)...

Вышыванка — безумоўны сімвал Народу і Нацыі. Спачатку была вышыванка, а ўжо потым — нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг...

А паколькі сімвал — зброя, больш небяспечная за ўласна бомбы, снарады і гарматы, то наш вораг, перш чым уступіць з намі ў адкрыты двубой на полі сечы, пастараецца (і ўжо 20 гадоў як стараецца) нейтралізаваць нашыя сімвалы... Нават калі гэты сімвал — вышыванка...

Для маладых маіх фрэндаў нагадаю: 18 гадоў назад у Менску падчас вобшуку ў мяне ў пакоі забралі сцягі і нашыўкі арганізацыі «Правы Рэванш» ды халодную зброю ў выглядзе паляўнічага нажа з крывацёкам. Праз 10 месяцаў адседкі суддзя пастанавіў: нож падсуднаму вярнуць, а сцягі і нашыўкі як сімвалы незарэгістраванай арганізацыі — знішчыць у крэматорыі «амерыканкі»!

Сімвал выявіўся больш небяспечным для суддзі, чым халодная зброя, за якую збіраліся судзіць!.. Так што сутнасць «наезду» на беларускую (ліцвінскую) вышыванку — у адабранні ў народа ягоных сапраўдных сімвалаў!..

(Урывак з рамана)

# Хроніка ў камні



Ісмаіль КАДАРЭ

Гэта быў дзіўны горад. Стваралася ўражанне, што аднойчы зімовай ноччу яго закінулі ў даліну, і цяпер ён караскаецца ўверх па схіле гары нібы якая дагістарычная істота. Усё ў гэтым горадзе было старым і каменным: вуліцы, фантаны і дахі векавых дамоў (апошнія пакрытыя шэрай, як гіганцкая луска, сланцавай пліткай). І цяжка было даць веры, што пад гэтым магутным панцырам існуе і нараджаецца далікатная плоць жыцця.

Горад нахілены пад вострым кутом, так, як, відаць, аніякае іншае месца на свеце. Гэтак ён кінуў выклік законам архітэктуры. Верхняя частка аднаго дома чапляецца за падмурак другога. І гэта, вядома, адзінае месца ў свеце, дзе, калі вы паслізнуліся і зваліліся ў яму ці проста паваліліся на брук, то апынецеся на даху суседняга дома, — гэтая асаблівасць добра вядомая тутэйшым п'яніцам.

Абхапіўшы жыццё жыхароў сваёй каменнай абалонкай, горад набіў насельнікам шмат гузакоў і нарабіў мноства драпінаў і ран. Ды дзіва што — горад жа каменны, а дотык каменя грубы і халодны.

І было зусім не проста правесці дзяцінства ў гэтым горадзе.

### Частка першая

За акном пануе халодная ноч з дажджом, туманам і ветрам. З галавой падбіўшыся пад коўдру, я слухаю прыглушаны, манатонны шум дажджавых кропель, што падаюць на дах нашага дома.

І ўяўляю, як незлічоныя кроплі збягаюць па нахіленым даху, маракуючы, што патрапяць на зямлю і ператворацца ў туман, каб зноў ускрэсць у высокім белым небе. Аднак наўрад ці яны ведаюць пра хітрую пастку — вадасцёкавы латак, які чакае іх на гзымсе. І вось, калі кроплі ўжо збіраюцца зляцець з даху на зямлю, яны раптам трапляюць у той самы бляшаны латак. І тысячы спадарожнікаў пры гэтым пужліва пытаюцца: «Куды мы ляцім, куды нас гоняць?» І перш, чым кроплі здолеюць акрыяць ад вар'яцкай гонкі, яны апынуцца ў глыбокай і цёмнай вязніцы — у баку нашага дома.

Так канчаецца жыццё дажджавых кропляў — жыццё радасці і свабоды. У цемры бязгучнай цыстэрны яны яшчэ згадаюць з тужлівым смуткам бязмежны абшар неба і зразумеюць, што ніколі больш не ўбачаць разарваны маланкамі далягляд і горад, за якім назіралі з вышыні. І калі я, гуляючы з люстэркам, адпраўлю мімалётную памяць аб бясконцым небе на паверхню нашага «вадасховішча», яны ўбачаць маленькі, не больш, чым далонь, кавалачак неба.

Кроплі дажджу правядуць сумныя дні і месяцы на дне, пакуль не прыйдзе маці з вёдрамі ў руках і не выцягне іх, збянтэжаных і ашаломленых, з цемры, каб прапаласкаць вопратку ці памыць лесвіцу і падлогу ў доме.

Але цяпер кроплі нічога не ведаюць пра свой лёс. Яны радасна і шумна збягаюць па даху, і я, слухаючы іх балбатню, ляжу з коўдрай на галаве і гатовы заплакаць ад жалю.

Калі дождж ідзе тры ці чатыры дні запар, бацька адсоўвае вадазліўны латак убок, каб вада не лінула з перапоўненага баку. Бак велізарны і займае багата месца ў доме. Калі ён перапоўніцца, то вада затопіць падвал ды размые падмурак. Горад стаіць на схіле гары, і таму верагодна любая непрыемнасць.

Дык вось, калі я так ляжаў і разважаў над тым, хто больш пакутуе ў няволі: людзі ці вада, пачуліся спачатку крокі, а потым голас маёй бабулі з суседняга пакоя.

— Уставайце, уставайце. Мы забыліся адсунуць латак.

Бацька і маці спужана скочылі з ложка. Тата ў сваіх доўгіх белых споднiках пабег па цёмным калідоры, адчыніў акенца, штурхнуў латак доўгай палкай. Двор азваўся плёскатам вады.

Маці запаліла паліты газаю квач і разам з бацькам і бабуляй спусцілася па сходах. Я падбег да акна, зірнуў на двор. Там лютаваў вецер: біў дажджом у шыбу, скуголіў у шчыліны старога дома.

Мне было цікава даведацца, што адбываецца долу. Бацькі і бабуля былі ўсхваляваныя і нават не зірнулі ў мой бок: яны падымалі драўляную накрыўку бака, каб убачыць, ці высока паднялася вада. Потым маці паднесла сваю паходню, а бацька перагнуўся цераз край і зазірнуў у чорную пройму.

Я здрыгануўся ўсім целам, схапіўся за бабульчыну сукенку. Бабуля паклала мне на галаў сваю руку. Усе дзверы ў доме рыпелі ад ветру.

— Канец свету! — выдыхнула бабуля.

Бацька, сагнуўшыся, усё яшчэ спрабаваў разгледзець штосьці ў цыстэрне.

— Дай якую газету! — крыкнуў ён маці.

Маці прынесла газеціну. Бацька яе скамячыў, запаліў і кінуў у цыстэрну. Маці злёгку заплакала.

— Вады амаль па край, — выгукнуў бацька.

Бабуля пачала мармытаць малітвы.

— Хутчэй запалі ліхтар! — крыкнуў бацька.

Маці, белая як воск, дрыготкімі рукамі запаліла газніцу. Бацька накінуў на галаў чорны плашч, узяў газніцу, пайшоў да варот. Маці ж надзела нейкую старую апранаху і падалася следам.

Непадалёку, сярод шуму дажджу, грукнулі вароты. Потым грукат паўтарыўся.

— Не бойся, — сказала бабуля, — зараз прыйдуць суседзі і дапамогуць утаймаваць ваду. Бабульчын голас стаў рытмічным, нібыта яна апавядала казку: «У гэтым свеце кожная хвароба мае сваё лячэнне. Толькі ад смерці няма лекаў, мой хлопчык».

Я падышоў да атвору бака і зазірнуў у яго. Цемрыва. Цемрыва і пачуццё жаху.

— А-у-у, — ціха выгукнуў я. Але ён не азваўся. Упершыню бак адмовіўся са мной размаўляць. Раней мне падабалася нахіляцца над цёмнай адтулінай і падоўгу гутарыць: яна заўсёды спяшалася адказаць мне сваім глыбокім, глухім голасам.

— А-у-у, — гукнуў я зноў, але адказам была ўсё тая ж цішыня. Гэта азначала, што суразмоўнік не на жарт узлаваўся.

І падумалася, што на дне незлічоныя кроплі дажджу сабралі ўвесь свой гнеў. Старыя кроплі, што пакутуюць там надта доўга, зліліся з навічкамі і ўрэшце выклікалі гэтай цёмнай ноччу страшэнную навальніцу...

Каля варот пачуўся шум, і на двор, адзін за адным, увайшлі прамоклыя да ніткі Джэджа, Манэ Воца і Наза ў суправаджэнні сынавай нявесткі. Следам за імі, скаланаючыся ад холаду, ішлі бацька і маці. Неўзабаве вароты зноў рыпнулі, і ў пройме залуналі Джавэр з Максутам — Назіным сынам, які цягнуў вялікае вядро.

Ад такой колькасці людзей сэрца маё ўраз пацяплела. Зашамрэлі-зазвінелі вяроўкі, ланцугі і вёдры. Зыкі гэтыя разагналі душэўную трывогу.

Стоячы на ганку, я сачыў за шумным людскім завіханнем: за даўгалыгім, хударлявым і сівым Манэ Воца, за Назіным сынам і яе прыгажуняй-нявесткай, у якой былі дарэшты заспаныя вочы, і за Джэджай, якая ўвесь час цяжка дыхала. Манэ Воца, Джэджа і Наза адзін за адным чэрпалі вёдрамі ваду, а бацька і астатнія вылівалі яе на двары. А дождж па-ранейшаму ліў, і Джэджа час ад часу мармытала сабе пад нос:

— Божухна, канец свету!

Пасля кожнага спарожненага вядра я ціха шаптаў вадзе: «Ідзі прэч, халера на цябе, калі не хочаш застацца ў нашым баку». Вёдры бралі ў палон кроплі дажджу, а я думаў: «Трэба перш-наперш адсеяць іх брыдкіх верхаводаў, такім чынам мы паменшым небяспеку».

Джэджа адышла ўбок і запаліла цыгарку.

— Чула? — звярнулася яна да бабулі, — у дачкі Чэча Каілі вырасла барада.

— Дагулялася, — азвалася бабуля.

— Сама бачыла, — выдала Джэджа. — Чорная барада, як у мужыка. Вось чаму бацька не выпускае яе з дому.

Давялося наструніць слых. Нядаўна я сустрэў тую дзяўчыну на вуліцы, але не звярнуў на яе ўвагі.

— О-о, Сэльфіджэ! — уздыхнула Джэджа. — Адна напасць за другой. Дрэнныя знакі пасылае нам Гасподзь. Сёння наогул чорны дзень і канец свету.




Акінуўшы позіркам Назіну прыгажуню-нявестку, якая толькі тры тыдні таму пабралася шлюбам, Джэджа прашаптала нешта на вуха маёй бабулі. Бабуля закапыліла губу. Я зноў наструніў слых, але Джэджа адкінула недапалак і пайшла да бака.

— Колькі ўжо часу? — запытаўся Манэ Воца.

— Ды дзесьці за поўнач, — адказаў бацька.

— Я зраблю кавы, — паведаміла бабуля і махнула мне рукой.

Мы рушылі наверх: прыступкі і дзверы па старой завядзёнцы зарыпелі.

— Вунь яшчэ людзі падышлі, — сказала бабуля.

Я павярнуў галаву, каб паглядзець — хто прыйшоў, але нічога не ўбачыў. Панаваў прыцемак, і страшныя цені са зменлівымі формамі слізгалі ўздоўж сцен.

Мы падняліся на другі паверх, і бабуля запаліла агонь у спальні. Я вярнуўся ў ложак. Знадворку па-ранейшаму лютавала навальніца, і на даху, не раўнуючы як нейкія жывыя істоты, стагналі коміны. Мне падалося, што падмурак нашага дома, замест таго, каб стаяць на цвёрдай глебе, плёхаецца ў здрадніцкай чорнай вадзе.

— Ох, і дрэнныя часіны, трывожныя часіны, даражэнькі, надышлі... часіны здрады...

Пад бабульчына мармытанне і прыемны трэск запаленых цёсак мяне ахапіў сон, які знітаваўся з абрыўкаў пачутых ад дарослых размоваў, сэнс якіх быў няўлоўным, як вада.

Калі я прачнуўся, дом быў знямела-ціхім. Бацька і маці спалі. Я ціхенька ўстаў і зірнуў на гадзіннік. Была дзявятая раніцы. Потым зайшоў у пакой да бабулі: бабуля таксама спала. Упершыню ўсе спалі такой парою.

Навальніца аціхла. У гасцёўні я падбег да акна і выглянуў на двор. Высокае халодная неба было пакрытае нерухомымі шэрымі хмарамі. Відаць, вада, якую вылілі з бака мінулай ноччу, цяпер выпараецца, падымаецца да высокіх аблокаў і пахмурна паглядае на мокрыя дахі і змрочную зямлю.

Калі я глянуў долу, то заўважыў, што рака выйшла з берагоў.

Яно і не дзіва! Такімі начамі заўсёды адбываецца адно і тое ж: рака намагаецца зрынуць мост, трасучы яго, нібы конь, які прагне скінуць абрыдла-мулкую паклажу. Дзікае начное змаганне захапіла і крывава-гліняныя берагі. Будучы не ў стане зрынуць мост, рака перакінулася на дарогу, цалкам яе праглынуўшы. Цяпер, з бязмерна апухлай глоткай, рака пераправілася дарогу. Але дарога была сапраўднай фартэцай: жорсткай, звыклай да нечаканых нападаў. Яна цярпліва стаілася пад вірамі чырванаватай вады ды чакала яе зыходу.

«Дурная рака», — падумаў я. Кожную зіму яна спрабуе куснуць горад за нагу. Але гэтыя высілкі не такія і страшныя, як могуць падацца. Патокі, якія абрынаюцца з гор, бываюць куды страшнейшымі. Яны таксама, як і рака, спрабуюць куснуць горад за лытку. Але ў той час, калі рака, пачаўшы атаку, напірае на тлустыя ногі горада, горныя патокі нясуцца па ярах, каб па-здрадніцку скокнуць яму на спіну.

Я агледзеў наваколле, якое так змянілася за ноч, і падумаў, што калі рака адчувае нянавісць да моста, аўтамабільная дарога адчувае такую ж нянавісць да ракі, а горныя патокі да муроў, а вецер да гор, то ўсе разам яны мусяць ненавідзець вільготны і шэры горад, які з пагардай пазірае на іхную разбуральную нянавісць. І горад падабаўся мне за тое, што змагаўся на гэтай вайне адзін супраць усіх.

Не адрываючы вачэй ад краявіду, я спрабаваў уцяміць: якая сувязь можа быць паміж прамінулай навальніцай і дачкой Чэча Кайлі, чыя няшчасная барада, як дрэннае прадвесце, усплыла раптам у памяці? Потым мае думкі засярodзіліся на баку. Я схамянуўся і збег па лесвіцы долу. Калідор быў мокрым. На падлозе грувасціліся вёдры і вяроўкі. Іх выгляд рабіў цішыню яшчэ больш напятай. Я падышоў да атвору цыстэрны, адсунуў века і нахіліўся.

— А-у-у! — прамовіў я ледзь чутна, нібы баючыся абудзіць нейкіх пачвараў.

— А-у-у! — адказаў бак, але з неахвотай, голасам чужым і хрыплым. Я ведаў, што яго гнеў аціх, але не дарэшты, бо голас быў прыглушаны больш, чым звычайна.

Калі я зноў падняўся ў гасцёўню і выглянуў у акно, дык з радасцю заўважыў, што далёка на занадта вялікай, каб яе вызначыць, адлегласці з'явілася вясёлка, — нібыта новая мірная дамова паміж гарамі, ракой, мостам, горнымі патокамі, аўтамабільнай дарогай, ветрам і горадам. Але не цяжка было зразумець, што замірэнне будзе нядоўгім.

### Частка другая

Да нас наведаліся Джэджа і Кака Піна. Яны сядзелі ў гасцёўні, сёрбалі каву і балбаталі з бабуляй. Джэджа была ўсхва-

ляваная. Бабуля, хаця вонкава і выглядала спакойнай, насамрэч таксама нервавалася. Кака Піна, кволая, апранутая ва ўсё чорнае, раз-пораз ківала сваёй маленькай галавой, бязгучна паўтараючы пасля кожнага Джэджынага слова: «Канец свету!».

Я быў зачараваны іх размовай. Пагатоў, гаворка ішла пра Ісу, старэйшага сына Манэ Воца, які на мінулым тыдні ўчыніў нешта нечуванае: пачаў насіць акуляры.

— Калі мне пра тое сказалі, я не дала веры, — паведаміла Джэджа. — Падхапілася, накінула на голаў хустку і пабегла да Манэ Воцы. Глянула, а Манэ зусім заняпалы, і жанчыны ягоныя з твару змарнелі. Сядзелі як не ў сабе. Хацела спытаць, што здарылася, ды не змагла. Мову заняло. І тут на табе — уваходзіць, акулярамі бліскаючы. «Як маецеся, як справы?», — пытаецца. А я маўчу, бо камяк захрас у горле. Як я не расплакалася, нават не ведаю. А ён пайшоў да паліцы, пагартаў некалькі кніг. Потым да акна рушыў, спыніўся, зняў акуляры, паклаў на падвоканне ды пацёр вочы рукамі. Матка ды сёстры на яго ўтаропіліся. Нават вусны дрыжэлі. І тут я — раз! — руку працягнула, акуляры схапіла і на нос насунула. Што я вам скажу, мае вы сяброўкі. Ледзь з глузду не выбілася. Гэтыя шкельцы праклятыя. Свет уваччу забрыніў, што ў тым пекле. Усё захісталася, пераблыталася, да гары нагамі кульнулася і закруцілася, быццам д'ябал дзьмухнуў. Зняла іх хуценька ды выбегла, ашалелая.

Джэджа цяжка ўздыхнула. Бабуля кульнула філіжанку донцам угору.

— І што на Ісу найшло? — тужліва мовіла бабуля. — Такі ціхмяны, разумны хлапчына. Калі б тое ўчыніў такі ёлуп, як Ламэ Карэца Спіры, тут зразумела, але Іса...

— Канец свету, — выдыхнула Кака Піна.

— Так, мая Сэльфіджэ, — працягвала Джэджа. — Увесь час скардзімся на кагосьці, а самі вінаваты ва ўсіх бедах. Учора пабудавалі дом з кардону, сёння маладыя хлопцы акуляры насунулі, а заўтра немаведама што можа надарыцца. Але ёсць Усявышні, — Джэджа паказала пальцам на столь, і голас яе стаў пагрозлівым, — ён усё бачыць і ўсё запісвае. Схопіць калі-небудзь за насы ды пацягне.

— Канец свету, — прамармытала Кака Піна.

Калі Джэджа згадала пра дом з кардону, я міжволі крутнуў галавой, згадаўшы квартал Штрафнікоў і незвычайны, пабудаваны з фібравых лістоў дом. Яго зграмэздалі некалькі тыдняў таму італьянцы для сваіх, як казалі, манашак. Цяпер ён стаіць там, чужародны, між каменных будынінаў. Спаруда тая не на жарты ўсхвалявала месцічаў. «Што яшчэ за дом такі — з кардону?» — пыталіся старыя людзі, якія свойчас пабачылі свет і былі нават у Турэччыне. «Мы такіх дамоў аніколі не бачылі. Няйначай, гэта праца д'ябла».

Балбатня не супынялася, а я ўважліва слухаў, адчуваючы, што з сынам Манэ Воцы і з тым, што ён зрабіў, звязана нейкая таямніца. Я таксама не раз глядзеў праз адно з такіх праклятых шкельцаў. Знайшоў яго ў старым бабульчыным куфры і, гуляючы, паднёс да вока. Навакольны свет на здзіўленне скалануўся. Відарысы рэчаў сталі знянацку больш яркімі, кантрастнымі, чыстымі і жорсткімі. Я доўга глядзеў праз шкельца, закрыўшы рукой адно вока, аглядаючы краявід вакол нашага дома. Гэта было сапраўднае дзіва. Стваралася ўражанне, што чыясьці нябачная рука выцерла запацелае акно, адкрыўшы новы і зыркі свет. Але свет гэты мне не надта спадабаўся. Я прызвычаіўся глядзець праз воблака туману: відарысы рэчаў вольна збягаліся і аддаляліся, не маючы дакладных межаў, і мне здавалася, што дахі і гзымсы, дарогі і тэлеграфныя слупы не маюць сталага месца на зямлі і лёгка перасоўваюцца. Да таго ж, праз круглае шкельца свет выглядаў дарэшты мініяцюрным, не даючы рэчам больш таго, што яны ўжо мелі. Гэта было як у гаспадыні, у якой усё — алей, вада, мука — на шчыгульным уліку, іх ніколі не перасоўваюць з месца на месца і выпадкова не ліюць і не высыпаюць.

Зрэшты, шкельцам было зручна карыстацца ў кіно. Перад сеансам я яго мыў і клаў у кішэнь. Калі святло згасала, я хуценька выцягваў шкельца, заплюшчваў левае вока і ўстаўляў у правае. Калі ж вяртаўся з кіно дадому, ніхто не мог зразумець, чаму адно вока ў мяне такое чырвонае. Аднаго вечара двое цыганят, якія глядзелі фільм поруч са мной, надта зацікавіліся шкельцам, і я пачуў, як адзін з іх прашаптаў другому: «Можа, ён шпігун?».

— Канец свету, — чарговым разам паўтарыла Кака Піна, пасля чаго жанкі пачалі, як заўсёды, наракаць на дарагоўлю харчоў. Слухаць тое было нецікава, і я стаў разважаць — чаму людзі бачаць вачыма, а не пальцамі, шчокамі або іншай часткай цела. Бо, зрэшты, вочы толькі маленькая частка чалавека. І як гэты бязмежны свет патрапляе ў нашы вочы? І чаму людзей не разрывае ад вялікай колькасці святла, прасторы і фарбаў, якія без супыну ліюцца і ліюцца ў вочы? Думка гэтая доўгі час не давала спакою. А яшчэ я здавён быў апантаны таямніцай слепаты, якой страшэнна баяўся. Гэты страх, магчыма, ад таго, што большасць праклёнаў, якія я чуў, былі звязаны з вачыма. Аднойчы забіла брудам наш умывальнік, і сцёкавая адтуліна стала падобная на невідушчае вока. «Так і са зрокам, — падумаў я тады, — струмень святла, з усімі ягонымі краявідамі, не можа прайсці праз вачніцы, — гэта і ёсць слепата. Вось і ў вачніцах гарадскога бейтэджы* Вэхіпа Слепака такое ж вадкае чарноцце.

Зрок... гэта рэч невытлумачальная! Я паварочваю галаву, гляджу праз акно на ніжнюю частку горада, і мае вочы, як дзве магутныя помпы, пачынаюць усмоктваць святло з выявамі комінаў, некалькіх фігавых дрэваў, вуліцаў і мінакоў. Ці адчуваюць яны, што я іх усмоктваю? Заплюшчваю вочы. Стоп. Усё спыняецца. Размежваю павекі — жыццё працягваецца. Вуліцы і завулкі пакручаста збягаюць долу, і на іх кратаецца жменя народу: едзе на кані селянін, ідзе святар, ды яшчэ нейкая апранутая ў чорнае старая дыбае да некага на пагасціны.

Вуліца Базарная пнецца ўгору, тым часам як праваруч крута збягае долу вуліца Штрафная, агінаючы фібравы дом італьянскіх манашак, быццам ён зачумлены, затым сутыкаецца з Базарнай, і ад таго сутыкнення абедзве вуліцы яшчэ больш выгінаюцца. Далей завулак Вар'ятаў, сляпы і бязладны, спрабуе зліцца з фанабэрыстай Гімназічнай вуліцай, ды тая ў апошнюю хвіліну нейкім чынам пазбягае іх нечаканымі паваротамі.

На адным з тых паваротаў я і стаяў, чакаючы Іліра. І калі яго ўбачыў, пабег насустрач па вулічных прыступках.

— Пайшлі на разніцу, — сказаў Ілір, — мы там ніколі не былі.

— На разніцу? А што мы там будзем рабіць?

— Як што? Будзем глядзець на кароў ды авечак.

— Ты што, не бачыў мяснікоў? Зайдзі на наш базар. Там і тушы вісяць на гаках дагары нагамі.

— Базар гэта адно, — прамовіў Ілір, — а разніца зусім іншае. Там можна пабачыць, як забіваюць бугаёў. І там няма занудлівых пакупнікоў, што збіваюць цану. Уцяміў? Гэта месца забойстваў.

Слова «забойства» было адным з тых, якія я чуў найбольш часта, але ягоны сэнс здаваўся мне даволі няўцямным.

— На мінулым тыдні бугай вырваўся з рук разнікоў і пабег, раз'юшаны, — працягваў Ілір. — За ім пабеглі, білі ўсім, чым можна, аж пакуль бык не спатыкнуўся і яму не перабілі хрыбціну. Усё больш людзей туды прыходзяць на ўсё гэта паглядзець...

З усіх бакоў на цэнтральны пляц ішлі сяляне. Конскія капыты грукацелі, слізгалі, выбівалі іскры на бруку. На пад'ёмах сяляне хапалі коней за аброць і вялі іх, пакідаючы пах поту змораных цел, што зліваўся з пахам жывёлаў.

З абодвух бакоў вуліцы вокны вялікіх будынкаў былі шчыльна зачынены. Там, за аканіцамі, сядзелі на мяккіх кілімах пані і праклiналі смурод, які распаўсюджвалі сяляне. Пані заціскалі рукамі насы, марнелі і гатовыя былі выбухнуць ванітамі. Распаўнелыя, з белымі круглымі тварамі, яны толькі зрэдку выходзілі ў горад. Але галоўнай іх праблемай было тое, што зачынілі мяжу з Грэцыяй і цяпер немагчыма было прывезці вугроў з Яніны, якіх яны лічылі лепшым сродкам ад рэўматызму. Тым часам усіх сялян яны называлі аднолькавым імем Кіча, не забываючы перад тым выдыхнуць «прабачце»: гэтак сама яны рабілі перад тым, як прамовіць слова «прыбіральня». Натуральна, пані былі незадаволеныя навачасным жыццём і, седзячы радком на кілімах, сёрбалі каву ды марылі пра вяртанне манархіі**.

Перад шчытом кінарэкламы стаялі на варце некалькі італьянскіх жаўнераў і ўважліва паглядалі на мінакоў. Вулічныя шыльды змянялі адна другую. «Шапавал». «Цырульня». Кавярня «Адыс-Абеба». «Продаж газы». «Рамонт гадзіннікаў». Афіша, якая пачыналася словам «Загад». І яшчэ адна са словам «Абвестка».

Мы рушылі далей. Разніца ўжо была недалёка. Але адсюль мы яшчэ не чулі бляянне авечак, не чулі ў паветры пах крыві, і не было ніякіх іншых прыкмет разніцы, але было зразумела, што яна непадалёку.

Пад'ём быў цяжкім. Калі мы ўзбіліся на верхатуру, нас сустрэла магільная цішыня. Ані чалавечага голасу, ані жывёльнага рыку. Яны там заціхлі?

Нарэшце мы прыйшлі. Тут усё было гатова. Навокал стаялі мужчыны і з бестурботнымі гіморамі на тварах чакалі. Яны былі добра апрануты: у белых кашулях з цупкімі каўнярамі і ў гальштуках. Галовы некаторых упрыгожвалі капелюшы ад Берсаліна, а на адной галаве быў старамодны цыліндр. Яго ўладальнік зірнуў на гадзіннік.

Мы пачулі плёскат вады. Нейкі чалавек палiваў невялічкі пляц з чорнага гумовага шланга. Другі зганяў венікам ваду ў бакавыя сцёкавыя раўчукі. Струмень вады са шланга пырснуў пад нашымі нагамі. Мы пужліва адскочылі і зразумелі, што спазніліся. Пляц пад нагамі быў скрываўлены. Відаць, усё адбылося да таго, як мы сюды прыйшлі. Але ж ніхто нікуды не сыходзіў. Відавочна, рыхтавалася новая разня. Вада буйна пенілася ад вялікай колькасці крыві. Яна змывала кроў, гнала прэч, і тая не паспявала замацавацца на цэментнай паверхні.

Мы агледзеліся. Прастакутны двор з усіх бакоў атачала аднапавярховая, таксама цэментная, будыніна. Унутры яе, на бэльках, віселі сотні жалезных гакаў. Пад імі стаялі авечкі, і сяляне (усе спрэс у чорных саматканых бурносах), нахіліўшыся над жывёлінай, трымалі тую за каршэнь. Яны таксама чакалі.

Гледачы, падобна, нікуды не спяшаліся. Двое з іх трымалі ў руках ружанцы і паволі перабіралі пацеркі. Гэтых людзей я раней ніколі не сустракаў. Той, у цыліндры, зноў зірнуў на гадзіннік. Дзея павінна была вось-вось распачацца.

Раптам мы ўбачылі разнікоў у белых халатах з парэпанымі і счырванелымі рукамі. Яны стаялі каля водазаборнай калонкі ў цэнтры пляца і не зварухнуліся нават тады, калі сяляне пачалі цягнуць да іх жывёлін. Паветра працяў прыглушаны шум: гэта шоргалі па зямлі сотні авечых капытоў. Гэты змрочны, традыцыйны для падобных мясцінаў шум, доўжыўся і доўжыўся. Калі першую жывёліну падцягнулі да таго месца, дзе стаялі разнікі, у паветры раптам блiснулі нажы. Пачалося!

Я адчуў боль у правай руцэ. Іліравы пазногці ўбіліся ў запясце. Мне стала блага.

— Пайшлі адсюль.

Насамрэч ніхто з нас не казаў гэтыя словы. Проста мы, невідушчыя, прыкрыўшы рукавамі вочы, кінуліся да лесвіцы.

Мы рынулі па сходах. Бегма.

Чым больш аддаляліся ад разніцы, тым больш людная рабілася вуліца. Людзі ішлі дадому з базару, цягнучы на сабе капусту. Іншыя ж, наадварот, толькі ішлі на базар. І ніхто з іх не думаў пра тое, што чыніцца на разніцы.

— Дзе вы былі? — грымнуў раптам, нібыта з неба, пагрозлівы голас. Мы павярнулі галовы. Да нас ішоў Манэ Воца, бацька Іліра. У руках ён трымаў бохан кукурузнага хлеба і пук зялёнай цыбулі.

— Дзе цягаліся? — зноў запытаў Іліраў бацька. — І чаму такія бледныя?

— Мы былі там... на разніцы.

— На разніцы? — пёры цыбулі ў руках злавесна натапырыліся. — І што вы там рабілі?

— Проста пайшлі... паглядзець.

Цыбуля ўжо не тапырылася, а лена абвісла долу.

— Каб больш на тое не глядзелі, — голас Манэ Воцы палагаднеў, і пальцы пачалі шукаць нешта ў кішэнях чорнай курткі. Нарэшце знайшлі манету ў паўлека.

— Трымайце... схадзіце абодва ў кіно.

Манэ Воца рушыў па дарозе. Мы перавялі дых, а шумны базар, на які прыйшлі, канчаткова нас супакоіў. На паліцах, у плеценых кашах, якія часцяком стаялі проста на зямлі, буяў свет зяленіва. Капуста, розная трава, цыбуля — усмешка гарода, малако, свежыя яйкі, сыр, пятрушка. І пасярод усяго гэтага — звон манет. Пытанні пра кошты. Адказы. «Колькі?», «Колькі, колькі-колькі?!» Мармытанне. Праклёны. «Каб вас парвала!» «Такія грошы я заплачу твайму лекару!» Слоўная атрута лунала над гарамі капусты і салаты. «Ды гэта чарвівае!» «Колькі?»

Мы рушылі далей. На ўскрайку базарнага пляцу сядзеў італьянскі жаўнер. Ён граў на губным гармоніку і паглядаў на дзяўчат, што праходзілі міма. Мы наблізіліся да кінаафішы. Сёння сеанса не было.

Калі я вярнуўся дахаты і падымаўся па прыступках, дык пачуў смех маёй малодшай цёткі. Джэджа і Кака Піна ўсё яшчэ ў нас гасцявалі. Цётка ж сядзела ў крэсле, гойдала нагой і гучна смяялася. Джэджа раз-пораз зыркала на бабулю, але тая толькі сціскала вусны, нібы кажучы: «Што зробіш, Джэджа, калі сённяшнія дзяўчыны так сябе паводзяць».

У пакой увайшоў бацька, і цётка кіўнула ў ягоны бок.

— Чулі? У Тыране стралялі ў Віктара Эмануіла***.

— Чуў. У кавярні казалі, — буркнуў бацька.

— Замахоўца прыхаваў пісталет у букеце ружаў.

— Сапраўды?

— Заўтра яго збіраюцца павесіць. Хлопцу ўсяго сямнаццаць гадоў.

— Во матцы гора, — уздыхнула бабуля.

— Канец свету!

— Але ж стрэліў няўдала. Ружы перашкодзілі, — удакладніла цётка.

— З чаго ты ўзяла, што было менавіта так? — з дакорам запытала мая маці.

— Усе так кажуць.

Джэджа папправіла хустку на галаве, развіталася з бабуляй, з Кака Пінай і пайшла дахаты. Неўзабаве рушыла дахаты і Піна.

Я падняўся па другі паверх. На вуліцах яшчэ віраваў натоўп: людзі вярталіся з базару, і Назін сын Максут нёс пад пахай капусту, якая была падобна на адцятую галаву. Мне падалося, што яна пасміхаецца.

* Народны паэт-імправізатар (тут і ніжэй заўвагі перакладчыка).

** Да італьянскага ўварвання (1939 год) у Албаніі была манархія.

*** Апошні (1900–1946) кароль Італіі.

**Пераклаў з албанскай мовы Максім Мудроў**

# «Мірна спіць мая бібліятэка...»

## Аўтографы на кнігах з бібліятэкі Міколы Арочкі

**Апошнія дваццаць тры гады жыцця доктар філалагічных навук, беларускі паэт і літаратуразнавец Мікола Арочка (1930–2013) пражыў у роднай вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне.**

Там яго і правялі ў апошні шлях вяскоўцы на мясцовы пагост, правялі да сыноў, лёс якіх быў трагічным і кароткім.

У вясковай хаце засталіся на стале недапісаныя вершы і паэмы, а на кніжных паліцах сумуюць сёння без свайго гаспадара дзясяткі кніг, многія з якіх падараваныя пісьменнікамі з аўтографамі і пажаданнямі. Жонка паэта Марыя Іванаўна Арочка дазволіла мне пазнаёміцца з бібліятэкай літаратара, а таксама ўзяць у свой асабісты кнігазбор тыя выданні, якія мяне зацікавяць. Некалькі гадзін я сядзеў каля кніг, даставаў з паліц то адну, то другую, то сотую кнігі... Усе яны напаміналі мне пра таленавітага літаратара-земляка, якога ведаў і з якім сябраваў шмат гадоў. Прыгадаліся радкі выдатнага верша Міколы Арочкі «Мая бібліятэка» са зборніка «Колас на ржышчы» (1980 г.):

*Мірна спіць мая бібліятэка,*
*Толькі гэта вонкавы спакой.*
*Там, пад вокладкамі, страсці веку*
*І мяне уцягваюць у бой...*

...Найбольш кніг з аўтографамі ад слонімскіх літаратараў. Алег Лойка (1931–2008) на аўтарэфераце «Максім Багдановіч і праблемы развіцця беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя» (1969) напісаў: «Дарагому Міколу Арочку, каб не затрымліваўся ў дарозе. Трымаймася, браце, пакуль малады, крылаты вецер Слонімшчыны з намі. Пакуль жа мы ёсць самі, ён — з намі. Твой Алег. У красавіку 1969 г.». У аўтографе на сваім зборніку вершаў «Каб не плакалі кані» (1967) Алег Лойка зноў нагадвае Міколу Арочку пра зямляцтва: «Дарагому Міколу Арочку. З-над Бязданнага возера гэтыя матывы, нашага з табой, браце, возера. На дружбу, на ўсё найлепшае. Твой Алег. Кастрычнік, 1967 г.». У 1968 годзе Алег Лойка выдаў кнігу «Сустрэчы з днём сённяшнім». У ёй аўтар распавядаў пра лепшыя творы беларускай паэзіі, напісаныя паэтамі розных пакаленняў, пра новыя імёны ў ёй і пра заканамернасці яе развіцця. Адну з кніг ён падпісаў так: «Дарагому Міколу Арочку са словамі дружбы, душэўнай блізкасці. Твой Алег. 15.12.1968».

Старэйшы сябра і зямляк паэт Анатоль Іверс (1912–1999) пакінуў аўтографы на дзвюх сваіх паэтычных кнігах. На тытульным лісце зборніка «Жыву ў бацькоўскім краі» (1982) паэт напісаў: «Міколу Арочку — майму найлепшаму земляку на добры ўспамін і шчасце. Анатоль Іверс. 11.10.83». А на зборнічку «Прыдарожныя сосны» (1995) паэт пажадаў: «Дарагі Мікола! Хай табе і тваім родным будзе добра. Анатоль Іверс.16 сакавіка 1995 г.».

Яшчэ адзін зямляк Уладзімір Кароткі на сваёй кнізе «Творческий путь Мелетия Смотрицкого» (1987) зычыў: «Дарагому Мікалаю Мікалаевічу Арочку — майму земляку, добраму і шчыраму чалавеку, з пажаданнем новых, цікавых паэтычных і навуковых кніг. З удзячнасцю Ул. Кароткі. 16.01.87».

Сваім земляком Міколу Арочку лічылі і Мікола Грынчык, і Янка Брыль. У бібліятэцы захаваліся і іх кнігі з аўтографамі. «Дарагому Міколу Арочку, земляку і сябру з сардэчнымі пачуццямі і пажаданнем далейшых, яшчэ большых і большых творчых поспехаў — аўтар. 8.4.1969. Мінск», — такі аўтограф пакінуў Мікола Грынчык (1923–1999) на сваім даследаванні «Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі» (1969). А Янка Брыль (1917–2006) на кнізе сваіх апавяданняў, замалёвак і нарысаў «Працяг размовы» (Мн.,1962) напісаў: «Міколу Арочку — земляку і паэту. Янка Брыль. 31.8.62».

Мікола Арочка і яго жонка Марыя Іванаўна шчыра сябравалі з паэтам Уладзімірам Дубоўкам. Упершыню Мікола Арочка наведаў Уладзіміра Дубоўку (1900–1976) у Маскве ў лютым 1976 года. З самага ранку да цямна за сталом дубоўкаўскай маскоўскай кватэры ў Новых Чаромушках яны гутарылі пра жыццё, літаратуру, пра тых, хто быў рэпрэсаваны, хто выжыў, а хто назаўсёды застаўся на Салаўках і ў Сібіры. Мікола Арочка ў Маскве быў праездам, бо як навуковец ехаў у Казань на святочныя мерапрыемствы з выпадку 70-годдзя нараджэння татарскага паэта Мусы Джаліля. Ён — ці не апошні з беларускіх паэтаў, хто з Дубоўкам сустракаўся ў Маскве за месяц да яго смерці. Седзячы за сталом, Уладзімір Дубоўка падпісаў яму сваю кнігу казак «Залатыя зярняты» (1975): «На добры ўспамін, ад шчырага сэрца М.М. Арочку — з сардэчным прывітаннем Ул. Дубоўка. 9.02.76».

У 1960-х гадах Марыя Іванаўна працавала ў рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач на Беларускім радыё. І калі ў Мінск прыязджаў Уладзімір Дубоўка, яна заўсёды яго запрашала на радыё, дзе ён чытаў свае празаічныя і вершаваныя творы. У 1961 годзе на зборнічку сваіх вершаў «Палеская рапсодыя» ён напісаў: «Марыі Іванаўне Арочка з вялікай пашанай, ад шчырага сэрца. Уладзімір Дубоўка. 31.06.61 г.». А ў 1966 годзе ён падараваў Міколу і Марыі Арочкам свой двухтомнік «Выбраныя творы ў двух тамах»: «Дарагім, сардэчна паважаным Марыйцы і Міколу Арочкам з вялікай пашанай, ад шчырага сэрца. Ул. Дубоўка. 12.05.66».

Шмат гадоў Мікола Арочка сябраваў з доктарам філалагічных навук, член-карэспандэнтам АН БССР, дырэктарам



**М. Арочка з маці ў роднай вёсцы Вецявічы. 1958 г.**
Фота Янкі Брыля

**З самага ранку да цямна за сталом дубоўкаўскай маскоўскай кватэры ў Новых Чаромушках яны гутарылі пра жыццё, літаратуру, пра тых, хто быў рэпрэсаваны, хто выжыў, а хто назаўсёды застаўся на Салаўках і ў Сібіры**

Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, беларускім літаратуразнаўцам Віктарам Каваленкам (1929–2001). Амаль усе прыжыццёвыя кнігі Віктара Каваленкі падпісаны Міколу Арочку. На тытульным лісце кнігі літаратурна-крытычных артыкулаў «Давер» (1967) Віктар Каваленка напісаў: «Міколу Арочку — вядомаму беларускаму паэту, які адзін з нямногіх нашых паэтаў захапіўся літаратуразнаўствам і даказаў, што ён самы сапраўдны літаратуразнаўца. З пажаданнем поспехаў. 21.01.1968. Віктар Каваленка». А на сваёй кнізе «Голас чалавечнасці» (1970) Віктар Каваленка пакінуў такі надпіс: «Міколу Арочку — таленавітаму паэту, літаратару шырокіх творчых магчымасцей, каму паэзія памагае быць выдатным крытыкам. З глыбокай павагай В. Каваленка. 25.09.1970».

У 1975 годзе Віктар Каваленка выдаў кнігу пра развіццё беларускай літаратуры XIX–XX стагоддзяў «Вытокі. Уплывы. Паскаранасць», якую таксама падараваў слонімскаму літаратару: «Мікалаю Мікалаевічу Арочку — з найлепшымі пажаданнямі і ўдзячнасцю за сур'ёзныя заўвагі па рукапісу гэтай кнігі. З павагай Віктар Каваленка. 11.05.1975». На кнізе «Покліч жыцця» (1987) прачытаў такі аўтограф ад аўтара: «Дарагому Мікалаю Мікалаевічу Арочку — беларускаму паэту і даследчыку буйнага таленту, з пажаданнем ніколі не стамляцца, ідучы сваёй пуцяводнай зоркай. Удзячны В. Каваленка. 30.04.87 г.». А кніга «Веліч праўды» (1989) таксама захавалася ў бібліятэцы Міколы Арочкі: «Дарагому Мікалаю Мікалаевічу Арочку — сапраўднаму паэту, сапраўднаму грамадзяніну, сапраўднаму вучонаму, чыя ўвага да мяне лесціць мне і радуе, з самымі найлепшымі пажаданнямі В. Каваленка. 30.10.89 г.».

У добрых адносінах Мікола Арочка заўсёды быў з Народным паэтам Беларусі Максімам Танкам (1912–1995). Пра яго слонімскі даследчык выдаў у 1984 годзе кнігу «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі». У ёй аўтар даследаваў жыццёвы і творчы шлях паэта, а таксама яго паэтычныя набыткі. Аўтар спыніўся на эстэтычных каштоўнасцях, створаных на высокім узроўні сучаснай паэтычнай культуры, разгледзеў майстэрства, паэтыку, багацце жанрава-стылёвых пошукаў паэта. Захаваліся і некалькі паэтычных зборнікаў Максіма Танка з аўтографамі. На зборніку «Хай будзе святло» (1973) паэт напісаў: «Дарагому другу Мікалаю Мікалаевічу Арочку з любоўю і найлепшымі пажаданнямі. Максім Танк. Мінск, 7.01.1973». А на кнізе вершаў «Ключ жураўліны» (1972) чытаюцца такія радкі: «Майму цудоўнаму другу Міколу Арочку ад усяго сэрца. Максім Танк. 12.01.1973». На «Дарозе, закалыханай жытам» (1976) Танк так напісаў: «Дарагому другу Мікалаю Мікалаевічу Арочку — з наваготнімі віншаваннямі і найлепшымі пажаданнямі. Ад усяго сэрца Максім Танк. Мінск. 7.01.1977».

Мікола Арочка заўсёды быў рады, калі выходзілі з друку кнігі Генадзя Кісялёва (1931–2008) — ягонага сябра і аднадумца. А кожную новую кнігу спадар Генадзь дарыў Міколу Арочку, якога называў гросмайстрам беларускай паэзіі. «Гросмайстру беларускай паэзіі і доктару паэтычных навук Міколу Арочку з паклонам Кротус Генус. 9.12.1982», — напісаў Генадзь Кісялёў на сваёй кнізе «Героі і музы» (1982)...

У «мірнай» бібліятэцы Міколы Арочкі захаваліся аўтографы на кнігах Варлена Бечыка, Веры Палтаран, Юльяна Пшыркова, Адама Мальдзіса, Уладзіміра Гніламёдава, Серафіма Андраюка, Міхася Тычыны, Уладзіміра Казберука, Івана Штэйнера, Пятра Шаўцова, Вячаслава Жыбуля, Антаніны Лысенка, Янкі Шпакоўскага, Уладзіміра Мархеля, Алеся Яскевіча, Барыса Сачанкі, Фёдара Янкоўскага і многіх іншых вядомых, малавядомых і забытых сёння літаратараў. «Міколу Арочку — добраму, шчыраму хлопцу, паэту, якога люблю і ў якога багата спадзяюся. З пажаданнямі найлепшых поспехаў ва ўсім. Шчыра Барыс Сачанка. 28.04.62 г.», — аўтограф Барыса Сачанкі (1936–1995) на кнізе «Барвы ранняй восені» (1962).

Трапілі мне ў рукі кнігі з аўтографамі Івана Ралько (1929–1979), які першы паспрабаваў напісаць гісторыка-тэарэтычныя даследаванні праблем беларускага верша. Іван Ралько пражыў толькі пяцьдзясят гадоў, але паспеў выдаць некалькі кніг. На зборніку «Беларускі верш: старонкі гісторыі і тэорыі» (1969) ён напісаў: «Міколу Арочку — з пажаданнем самых высокіх вяршынь у паэзіі і ў навуцы. І.Ралько. 13.06.1969», на кнізе «Вершаскладанне» (1977) пакінуў такі аўтограф: «Мікалаю Мікалаевічу Арочку — таленавітаму паэту і навукоўцу, слаўнаму ва ўсіх адносінах чалавеку з заўсёднай сімпатыяй і самымі шчырымі пажаданнямі вялікага плёну і ў наступных дзесяцігоддзі — аўтар Іван Ралько. 22.08.77.».

Пераглядаю, перачытваю кнігі за кнігамі, аўтографы за аўтографамі. «Самаму зямному і самаму ўзнёсламу паэту, шаноўнаму Мікалаю Мікалаевічу Арочку з пажаданнем выдатных творчых поспехаў, сямейнага ладу і — час ад часу — грэшнай мары. Хай жа будзе ўсё добра! Аўтар Сцяпан Лаўшук. 8.08.1989 г» (на кнізе «На драматургічных скрыжаваннях» (1989). «Заўсёды шаноўнаму Мікалаю Мікалаевічу Арочку, які праніклівa зазірае ў нашу гісторыю і прароча бачыць шляхі адраджэння. Здароўя і плёну! 1 верасня 1989 г. Уладзімір Мархель. (на кнізе «Вяшчун славы і волі» (1989)...

У 1969 годзе Мікола Арочка выдаў свой крытыка-біяграфічны нарыс «Валянцін Таўлай» (гэта была яго кандыдацкая дысертацыя). А пяць гадоў таму назад — у 1964 годзе — у Кіеве на ўкраінскай мове выйшаў зборнік «Паэзія» Валянціна Таўлая. Жонка Валянціна Таўлая Лідзія Сяргееўна напісала словы падзякі Міколу Арочку за напісанае пра Таўлая: «Паважанаму Міколу ад шчырага сэрца свайго і Валянціна ў дзень абароны дысертацыі за мужнасць даследчыка, які не збаяўся зазірнуць у таямніцы творчасці і з гонарам выканаў задуманае. Лідзія Таўлай.12.10.67 г.».

Сярод кніг з бібліятэкі Міколы Арочкі трапіла на вочы і кніжка твораў маладых беларускіх літаратараў «На сонечных сцежках» (1953), дзе былі апублікаваны і першыя вершы юнака-паэта са Слонімшчыны. Гэтую кніжку спадар Мікола адразу падараваў сваёй сяброўцы-землячцы, якая потым стане ягонай жонкай — Марыі Кароцька. Малады паэт напісаў: «Свае першыя вершы пад вокладкай зборніка даю ў знак сардэчнай павагі і ўдзячнасці свайму першакрытыку Марыі Іванаўне Кароцька. Мікола Арочка. 12 лютага 1954 года. Мінск».

**Сяргей Чыгрын**

# Мінулагоднія словы

**Пражыты яшчэ адзін год. А чым жа своеасаблівым запомніўся ён чытачам «Дзеяслова»?**

Як на мой густ: вершамі Д. Бічэль, В. Аксак, Я. Дашынай, паэтычнай спадчынай Т. Зіненкі і Т. Сапач, раманам «Грэх» А. Усені, малой прозай В. Мудрова, Е. Вежнавец і С. Рублеўскага, лірычнымі абразкамі А. Емяльянава, гутаркай С. Шапрана з пісьменнікам М. Захаранкам, успамінамі М. Гіля пра В. Бечыка, жывым ліставаннем В. Адамчыка з жонкай, «абы-штоськамі» Я. Рагіна, эсэ А. Лукашука «Людзі без ценю», сямейнымі згадкамі Р. Александровіч... Нямала. І гэта толькі на мой густ. А чытачы, пэўна, захапляліся і шмат якімі іншымі літаратурнымі публікацыямі.

У апошнім нумары года («Дзеяслоў», № 73) друкуюцца вусцішныя вершы *турэмнай тэматыкі* **Уладзіміра Някляева** з яго новай кнігі, якія вызначаюцца адметным стылем і распрацаванай кампазіцыяй. Праўда, мяне пакінула ў разгубленасці канцоўка: *«калі адчыняць дзверы, я пайду...».* Яна падалася ментальна беларускай, «згодніцкай», маўляў, «пайду» толькі тады, як «адчыняць дзверы», гэта значыць, дазволяць выйсці... Але з іншага боку, трэба мець на ўвазе, што паэт, як мне думаецца, закладваў у гэты цэльны вершаваны цыкл і больш глыбокі філасофскі падтэкст: *турму* — як фізічнае і сацыяльнае чалавечае зняволенне і самое *зямное жыццё* — як зняволенне чалавечага духу... У некаторых чытачоў можа паўстаць пытанне, ці не занадта доўга затрымаўся паэт на турэмнай тэме? Па ўсім — не, бо нездарма ж і пачатковы верш падборкі прысвечаны наймольш *пакаранаму,* але найменш *пакорнаму* вязню Міколу Статкевічу, які ўсё яшчэ *там...*

У гэтым нумары ёсць і яшчэ адна публікацыя, звязаная з У. Някляевым. **Сяргей Шапран** спрабуе «скончыць» «Незавершаную аўтабіяграфію» Уладзіміра Пракопавіча. Шчыра кажучы, гэтай дачаснасці я дарэшты не ўцямлю... Чарговы іміджавы праект? Але ён у ядомага паэта і грамадскага дзеяча і так на ўзроўні. Баюсь, што пасля смерці (крый Бог) біяграфію паэта будуць трактаваць не так, як сёння яму (даў Бог) жывому хочацца?.. Была і ёсць у некаторых нашых мэтраў, як В. Акудовіч кажа, такая хэнць. Хоць трэба сказаць, што тэкст, скампанаваны з друкаваных і недрукаваных раней запісаў і архіўных матэрыялаў Някляева, месцамі сапраўды неардынарны і прыцягальны (найперш для чытача маладзейшага і мала абазнанага). Да ўсяго ж, ва ўводзінах С. Шапран цытуе (відаць, каб чаго лішняга не падумалі) самога Някляева з яго «Знакаў прыпынку»: *«Зрэшты, няма ніводнага паэта, якога б нехта не прыдумаў. А калі ніхто паэта не выдумляе, тады ён выдумляе сябе сам».* І дадае (С. Шапран): *«Уладзімір Някляеў — стваральнік сваёй біяграфіі-легенды. Ён піша яе гэтак жа, як піша вершы,*




*прозу. І хоць наўрад ці ставіць на мэце стварэнне менавіта легенды, але сама асоба і стыль аўтара не дазваляюць збіцца на нешта больш будзённае. Тут ужо сапраўды паэту — паэтава»,* і далей зноў цытуе паэта: *«Бо так, як* ***напісана,*** *я і жыў. І быць так і таму, як* ***напісана,*** *з усёй маёй біяграфіяй, з усім маім жыццём».* Што ж, прызнаем, паколькі падобнага аўтабіяграфічнага вопыту беларускай літаратуры адчувальна не стае, то чаму б яму і не быць...

**Алесь Пашкевіч** публікуе свой новы твор, які ён жанрава абазначыў як *QR-відарыс.* Называецца ён «Рух», і асабіста я абазначыў бы яго як сучасны еўрапейскі раман. Кампактны і цэльны. Гэтым тэкстам Пашкевіч мяне вельмі здзівіў. Надта ж займальнае чытво, хоць на пачатку чыталася трохі насцярожана і недаверліва, але неўзабаве зацягнула і не адпусціла да самага фіналу. Даўнавата не чытаў я такой (адпаведнай сучасным чытацкім запатрабаванням) айчыннай прозы. І гэта не пустыя ці таварысцкія бурбалкі з майго боку. Пачытайце і ўпэўніцеся. Тут — і гісторыя, і эканоміка, і навука, і постаці вядомых людзей — розных, — ад вялікіх навукоўцаў і паўстанцаў да цынічных прахадзімцаў і здраднікаў... Сюжэты ненавязліва пераплецены гістарычным досведам, міфамі, легендамі і проста яркімі лірычнымі замалёўкамі... Ёсць шырокая падарожная геаграфія з унёскамі шпіянажу, прыгодніцва і дэтэктыву... Агулам ліха і віртуозна распрацаваны *індустрыяльны* сюжэт з некалькімі паралельнымі лініямі, якія, у рэшце рэшт, сыходзяцца (і без кахання, зразумела, тут не абышлося). А што ўласна да беларусаў, то чытача прыцягвае скразная нацыянальная нітачка, якая ўважна адмечана адным з герояў, што ўвасабляе наш народ і яго ментальнасць у яе лепшых праявах сярод народаў свету, тым самым як бы абвяргаючы помныя словы класіка: *«Я — мужык-беларус, — // Пан сахі і касы;// Цёмен сам, белы вус,// Пядзі дзве валасы».* Э, не, у Пашкевіча ён, Адам Мацкевіч, якраз (нават у другой палове XIX стагоддзя) асоба высока адукаваная, выхаваная і пачалавечы годная. А што да назвы твора — «Рух» — то гэта, на маё разуменне, такая тонкая падводка да чытацкага ўсведамлення таго, што падразумяваецца намі пад эвалюцыяй і цывілізацыяй чалавецтва, такі сучасны зрэз у геапалітычнай праекцыі (палітыка, эканоміка, нацыяналізацыя-глабалізацыя, Усход і Захад)... Вядома, я акрэсліў твор пункцірна, тады як сам ён напісаны яснай літаратурнай мовай, рухавым *незамыленым* стылем, знітаваны align="left"рознапланавымі, але цэнтрабежнымі сюжэтнымі лініямі. Раю пачытаць.

**Андрэй Федарэнка** выступае з расповедам пра сучаснае выжыванне вясковага чалавека — прадзіранне яшчэ сям-там захаваных расткоў сумленнасці, чысціні, цнатлівасці і любові праз амаральны прагматызм і цынічна-вульгарны налёт сённяшняга часу... Адкуль такая чалавечая натура на пачатку XXI стагоддзя? Федарэнка дае адказ і на гэтае пытанне: *«Яго не цікавілі ні палітычныя, ні эканамічныя, ні сацыяльныя, ні нацыянальныя змены. Недзе ў вялікім свеце ўсё кіпела, бурліла, блыталася, разбураліся старыя дзяржавы і ўзнікалі новыя, ішло вялікае перасяленне народаў, умацоўваліся празрыстыя межы, лёгка падалі паржавелыя «жалезныя заслоны» і нетрывалыя «бетонныя сцены»... Усё абыходзіла яго бокам. Ён ведаў толькі шпалы, рэйкі, малаток ды кастыль. Фізічны час існаваў для яго хіба што ў пераменах года: за зімою прыходзіла вясна, за вясною — лета, ды яшчэ ў намінале купюр, якімі выплачвалі аванс, зарплату, прэміяльныя: спачатку лік ішоў на сотні, потым на тысячы, на мільёны — адсюль* ***стваралася ілюзія руху жыцця,*** *павышэння дабрабыту, нават кар'ернага росту».* (Заўважу, што выдзеленае мной нечым блізка нітуецца і адначасна супрацьпастаўляецца ***жыццястваральнаму руху*** у вышэй адзначанай прозе А. Пашкевіча.) У А. Федарэнкі на такім хісткім фоне буднічнага правінцыйнага жыцця галоўнага героя вельмі даткліва, амаль класічна выпісваецца раманс маладога кахання, які паступова пераніцоўваецца ў элегію...

Аповесць называецца каротка і таямніча «Ксю» (сваім абрывістым назовам напамінаючы «Кысь» Т. Талстой). Нешта такое лірычна-бунінскае, але ўжо знаёма-будзённае для чытачоў А. Федарэнкі (як запозненыя рэха-пераклік іх «Деревни» і «Вёскі») у сучаснай літаратурнай стылістыцы (але з традыцыйнымі маральнымі падтэкстамі), пакідаючы тонкую завязь надзеі... як месячнае святло сярод ночы на ледзь бачнай сцежцы, па якой, забыўшыся, незаўважна можна сысці з гэтага свету ў іншы (да прыкладу, з вёскі ў горад)...

Вось асноўнае, што варта абавязкова прачытання для тых, хто цікавіцца сучаснай беларускай літаратурай. Хіба ў дадатак яшчэ параю бы не абмінуць увагай напісанае ў арыгінальным стылі апавяданне ўкраінскай пісьменніцы **Тані Малярчык** «Puma concolor (пума)» у добрым перакладзе Л. Наліўкі, ды, далёка не адыходзячы, адзначыць з'яўленне новага паэтычнага (польскамоўнага) імя — **Бенедыкта Янкоўскага,** па ўсім беларуса (у 1859 годзе дасылаў лісты з маёнтка Каменка пад Рагачовам). Знойдзеныя Антонам Францішкам Брылём у літоўскіх архівах арыгіналы вершаў паэта друкаваліся ў 2014 годзе ў Польшчы і вось цяпер — у «Дзеяслове» (у спраўных перакладах аўтара прадмовы, ужо ўпомненага А. Ф. Брыля, і Г. Янкуты).

Аб'ёмную нізку вершаў **Васіля Дэбіша** можна было б назваць самотна-роздумнай паэмай — споведдзю выстылай правінцыйнай душы на скразняках скрушнай нацыянальнай *прыадкрытасці.* Калі вобраз Хрыста паўстае, як вобраз паэта:

*Ён нясе праўды крыж*
*і спрабуе душой зразумець*
*Тое, што зразумець могуць*
*толькі маленькія дзеці.*

Таму, чытаючы берасцейца, складваецца адчуванне, што

*Рыдае ён, а мне — баліць.*

Можа хтосьці і не паверыць, але я прачытаў усе вершы з часопіснай падборкі **Зміцера Вішнёва** «Гравітацыйныя калодзежы». Не да канца ўсё ўразумеў, не ўсім надта глыбока пранікся, але па прачытанні застаўся давер да аўтарскага сцвярджэння, што ўсё ж

*вечная руда словаў здабываецца*
*ў цэнтры Мінска.*

Па-свойму арыгінальная і чытэльная малая проза **Сяргея Абламейкі,** хоць апавяданні падаліся мне тэматычна аднатыпнымі і блізкароднымі ў мастацкім вырашэнні. Займальны і ўражлівы сюжэт аповеду «Здарэнне на Дзяды», але яго канцоўка неяк здрабніла і зазвычайла ўсе прыгодніцкія і фантазійныя высілкі аўтара.

«Сталёвая поўня», *няправільнае апавяданне,* як яго пазначыў **Дзмітрый Падбярэзскі,** напісана праставата, амаль нарысава, але выратоўвае яго востры сюжэт і падтэкставы ідэйны пасыл, які рэдка выкарыстоўвалі ў такой адкрытай форме беларускія пісьменнікі (больш было вусных міфалагічных паказак). Я маю на ўвазе сялянскую ментальнасць: трымацца сябе і свайго пры любых сітуацыях і раскладах жыцця... Вось і тут: вайна, глухая правінцыя, немцы і савецкія дыверсанты, выжыць паміж якімі, як паміж кавадлам і накавальняй, для сялян азначала проста *застацца пры ўсім сваім...*

У вершаванай нізцы **Наталлі Русецкай** «Зоркі каляднай святло» расцягнутыя парадкоўна словы адразу пасля прачытання так шчыльна сцінаюцца, што амаль не пакідаюць шчылін у тэкстах для глыбокага чытацкага роздыху...

**Аляксей Філатаў** цікавы як літаратурны занатоўшчык і *сведка* свайго часу. Класічна-жанравая мастацкая проза не вытрымлівае яго натуральнага чалавечага характару, нервовасці і экспрэсіўнасці... Але вось асобныя фрагменты названага чамусьці апаведам лірычнага тэксту «Жнівеньскія росы» захапляюць і ўражваюць.

Вершы **Алены Гінько** лірычна-роспачныя і ў той жа час жарстлівыя, можа, з гэтай прычыны ёй так рэдка ўдаецца ўтаймаваць стыхійнасць свайго паэтычнага стылю і прывесці яго да гармоніі і суладдзя.

Вершы **Зміцера Баяровіча** складзены ў адной рытмічнай і стылістычнай танальнасці. У іх ёсць экспрэсія, эмоцыя, пачуццё, але пакуль яшчэ бракуе глыбіні думкі, філасофскай падаплёкі, пошуку новых формаў, унутранага аўтарскага вобразу, — таго, што класікі называлі гамерычным дыханнем паэзіі...

Прыкладна такія ж адчуванні засталіся ў мяне і ад вершаваных тэкстаў дэбютанта часопіса **Мікіты Найдзёнава,** лідэра гурта HURMA.

Казачныя прыпавесці **Марыны Яўсейчык** падаліся залішне *парывістымі,* магчыма, ад празмернай прагі быць зразумелымі яшчэ да таго, як адкладзіся і выспелі ў душы самога аўтара. Гэта можа быць цікава, але яшчэ не сёння. Мажліва, літаратарку наперадзе чакае шмат працы над мастацкім словам.

Завяршаецца друкаванне студэнцкага дзённіка **Рыгора Барадуліна** «Вярніся, вясна мая!..» **Аляксей Каўка** прапануе артыкул пра нацыянальнага асветніка Б. Эпімах-Шыпілу. «Беларус на фрэгаце «Палада»» — з такім нарысам, прыўрочаным да 200-годдзя Іосіфа Гашкевіча, беларуса, першага консула Расейскай імперыі ў Японіі, **выступае Уладзімір Мароз.** Пра *палёты Шагала над Віцебскам* піша **Лілія Бандарэвіч-Чарненка...** Пераможца літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава **Аляксей Шэін** распавядае пра беларускіх падпольшчыкаў хрысціянскага друку. Сямейная пара **Ірына Масляніцына** і **Мікола Багадзяж** пішуць пра першага рыцара ВКЛ Канстанціна Астрожскага. **Аўтар гэтага агляду рэцэнзуе** апошнюю прыжыццёвую кніжку паэзіі Генадзя Бураўкіна «Нагаварыцца з зоркамі».

Як заўжды, публікацыі часопіса завяршае рубрыка «Дзеяпіс» з кароткімі анатацыямі новых літаратурных выданняў.

Спадарства, чытайце «Дзеяслоў» і ў новым — 2015 — годзе. Будзеце мець калі не свята, то душэўную прыемнасць пасярод занудных будняў жыцця.

**ЛеГАЛ**

## Будзьма з «Дзеясловам»!

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.*
*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*
*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*
*Будзьма разам!*

## ПРЭМІІ

### Рускі Букер

**Лаўрэатам XXIII літаратурнай прэміі «Рускі Букер» стаў пісьменнік Уладзімір Шароў.**



Узнагароду яму ўручылі за раман «Вяртанне ў Егіпет». Прэмію У. Шароў атрымаў на ўрачыстай цырымоніі, якая адбылася 5 снежня ў гатэлі «Залатое Кальцо» ў Маскве.

Расійская літаратурная прэмія «Рускі Букер» была створана ў 1991 годзе на ўзор брытанскай Booker Prize. Уладальнік узнагароды ў гэтым годзе атрымаў 1,5 млн расійскіх рублёў, астатнія фіналісты — па 150 тыс. Яшчэ адзін прыз — грант на пераклад сваёй кнігі на ангельскую мову і выданне яе ў Англіі (700 тыс. рублёў) — атрымала пісьменніца Наталля Громава.

У лік фіналістаў літаратурнай прэміі таксама ўвайшлі Віктар Рэмізаў, Захар Прылепін, Анатоль Вішнеўскі і Алена Скульская. Яны атрымалі заахвочвальныя прэміі ў памеры 150 тысячаў расійскіх рублёў.

Напісанне «руска-букераўскага» рамана «Вяртанне ў Егіпет» заняло ва Уладзіміра Шарова больш за пяць гадоў. Апублікаваны ён быў упершыню ў 2013 годзе ў часопісе «Знамя», а асобнай кнігай выйшаў у лістападзе 2014-га ў выдавецтве АСТ.

Кніга, назва якой адсылае да біблейскай «Кнігі Зыходу», распавядае пра нашчадкаў Мікалая Гогаля. Яны перажылі ўсё, што адбывалася з краінай у XX стагоддзі, і цяпер, упэўненыя ў тым, што Русь-тройка стаіць на прамой дарозе ў рай, бяруцца за завяршэнне «Мёртвых душаў».

«Мне ў нейкі момант стала здавацца, што ўся гісторыя Расіі пасля Гогаля — гэта спроба напісаць другі і трэці тамы «Мёртвых душаў», — патлумачыў лаўрэат выбар тэмы для «Вяртання ў Егіпет».

Уладзімір Шароў дадаў, што няскончаныя раманы — гэта страшная спакуса, з якой культура не ведае, што рабіць.

«Гэта як незавершанае адкрыццё — і, здаецца, калі гэты раман быў бы напісаны, то мы б даведаліся, як павінны жыць», — адзначыў аўтар, дадаўшы, што ў працэсе працы над кнігай прыйшоў да высновы, што трэці том «Мёртвых душаў» немагчымы.

Кніга — выбарка ўрыўкаў з лістоў нашчадкаў Мікалая Васільевіча Гогаля, адзін з якіх спрабуе завяршыць «Мёртвыя душы». Сюжэт апісвае некалькі дзесяцігоддзяў савецкай гісторыі паралельна з гісторыяй вяртання габрэяў з егіпецкага палону...

### Усеўкраінская прэмія імя Сіманенкі

**Конкурсная камісія па прысуджэнні Усеўкраінскай літаратурнай прэміі імя Васіля Сіманенкі падвяла вынікі конкурсу за 2014 год. Пра гэта паведаміў старшыня камісіі Уладзімір Палішчук.**

Паводле яго слоў, лаўрэатамі сталі кіяўляне. Так, у намінацыі «За лепшы першы паэтычны зборнік» за зборнік вершаў «Прывязі мне сонца» ўганаравана Вольга Прахарчук (родам з Хмяльніцкай вобласці), а ў намінацыі «За лепшы мастацкі твор» за зборнік вершаў «Мовізна» і раман «Вайна і мы» — Сяргей Панцюк.



«Ёсць палажэнне, якое вызначае, што гэта павінны быць творы высокай мастацкасці і павінны быць грамадзянскага гучання, накіраваныя на пабудову незалежнай дэмакратычнай Украіны», — пракаментаваў У. Палішчук. Ён адзначыў, што ў першай намінацыі на конкурс было дапушчана 7 аўтараў, а ў другой — 12. Каля дзясятка літаратараў не дапусцілі праз тое, што творы не адпавядалі палажэнням конкурса.

Літаратурная прэмія імя Васіля Сіманенкі існуе ў двух варыянтах: абласная прэмія «Бераг надзеі» (заснавана ў 1986-м, адроджана ў 1994 годзе, у горадзе Чаркасы) і літаратурная прэмія (прэмія Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, заснаваная ў 1987 годзе ў Кіеве). Да 2012 года яна вызначалася толькі ў адной намінацыі — «За лепшую першую паэтычную кнігу». З 2012 года да гэтай намінацыі дадалася яшчэ адна — «За лепшы мастацкі твор».

У 2014 годзе рашэннем Чаркаскага абласнога савета ў Палажэнне прэміі ўнесены змены. З мэтай ушанавання памяці паэта-гуманіста Васіля Сіманенкі, шырокай папулярызацыі яго імя і творчасці Чаркаскім аблсаветам пры падтрымцы НСПУ, Усеўкраінскага таварыства «Просвіта» ім. Т. Г. Шаўчэнкі і Лігі ўкраінскіх мецэнатаў усталяваная Усеўкраінская літаратурная прэмія імя Васіля Сіманенкі для падтрымкі маладых талентаў, заахвочвання прафесійных і непрафесійных літаратараў да творчых пошукаў у галіне літаратуры, напісання высокамастацкіх літаратурных твораў грамадзянскага гучання, накіраваных на развіццё незалежнай дэмакратычнай Украіны.

Прэмія прысуджаецца адзін раз у год да дня нараджэння Васіля Сіманенкі — 8 студзеня — і ўручаецца ў горадзе Чаркасы.

### Прэмія «Дэбют»

**Расійская літаратурная прэмія «Дэбют» для аўтараў маладзей 35 гадоў назвала пераможцаў сезона 2014 года. Упершыню журы падзяліла прэмію ў намінацыі «Вялікая проза» паміж двума прэтэндэнтамі.**




Лаўрэатамі сталі Максім Маткоўскі (Кіеў, Украіна) за раман «Папугай у мядзведжай бярлозе» і Павел Такарэнка (Хайфа, Ізраіль) за раман «Цвік». На сайце прэміі не паведамляецца, як падзялілі пераможцы мільён расійскіх рублёў — памер прыза ў кожнай намінацыі.

Па мільёне рублёў атрымалі пераможцы ў іншых намінацыях:

«Малая проза» — Міхаіл Шанін за падборку апавяданняў;

«Паэзія» — Анастасія Афанасьева (Харкаў) за кнігу вершаў «Адбіткі»;

«Драматургія» — Ірына Васклаўская (Екацярынбург) за п'есу «Галатэя Сабакіна»;

«Эсэістыка» — Арслан Хасаваў (в. Брагуны, Гудэрмескі раён Чачэнскай Рэспублікі) за зборнік эсэ «Адваёўваць прастору».

Таксама пераможцам уручылі статуэткі ў выглядзе птушкі.

Найважнейшым крытэрыем выбару пераможцаў, паведамляецца на сайце прэміі, стала «эстэтычная незалежнасць аўтара ад актуальных літаратурных трэндаў». Па словах куратара прэміі Вольгі Слаўнікавай, адной з тэндэнцый 15-га сезона прэміі стаў зварот аўтараў да новай вясковай прозы.

Старшынёй журы ў гэтым годзе быў пісьменнік, літаратуразнаўца Павел Басінскі.

У канцы 2014 года выйшлі з друку шэсць кніг лаўрэатаў прэміі «Дэбют» 2012–2013 гадоў, а на сайце прэміі змешчаны іх электронныя версіі.

Расійская літаратурная прэмія «Дэбют» заснавана ў 2000 годзе фондам «Пакаленне».



## Перапахаванне Івана Федаровіча

**18 снежня ў Львове ў царкве манастыра Святога Ануфрыя перапахавалі астанкі ўсходнеславянскага першадрукара Івана Федаровіча (Фёдарава).**

Урачыстая працэсія, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх рэлігійных канфесій Львова, прайшла па вуліцах горада ад храма Успення Найсвяцейшай Багародзіцы (вуліца Руская) у манастыр Св. Ануфрыя. Сумесна з друкаром перапахавалі і парэшткі яго сына.

Пахаванне вядомага беларуска-маскоўска-ўкраінскага друкара Івана Федаровіча выявіў у храме манастыра Св. Ануфрыя ў 1971 годзе Барыс Вазніцкі. У той савецкі час будынак быў закінутым, а царква не дзейнічала. Доўгі перыяд астанкі першадрукара захоўваліся ў Музеі мастацтва старадаўняй украінскай кнігі Львоўскай нацыянальнай галерэі мастацтваў, і толькі ў мінулым годзе ўдалося правесці іх экспертызу.

«Спецыялісты пацвердзілі, што памерлы быў чалавекам сталага ўзросту, адпавядае дадзеным пра Федаровіча-Фёдарава, — распавяла журналістам генеральны дырэктар Львоўскай нацыянальнай галерэі мастацтваў імя Б. Вазніцкага Ларыса Вазніцкая-Разынкова. — Таксама ў касцях выявілі павышанае ў два разы ўтрыманне цяжкіх металаў, якія ў той час выкарыстоўвалі пры друку. Таму ў нас няма сумневаў, што гэта сапраўды Іван Фёдараў».

Перапахавалі першадрукара на тым жа месцы, дзе больш за 40 гадоў таму знайшлі астанкі. Адзначым, што 15 снежня мінулага года споўніўся 341 год з дня ягонай смерці.

Іван Федаровіч (Фёдараў), народжаны ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, пасля палачаніна Францыска Скарыны выдрукаваў першую кнігу ў Масковіі, а затым — пасля ўцёкаў ад дэспата Івана Жахлівага — стаў першым украінскім першадрукаром. У Львове ў 1574 годзе ён надрукаваў першы ўсходнеславянскі дапаможнік — «Буквар» з граматыкай.

## Невядомы Карэл Чапек

**У доме, дзе калісьці жыў Карэл Чапек, супрацоўнікі Пражскага гістарычнага музея знайшлі запісныя сшыткі і малюнкі, якія належалі вялікаму пісьменніку, а таксама паштоўкі, якія дасылаў з канцлагера яго брат Ёзэф.**



Убудынку быў знойдзены умантаваны ў заднюю сцяну адзежнай шафы сейф, дзе і захоўваліся раней невядомыя тэксты.

Сшыткі з запісамі Чапек вёў у гады вучобы ў Карлавым універсітэце, а дарожныя эскізы зрабіў, верагодна, у часе паездак у Іспанію і Англію. Даследчыкам было вядома, што нярэдка Чапек суправаджаў апавяданні і аповесці ўласнаручна створанымі ілюстрацыямі; па словах Вольгі Шайнпфлюгавой, жонкі пісьменніка, часта ён спачатку маляваў, а затым прыдумляў тэкст да малюнка.

Паштоўкі брат Карэла Чапека Ёзэф, вядомы мастак, адпраўляў Вользе з нацысцкіх канцлагераў у 1939–1945 гадах. На іх быў толькі адрас — так Ёзэф паведамляў пра сваё існаванне.

Карэл Чапек памёр у Чэхаславакіі ў 1938 годзе. Краіна тады была ўжо часткова акупаваная нацыстамі. Дом, у якім Чапекі жылі ў Празе, Карэл і Ёзэф пабудавалі ў 1924 годзе. Рэстаўрацыйныя работы тут пачаліся год таму, калі гарадскія ўлады выкупілі палову дома ў спадчыннікаў Ёзэфа Чапека. Тут мяркуецца аднавіць атмасферу міжваеннай Чэхаславакіі і адкрыць музей жыцця і творчасці братоў Чапекаў.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Bookseller, BBC, РИА Новости, The Guardian, zaxid.net, novostiliteratury.ru, Gazeta.ua і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 6 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна). Заключная серыя.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**17.25** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Крымінальная меладрама «Падсадны» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.55** Дзень спорту.
**00.10** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна). Заключная серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.35** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Прынцэса і жабрак». Камедыя.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Прынцэса Манака». Мастацкі фільм.
**23.05** Вячэрні Мінск.
**00.10** «Шлюбная дамова». Мастацкі фільм.
**01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Добры дзень, доктар».
**09.35** «Гэта мой дом».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Дорыян Грэй».
**15.30** «Ежа багоў».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Далёкія сваякі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Агент з мянушкай Спот».
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тэрыторыя памылак».
**00.30** «Вялікая гульня». Покер.
**01.15** «Халасцякі». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**10.10** Капейка ў капейку.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**12.40** Я хачу гэта ўбачыць.
**13.15** Кіпень.
**13.35** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**14.40** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**15.40** Вось дык так!
**16.15** Вострасюжэтны баявік «Кулінар».
**17.25** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.25** Гандбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**20.10** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**20.45** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае рэаліці-шоў (Расія, 2013).
**22.35** Рэпарцёр.
**23.25** Эксцэнтрычная камедыя «Ты з якой планеты?» (ЗША, 2000 г.).

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Галасы з мінулага». «Героі Свяшчэннай вайны». 120 год з дня нараджэння Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Кірыла Пракопавіча Арлоўскага.
**14.10** «Галасы з мінулага». «Героі Свяшчэннай вайны». 120 год з дня нараджэння Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Кірыла Пракопавіча Арлоўскага.
**23.10** «Галасы з мінулага». «Героі Свяшчэннай вайны». 120 год з дня нараджэння Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Кірыла Пракопавіча Арлоўскага.
**08.05** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 4-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**16.40** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 4-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**08.55** «Дзядзя Ваня». Драма (СССР, 1970 г.).
**10.35** «Дыя@блог». "Пра вечнае».
**15.45** «Дыя@блог». "Пра вечнае».
**11.05** «Балтыйскае неба». Ваенная драма. 1-я і 2-я серыя (СССР, 1960 г.).
**13.45** «Сіла веры».
**14.20** «Аўтограф». Студыя цыркавога мастацтва «Арэна» з Мазыра.
**14.45** Мультфільмы.
**16.10** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.35** «Аляксей Кортнеў, група «Несчастный случай».
**19.15** «Ныне прославися сын человеческий». Драма (СССР, 1990 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Бесклапотны яздок». Драма (ЗША, 1969 г.).
**22.40** «Камертон». Юрый Іваноў.

### Беларусь 5

**06.00** PRO спорт. Навіны.
**06.35** Баскетбол. НБА. «Лэйкерз» - «Чыкага». Прамая трансляцыя.
**08.50** Авертайм.
**09.25** Футзала. Кубак Беларусі. Фінал.
**11.00** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Спартыўныя танцы. Адвольная праграма.
**14.25** Баскетбол. НБА. «Лэйкерз» - «Чыкага».
**16.20** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**16.55** Хакей. КХЛ. «Аўтамабіліст» (Екацярынбург) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.20** Піт-стоп.
**19.55** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**20.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**22.35** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Мужчыны.
**00.40** Еўрапейскі покерны тур.
**01.30** PRO спорт. Навіны.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.15** «Фэмэн. Аўтапартрэт», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**12.05** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ірына Новік.
**12.40** Студыя «Белсат».
**13.05** Два на два (тэледыскусія).
**13.40** Студыя «Белсат».
**16.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**16.25** «Фэмэн. Аўтапартрэт», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**17.20** «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**18.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Кінафестывалі.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Мітрафан Доўнар-Запольскі.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкіной.
**21.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.25** «Пуцінскія гульні», дак. фільм, 2013 г., Германія–Аўстрыя–Ізраіль.
**23.55** «Дом», серыял.
**01.35** Студыя «Белсат».

## 7 ЛЮТАГА, СУБОТА

### Беларусь 1

**06.45** Існасць.
**07.10** Рамантычная камедыя «Нявеста майго сябра» (Расія-Украіна).
**09.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Кулінарная дыпламатыя.
**10.25** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе - 3» (Расія).
**11.25** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**00.00** Навіны.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**12.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.30** БеларусьLIFE.
**14.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Трыумф. Героям спорту 2014». Дзённік.
**15.50** Прэм'ера на канале! Меладрама «Нечаканая радасць» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**19.15** «Я магу!». Народнае шоу. Паўфінал.
**21.00** Панарама.
**21.40** «Я магу!». Народнае шоу. Паўфінал.
**22.00** Меладрама «Пернікі з бульбы» (Расія).
**00.00** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе - 3» (Расія).
**00.55** Дзень спорту.
**01.05** Крымінальная меладрама «Эгаіст» (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.25** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Сямён Фарада. Уна мамэнта!».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Бацькоў у школу!».
**13.45** «Гарфілд».
**14.20** «Здабытак рэспублікі».
**15.15** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Тэорыя змовы».
**17.20** «100 мільёнаў».
**18.15** «Географ глобус прапіў». Мастацкі фільм.



**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.05** Канцэрт.
**23.00** АНТ прадстаўляе: «Легенды Life». «Сакрэт».
**23.45** «Механік». Баявік.

### СТВ

**05.40** «Агент з мянушкай Спот».
**07.20** «Анфас».
**07.35** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**08.30** «Прыгоды дылетанта».
**09.00** «Разумней не прыдумаеш».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.40** «Дарагая перадача».
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.35** «Белы Бім Чорнае вуха». Мастацкі фільм.
**13.20** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Нам і не снілася».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.15** «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** «Васабі».
**22.00** «Зорны рынг».
**23.10** «Белы Бім Чорнае вуха». Мастацкі фільм.
**00.45** «Глядзець усім!».

### Беларусь 2

**07.05** Мастацкі фільм «Разумныя рэчы» (СССР, 1973 г.).
**09.15** Толькі для дарослых.
**09.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША, 2005 г.).
**10.30** Беларуская кухня.
**11.05** Тэлебарометр.
**11.10** Анімацыйны фільм «Ледніковы перыяд - 2. Глабальнае пацяпленне» (ЗША, 2006 г.).
**12.40** Капейка ў капейку.
**13.15** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**14.25** Вось дык так!
**15.00** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША, 1997 г.).
**17.30** Comedy Woman. Гумарыстычная шоу-праграма (Расія, 2012-2013 г.).
**18.30** Ікра.
**19.15** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.00** Пазнавальна-забаўляльная праграма «Разбуральнікі міфаў» (ЗША, 2003-2014 гг.).
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Камедыйны баявік «Галівудскія копы» (ЗША, 2003 г.).
**01.05** Пазнавальна-забаўляльная праграма «Разбуральнікі міфаў» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00** «Ныне прославися сын человеческий». Драма (СССР, 1990 г.).
**09.30** «Камертон». Юрый Іваноў.
**09.55** «Дазвольце расказаць!» Спартсмен і акцёр Андрэй Свірыдаў.
**10.10** «Навагоднія вечары ў Маладзечне» Вакальна-інструментальны ансамбль «Чараўніцы».
**11.05** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**11.35** «Куды ён падзенецца!» Музычная камедыя (СССР, 1981 г.).
**13.00** «Золата Макены». Прыгодніцкі фільм (ЗША, 1969 г.).
**15.05** «Паэт і майстар. Натхненне ў скульптуры». Гісторыя стварэння першага манументальнага помніка А.С.Пушкіну ў Санкт-Пецярбурзе.
**15.30** «На любовь свое сердце настрою…» Песні Булата Акуджавы.
**17.15** «Дыя@блог P.S.».
**17.45** «Хаос». Меладрама (Італія-Францыя, 1984 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Чырвоны псалом». Гістарычная драма (Венгрыя, 1972 г.).
**22.35** «Міклаш Янча. Шчырыя прызнанні». Дакументальны фільм пра выдатнага венгерскага кінарэжысёра.

### Беларусь 5

**05.50** Піт-стоп.
**06.15** PRO спорт. Навіны.
**07.15** Гандбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
**08.45** Хакей. КХЛ. «Аўтамабіліст» (Екацярынбург) - «Дынама» (Мінск).
**10.35** Гандбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
**12.05** Баскетбол. НБА. «Бруклін» - «Таронта».
**13.55** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «Чырвоныя Крылы». Прамая трансляцыя.
**19.45** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**20.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Манчэстэр Сіці». Прамая трансляцыя.
**22.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Лестэр».
**00.15** Еўрапейскі покерны тур.
**01.05** PRO спорт. Навіны.
**03.35** Баскетбол. НБА. «Бруклін» - «Таронта». Прамая трансляцыя.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Мітрафан Доўнар-Запольскі.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** ПраСвет.
**10.55** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабрамір», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**11.50** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**12.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Аднаўленне ВКЛ Напалеонам.
**12.55** «Дом», серыял.
**14.35** Мова нанова: «Спорт».
**14.50** «Троіца», фільм-канцэрт.
**15.35** «Пуцінскія гульні», дак. фільм, 2013 г., Германія–Аўстрыя–Ізраіль.
**17.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.50** Зона «Свабоды». Погляд на падзеі тыдня вачыма журналістаў радыё «Свабода».
**18.30** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.15** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**20.00** Мова нанова: «Крама».
**20.20** Невядомая Беларусь: «Код прысутнасці», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Форум (ток-шоў): Самакіраванне – не для нас.
**21.50** «Эвэрэст», маст. фільм, 2008 г., Канада: ч. 1.
**23.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**23.45** Зоры не спяць: Ірына Новік.
**00.20** Студыя «Белсат».
**00.29** ПраСвет.

TV

## 8 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.10** Меладрама «Пернікі з бульбы» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**10.20** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе - 3» (Расія). Заключная серыя.
**11.20** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**00.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.50** Давярай і правярай.
**17.20** Меладрама «Раман у лістах» (Расія).
**19.10** Крымінальная меладрама «Эгаіст» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Рамантычная камедыя «Нявеста майго сябра» (Расія-Украіна).
**00.15** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе - 3» (Расія). Заключная серыя.

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Пакуль усе дома».
**10.25** АНТ прадстаўляе: Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**10.50** «Брэйн-рынг».
**11.55** «Дайце кнігу скаргаў». Мастацкі фільм.
**13.30** «Экіпаж». Мастацкі фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Першая сусветная».
**17.10** «Ералаш».
**17.45** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Тэатр эстрады».
**23.05** «Поўнае зацьменне». Баявік.

### СТВ

**06.25** «Студэнты 2». Серыял.
**08.00** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.30** «Васабі».
**10.10** Чысты праца.
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Белы Бім Чорнае вуха». Мастацкі фільм.
**13.20** «Далёкія сваякі».
**13.30** «Добры дзень, доктар».
**14.05** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Каханне - гэта для дваіх».
**22.30** «Пякельная кухня - 2».
**23.45** «Белы Бім Чорнае вуха». Мастацкі фільм.
**01.10** «Дакументальны праект».

### Беларусь 2

**07.05** Камедыйны баявік «Галівудскія копы» (ЗША).
**09.00** Вышэй за дах.
**09.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Fitnews. Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.36** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.10** Анімацыйны фільм «Ледніковы перыяд. Эра дыназаўраў» (ЗША, 2009 г.).
**12.50** Іранічны дэтэктыў «Сустрэчная плынь» (Расія, 2011 г.). 3.
**14.40** Рамантычная камедыя «Дзень сурка» (ЗША).
**16.35** «Comedy Баттл. Без межаў».
**17.40** Тэлебарометр.
**18.20** Суперлато.
**19.10** Гандбол. Чэмпіянат свету. Фінал. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.20** Фантастычны баявік «Канец свету» (ЗША, 1999 г.).
**23.25** Эксцэнтрычная камедыя «Ты з якой планеты?» (ЗША).
**01.10** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.

### Беларусь 3

**08.00** «Хаос». Меладрама (Італія-Францыя, 1984 г.).
**11.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Вольга Акуліч.
**11.40** «Наперад у мінулае».
**12.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.00** «Рэчавы доказ». Глобус Пятра Вялікага.
**13.25** «Рэчавы доказ». Шкляны жарт.
**13.50** «Міклаш Янча. Шчырыя прызнанні». Дакументальны фільм пра выдатнага венгерскага кінарэжысёра.
**14.45** «1812. Ад Нёмана да Нёмана». Дакументальны фільм пра вайну 1812 г. на тэрыторыі Беларусі.
**15.10** «Загадкі дзеда Кандрата». Дакументальны фільм пра творчасць беларускага байкапісца, драматурга, сатырыка Кандрата Крапівы.
**15.35** «Славянскі базар - 2012». Бенефіс Льва Лешчанкі.
**17.15** «Казка пра цара Салтана». Казка (СССР, 1966 г.).
**18.40** «Культпрасвет».
**22.45** «Культпрасвет».
**19.10** «Бесклапотны ездок». Драма (ЗША, 1969 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Зорнае спатканне». Юбілейны канцэрт заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Рыгора Сарокі.
**23.15** Якуб Колас. «Сымон-музыка». Тэлеспектакль.

### Беларусь 5

**06.15** PRO спорт. Навіны.
**07.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Лестэр».
**08.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «Чырвоныя Крылы».
**10.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Манчэстэр Сіці».
**00.25** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Пары. Прамая трансляцыя.
**15.10** Баскетбол. НБА. «Мінесота» - «Клiўленд».
**16.55** Хакей. КХЛ. «Ак Барс» (Казань) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Саўтгэмптан» - «Суёнсі». Прамая трансляцыя.
**20.55** Лёгкая атлетыка. Гран-пры. Масква.
**22.10** Баскетбол. НБА. «Нью-Ёрк» - «Лэйкерз». Прамая трансляцыя.
**00.20** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Паказальныя выступленні.
**02.25** PRO спорт. Навіны.
**04.05** Баскетбол. НБА. «Мінесота» - «Клiўленд». Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабрамір», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**08.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.35** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ірына Новік.
**09.10** «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**09.20** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.40** Два на два (тэледыскусія).
**10.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Эмілія Плятэр.
**10.50** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабрамір», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**11.25** «Чароўнае дрэва», серыял.
**11.55** Мова нанова: «Крама».
**12.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Міжнародны кінаклуб.
**12.40** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**13.25** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 3 серыя.
**14.10** «Фотааматар», дак. фільм, 1998 г., Польшча.
**15.10** Невядомая Беларусь: «Код прысутнасці», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**15.45** «Эвэрэст», маст. фільм, 2008 г., Канада: ч. 1.
**17.10** «Ранча», серыял.
**17.55** Форум (ток-шоу): Самакіраванне – не для нас.
**18.40** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма):.
**20.05** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**20.30** «Абу Хараз», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**21.45** Кінаклуб: «Багі і пачвары».
**22.00** «Багі і пачвары», маст. фільм, 1998 г., ЗША.
**23.40** «Пуцінскія гульні», дак. фільм, 2013 г., Германія–Аўстрыя–Ізраіль.
**01.10** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

# Права на топлес

Алег НОВІКАЎ

**У Вялікабрытаніі новы этап незвычайнай вайны паміж флагманам жоўтай прэсы і рухам феміністак.**




У цэнтры канфлікту — так званая «Трэцяя старонка», або Page 3. Гэта фірмовая фішка брытанскай бульварнай газеты «The Sun», якую з часам пазычылі шматлікія аналагічныя СМІ, у тым ліку ва Усходняй Еўропе. На трэцяй старонцы газеты, якая належыць славутаму медыя-алігарху Руперту Мэрдаку, штодня публікуецца топлес якой-небудзь гламурнай мадэлі. Рубрыка з'явілася ў лістападзе 1970 года і стала настолькі вядомай, што выданне нават з часам зарэгістравала гандлёвую марку пад назвай «Трэцяя старонка».

Безумоўна, сваім з'яўленнем Page 3 абавязаная культурнай рэвалюцыі 1960–1970-х гадоў на Захадзе, што зняла шматлікія табу, звязаныя з тэмай эротыкі. Праўда, спачатку выявы дзяўчат без адзення наклікалі на выданне гнеў рэтраградаў. Публічныя бібліятэкі ў камунах, якія кантраляваліся кансерватарамі, пачалі масава адмаўляцца ад падпіскі на «The Sun». Некаторыя культуролагі лічаць, што менавіта такая скандальная практыка зрабіла газету вядомай шырокаму чытачу і дазволіла з часам стаць лідарам на рынку жоўтай прэсы. Не дарма канкурэнты «The Sun» таксама хуценька завялі ў сябе нешта падобнае на Page 3.

Паступова кансерватары супакоіліся, тым больш, што «The Sun», як правіла, падтрымлівае торы. Затое паўстаў больш небяспечны для Мэрдака рух. Тая ж самая культурная рэвалюцыя прывяла да фармавання жаночага руху, які разглядае Page 3 як варыянт софт-парнаграфіі, якая ў дадатак даступная для дзяцей. Ужо напрыканцы 1970-х гадоў феміністыцкая грамадскасць пачала патрабаваць прыбраць са старонак бульварных газет гэты раздзел, або як мінімум не друкаваць жанчын топлес. У 1980 годзе феміністкі дабіліся першага буйнога поспеху — жоўтая «Daily Mirror» (галоўны канкурэнт «The Sun») адмовілася ад выяваў мадэляў топлес.

Нягледзячы на крытыку, Page 3 «The Sun» стабільна лашчыла вока аматараў эротыкі. Пазіцыя газеты не змянілася, нават калі пасаду галоўнага рэдактара займала жанчына.

Пераломам адбыўся ў 2012 годзе, калі паўстала ініцыятыва «The No More Page 3» (англ.: «Больш не існуе трэцяй старонкі»). Яе ўзначаліла пісьменнік Люсі-Анн Холмс, па словах якой, Page 3 «увекавечвае састарэлыя сэксісцкія нормы, адлюстроўвае жанчын як сэксуальныя аб'екты, адмоўна ўплывае на вобраз цела дзяўчат і жанчын, а таксама спрыяе фармаванню культуры сэксуальнага гвалту».

Ініцыятыва «The No More Page 3», лозунг якой гучаў як: «Грудзі — гэта не навіны», аказалася дастаткова шумнай, у тым лік дзякуючы падтрымцы шэрагу дэпутатаў ад усіх партый, якія прадстаўленыя ў парламенце. У рамках кампаніі яны прапанавалі ўвогуле забараніць публікаваць у брытанскіх СМІ напаўаголеных мадэляў. Праект рэзалюцыі пра забарону Page 3 «The Sun» абмяркоўваўся на нацыянальнай канферэнцыі ўрадавай партыі ліберал-дэмакратаў. Далей за ўсіх пайшла Кэралайн Лукас, дэпутат парламенту ад «зялёных». Яна парушыла парламенцкі дрэс-код, заявіўшыся на пасяджэнне Палаты абшчынаў у майцы з лагатыпам «The No More Page 3». У сваім выступе Лукас заклікала забараніць продаж газеты ў сценах парламента. Паралельна ў сеціве было сабрана каля 200 тысяч подпісаў супраць Page 3.

Спачатку «The Sun» успрыняў пратэсты як дзяжурны наезд і спрабаваў рэагаваць з дапамогай іроніі. Неяк на той самай трэцяй старонцы апублікавалі фатаздымак адной з дэпутатак, якая хацела забараніць топлес.




Аднак паступова феміністкі перайшлі ў наступ. У жніўні 2013 года ім удалося дабіцца, каб зачыніла скандальную рубрыку ірландская версія «The Sun». Праз год выкінуў белы сцяг і сам уладальнік праекту. У верасні 2014-га Руперт Мэрдак прызнаўся, што фармат 3-й старонкі «састарэў». 20 студзеня 2015 года ў адным з інтэрв'ю Мэрдак паведаміў, што ёсць рашэнне зачыніць Page 3. Дзяўчыны на 3-й паласе «The Sun» сапраўды зніклі, што дазволіла арганізатарам «The No More Page 3» заявіць пра «грамадскую рэвалюцыю годнасці».

Аднак у нумары «The Sun» за 22 студзеня рэдакцыя ў духу былых часоў змясціла эратычную фотасесію нейкай Ніколь. Рэакцыя феміністак не прымусіла сябе чакаць. Кэралайн Лукас ужо збіраецца патрабаваць увогуле забароны выдання Мэрдака.

Адначасова прыхільнікі Page 3 прапануюць свае аргументы. Перш за ўсё, сцвярджаецца, што Page 3 за 45 гадоў існавання стала часткай народнай брытанскай культуры. Page 3 — гэта шанс на кар'еру для дзяўчат, якія вырашылі стаць мадэлямі. Сапраўды, у свой час Page 3 дала пуцёўку ў жыццё вядомым пазней мадэлям, накшталт Саманты Фокс. Цікава, што некаторыя сур'ёзныя выданні падтрымалі жоўты СМІ ў супрацьстаянні з актывістамі «The No More Page 3». На іх думку, падобная кампанія — не што іншае, як форма цэнзуры.

Чарговы раунд барацьбы за і супраць Page 3 адбываецца сінхронна з парламенцкай кампаніі. Вялізарная папулярнасць «The Sun» (5,4 мільёна асобнікаў штодня) дазваляе выданню ўплываць на рэйтынгі партый. Магчыма, менавіта таму Мэрдак дэманстратыўна ўзяўся за старое, спадзеючыся, што ніводная ўплывовая палітычная сіла не будзе канфліктаваць з-за фота напаўголых дзяўчат.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

За апошні год прэзідэнт Беларусі не раз падкрэсліваў важнасць захавання мовы і культуры тытульнай нацыі. На думку экспертаў, ён рабіў гэта пад ціскам знешніх абставінаў. Лукашэнка адчуў рэальную пагрозу сваёй уладзе з боку так званага «рускага свету», таму і загаварыў пра важнасць нацыянальнай мовы і культуры. Гэтаму «свету» Лукашэнка не патрэбны.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Лукашэнка разлічвае ўдзелам у гэтым еўрапейскім форуме (майскі саміт Еўрапейскага партнёрства ў Рызе) зрабіць крок да легітымізацыі сваёй улады ў выніку маючай адбыцца прэзідэнцкай кампаніі. Да таго ж складанай застаецца і сітуацыя ў эканоміцы – краіна мае вострую патрэбу ў знешнім фінансаванні. Чым цяплей адносіны з ЕС, тым большая верагоднасць атрымання крэдыту ад МВФ. Можа спрацаваць і геапалітычны шантаж — Масква, не жадаючы губляць галоўнага саюзніка, дасць крэдыт большы і на лепшых умовах. У любым выпадку, пацяпленне на лініі Мінск—Брусэль беларускім уладам у дадзены момант патрэбна і выгадна.

**«Независмая Газета» (Расія)**

Расійскія СМІ ўжо пачалі антыбеларускую прапаганду. Папулярны аналітык Аляксандр Шумскі ў сваім блогу падрабязна выказаў прыналежнасць Беларусі да Расіі і права Расіі актыўна процідзейнічаць «вестэрнізацыі» суседняй краіны. А адзін з федэральных тэлеканалаў у Расіі распавёў гледачам пра пераварот, які заходнія спецслужбы нібыта рыхтуюць у Беларусі. На думку выдання, сёння стала зразумела, што Лукашэнка і яго набліжаныя перасталі лічыць сяброўства з Расіяй безальтэрнатыўным і хочуць наблізіць сваю краіну да Захаду. Наколькі паспяховымі будуць спробы Лукашэнкі выйсці з ізаляцыі, залежыць ад таго, наколькі ён гатовы праводзіць лібералізацыю ў сваёй краіне.

**joinfo.ua (Украіна)**

Прэзідэнт Лукашэнка, які жалезнай рукой кіруе ў Беларусі ўжо 20 гадоў, гэтай восенню павінен пераабірацца на новы тэрмін. У год правядзення выбараў прынята рабіць шырокія дабрачынныя жэсты ў выглядзе павышэння пенсій і заробкаў працаўнікам бюджэтнай сферы. Аднак у гэтым годзе Лукашэнку давядзецца праявіць асаблівую вынаходлівасць, каб захаваць свой сацыяльны кантракт з насельніцтвам пад лозунгам «стабільнасць замест свабоды»... Пасля пачатку вайны ва Украіне Лукашэнка дыстанцыяваўся ад Масквы, фактычна асудзіўшы захоп Крыма і наведаўшы Кіеў, чым відавочна прадэманстраваў яму сваю падтрымку. Аднак «апошні дыктатар Еўропы», як калісьці назвала яго былая дзяржсакратар ЗША Кандаліза Райс, Лукашэнка наўрад ці даб'ецца гэтым нейкай асаблівай прыхільнасці Захаду, пакуль яго палітычныя апаненты сядзяць у турме або падвяргаюцца наймацнейшаму ціску з боку ўладаў.

**«Bloomberg Businessweek» (ЗША)**

Улады Беларусі ўлічылі «крымскі сцэнар» у законе аб ваенным становішчы. 26 студзеня беларускія заканадаўцы ўнеслі істотныя змены ў закон «Аб ваенным становішчы». У ім з'явіўся пункт «аб накіраванні іншай дзяржавай узброеных груп, ірэгулярных сіл ці падраздзяленняў рэгулярных войскаў» на тэрыторыю рэспублікі. Такія дзеянні цяпер будуць афіцыйна лічыцца ваеннай пагрозай, дастатковай для ўвядзення ў краіне ваеннага становішча.

**«Росбалт» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Чорныя аўтамабілі пад забаронай

У Туркменістане нечакана забаранілі ўвоз чорных аўтамабіляў. З сярэдзіны студзеня туркменскім апазіцыйным цэнтрам паведамілі як мінімум пра тры выпадкі, калі туркменскія мытнікі не прапусцілі праз мяжу аўтамабілі чорнага колеру, якія намагаліся правесці прадпрымальнікі. Мытнікі ніяк не тлумачаць свае дзеянні. «Купляйце машыны белага колеру, белы колер прыносіць поспех!» — заяўляюць супрацоўнікі мытні. Адначасова служба дарожнага нагляду ў краіне часова спыніла правядзенне тэхагляду аўтамабіляў чорнага колеру. Адзіная версія таго, што адбываецца, звязаная з нядаўняй пастановай прэзідэнта, які патрабаваў, каб усе парламентары пераселі на машыны белага колеру. Між тым, ёсць інфармацыя, што ўладальнікі аўтамайстэрняў у Ашхабадзе ўжо зарабляюць добрыя грошы на перафарбоўцы чорных аўто. Паслуга каштуе каля 2500–3000 долараў.

**Паводле туркменскай прэсы**

### УКРАІНА. Кампанія супраць венгерскіх гістарычных міфаў

Ва ўкраінскіх СМІ пачалася кампанія супраць венгерскіх гістарычных міфаў, паводле якіх славяне, што жылі ў Закарпацці, падтрымалі прыход сюды старажытных венграў прыкладна ў IX стагоддзі. Паводле тых венгерскіх летапісаў, славянскі князь Лабарэць, быццам, даў згоду на ўваходжанне Закарпацця ў склад венгерскай дзяржавы. Кіеўскія гісторыкі прапануюць сваю версію тых падзей. У яе аснове тэзіс пра тое, што венграў у Закарпацці не было. Яны, быццам, прыйшлі на тэрыторыю цяперашняй Венгрыі ўздоўж Дуная. Там жа яны сутыкнуліся з печанегамі, якія на той час таксама кантралявалі Закарпацце. Па меры таго, як печанегі растварыліся ў венгерскай нацыі, венгры атрымалі магчымасць захапіць і тэрыторыю, якая зараз называецца Закарпацце. Іншымі словамі, ніякіх пактаў венгры і славяне не заключалі, таму прэтэнзіі Будапешта на Ужгарад не маюць падстаў. Хутчэй за ўсё, бітва гістарычных канцэптаў звязаная з супрацьстаяннем Кіева і венгерскіх сепаратыстаў, якія патрабуюць як мінімум аўтаноміі для этнічных венграў у закарпацкай Украіне.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Корвін-Міке стварыў новую партыю

Скандальны палітык, дэпутат Еўрапарламента Януш Корвін-Міке, які выступае на пазіцыях еўраскептыцызму і кансерватыўнага лібералізму, стварыў новую партыю «Кааліцыя адраджэння рэспублікі свабоды і надзеі» (Koalicja Odnowy Rzeczypospolitej Wolność i Nadzieja, або скарочана KORWIN). Раней Корвін-Міке пакінуў пасаду старшыні сваёй былой партыі «Кангрэс новых правых» з-за расколу ўнутры арганізацыі. Стваральнікі партыі ўпэўненыя, што KORWIN здольны атрымаць на хуткіх выбарах 15–20 працэнтаў, хаця палітолагі не вераць, што фармацыя Януша Корвіна-Міке атрымае больш за 2–3 працэнты. Між тым, пайшлі чуткі, што палітык наўмысна справакаваў канфлікт у Кангрэсе новых правых, каб мець падставу збегчы адтуль. Як высвятляецца, Кангрэс меў шмат фінансавых праблемаў, адказваць за якія давядзецца новаму кіраўніцтву.

**Паводле польскай прэсы**

### ГРЭЦЫЯ. Краінай будзе кіраваць Перыстэра



У той час, як усе толькі і кажуць пра новага грэчаскага прэм'ера Алексіса Цыпраса з левараадыкальнай партыі «Syriza», брытанская жоўтая прэса сцвярджае, што 25 студзеня грэкі абралі сабе ў лідары ягоную жонку Перыстэру Батзіяна. Алексіс і Перыстэра пачалі сябраваць яшчэ ў школе. Сябры цяперашняга прэм'ера сцвярджаюць, што гэта менавіта Перыстэра ў свой час натхніла хлопца з даволі заможнай сям'і падацца ў левыя радыкалы (раней Алекс марыў быць спартоўцам). Спачатку яна прывяла яго ў мясцовую моладзевую арганізацыю, дзе ўжо займала нейкую пасаду. Пасля ўніверсітэту, дзе пара ладзіла радыкальныя акцыі, яны ажаніліся. У іх двое дзяцей. Хаця фармальна жонка Алексіса не ўдзельнічае ў палітыцы, яна, быццам, жорстка кантралюе ўсе палітычныя крокі мужа. Выданне «Daily Mail» нават называе Перыстэру будучай грэчаскай Эвітай, хаця ў адрозненні ад Эвіты Перон, новая першая дама Грэцыі вядзе вельмі сціплы лад жыцця.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Феномен пад назвай PEGIDA

**Пачынаючы з мінулай восені ў шэрагу гарадоў Германіі працягваюцца масавыя вулічныя акцыі, арганізаваныя ісламафобскай ініцыятывай PEGIDA («Еўрапейскія патрыёты супраць ісламізацыі Захаду»). Што прымушае немцаў выходзіць на вуліцы, і як PEGIDA ўплывае на палітычны працэс у Германіі? На гэтыя і іншыя пытанні журналіста НЧ Алега Новікава адказвае актывіст берлінскай антыфашысцкай ініцыятывы Петра Вайтэрмаер.**



***— Адкуль узялася PEGIDA?***

— На першы погляд, на гэта пытанне адказаць настолькі проста, што ўзнікае нейкае падазрэнне, што тут нешта не так. Апошнім часам у ФРГ вырас прыток імігрантаў. Колькасць насельніцтва краіны ўпершыню ў гісторыі нават перавысіла 90 мільёнаў. Сярод прадстаўнікоў апошняй хвалі імігрантаў таксама ўцекачы-мусульмане з Сірыі, што выклікае рост ісламафобіі сярод некаторай часткі бюргераў. Перш за ўсё гэта характэрна для рэгіёнаў, дзе слаба развіты традыцыі мультыкультурнасці. На Усходзе Германіі, куды з-за беднасці мігранты асабліва ехаць не жадаюць, прысутнасць іншага разглядаецца як анамалія. Адсюль і папулярнасць ксенафобскіх настрояў, якія канвертаваліся ў масавыя акцыі дзякуючы правым радыкалам, якія пад дахам PEGIDA мабілізавалі народ.

***— А што ў гэтай версіі падаецца падазроным?***

— Справа ў тым, што нямецкая сістэма СМІ ў ФРГ адбудаваная такім чынам, што можа інфармацыйна ізаляваць любую нізавую палітычную ініцыятыву. Вас проста ніхто не пачуе, акрамя суседзяў. Аднак у выпадку з PEGIDA мы назіраем іншае. Маргінальная арганізацыя здолела праправаць медыя-блакаду, зрабіць сабе рэкламу, што хутка дазволіла рэкрутаваць новых прыхільнікаў. Сам актыў PEGIDA сцвярджае, што свайму ўздыму абавязаны сацыяльным сеткам, аднак у гэта слаба верыцца. Хапае канспіралагічных версій, што нехта наўмысна пачаў асвятляць выхадкі маргіналаў. Напрыклад, папулярна версія пра тое, што вялікі бізнес за кошт істэрыкі вакол PEGIDA спрабуе адцягнуць увагу ад антысацыяльнага праекту дамовы пра зону вольнага гандлю Еўрасаюзу з ЗША.

***— Хто ўзначальвае рух PEGIDA?***

— Менавіта зараз гэта пытанне вельмі актуальнае. На днях у сецiве з'явілася выява Луца Бахмана — заснавальніка PEGIDA, на якой ён капіруе прычоску Гітлера. Гэта выклікала скандал. Пад ціскам крытыкі лідар PEGIDA адмовіўся ад усіх пасадаў. Фармальна, цяпер аб'яднанне ўзначальвае яго намеснік Катрын Эртэль. 35-гадовая Катрын працуе бізнес-дарадчыкам і разглядаецца ў прэсе ў якасці галоўнага кандыдата на вольную вакансію. 41-гадовы Бахман — вельмі супярэчлівая фігура. Ён меў шмат праблем з паліцыяй, і нават сядзеў за кантрабанду наркотыкаў перад тым, як стаў «еўрапейскім патрыётам». Таксама цалкам не зразумелыя арыенціры Бахмана. То ён кажа, што заўсёды галасаваў за хрысціянскіх дэмакратаў, то агучвае праграму неанацыстаў, патрабуючы рэабілітацыі Трэцяга Рэйху. Аднак, падаецца, што фігура лідара не такая важная для шараговых удзельнікаў дэманстрацый PEGIDA. Нягледзячы на фармальную адсутнасць лідара, 26 студзеня ў Дрэздэне прайшла чарговая масавая акцыя PEGIDA. Думаю, што PEGIDA — гэта хутчэй папулярная пратэстная рэакцыя, чым арганізаваная структура. Чым больш у медыя асуджаюць ксенафобаў, тым больш акцыі PEGIDA.

***— Як PEGIDA ставіцца да падзей ва Украіне?***

— Вельмі асцярожна. Яе спікеры кажуць, што «хлуслівая прэса» хоча выявіць сяброў ініцыятывы як сяброў непапулярнага ў краіне Пуціна, хаця яны, быццам, далёкія ад геапалітычнай тэматыкі. Быццам, прыхільнікі PEGIDA заклапочаныя выключна навалай імігрантаў.

***— Які сацыялагічны партрэт удзельніка маніфестацый PEGIDA?***

— На цяперашні момант сацыялагічныя даследаванні праводзіліся выключна ў Дрэздэне, дзе дэманстрацыі найбольш масавыя. Яны сведчаць, што касцяк удзельнікаў акцый — гэта гарадскі мужчынскі электарат правых партый (98 працэнта прагаласавалі б за такія партыі, калі б заўтра былі выбары).

***— Як ставяцца прадстаўнікі палітычнага істэблішменту і грамадзянскай супольнасці да феномена PEGIDA? Наколькі вядома, апошнім часам паралельна з акцыямі PEGIDA праходзяць контрманіфестацыі грамадскасці.***

— Грамадзянская супольнасць была шакаваная з'явай PEGIDA. Сама думка наконт таго, што Германія з-за рэпартажаў з Дрэздэна можа за мяжой асацыявацца з PEGIDA, выклікае шок сярод большасці немцаў. Таксама ніхто не верыў, што акцыі правых радыкалаў здольныя збіраць натоўпы ў 20 тысяч чалавек. Нарэшце, гэта замах на спадчыну дэмакратычнага руху ў ГДР: на маніфестацыях PEGIDA гучаць лозунгі дэманстрацый 1989 года, напрыклад, «Мы — народ». Адсюль ідэя контрдэманстрацый. Што тычыцца партструктур, то выключна еўрафобская «Альтэрнатыва за Германію», якая, дарэчы, мае фракцыю ў саксонскім парламенце, фліртуе з PEGIDA. Да гэтага раўніва ставяцца сябры праварадыкальнай партыі нацыянал-дэмакратаў, якія лічаць PEGIDA сваёй крэатурай. Варта таксама сказаць, што некалькі разоў на зборах PEGIDA агучвалася ідэя стварэння асобнай партыі. Акрамя таго, рух не адзіны. Напрыклад, у Лейпцыгу паўстала група LEGIDA, якая адмаўляецца падпарадкавацца Бахману.

***— Наўрад ці штотыднёвыя дэманстрацыі могуць працягвацца доўга. Што чакае рух PEGIDA?***

— Мы маем парадокс. Пакуль у медыя працягваецца вербальная эскалацыя супраць PEGIDA, ёй робіцца рэклама, і, як следства, яе акцыі збіраюць шмат людзей. Можна было хоць заўтра прыпыніць шуміху ў прэсе, і, думаю, усё паступова супакоілася б. Аднак гэта не выхад. Трэба давесці, што грамадства ніколі не пагодзіцца на любы кампраміс з правымі радыкаламі. Пошук дыялогу з імі можа нармалізаваць у грамадскай свядомасці ксенафобію і ісламафобію, што ўздыме ў грамадстве ўзровень агрэсіўнага стаўлення адносна мігрантаў. Таму трэба дабівацца таго, каб акцыі PEGIDA самі страцілі падтрымку. Тым больш, што поспехі тут ужо ёсць. Пасля мабілізацыі грамадскасці супраць «еўрапейскіх патрыётаў» іх акцыі абмяжаваліся Дрэздэнам і Лейпцыгам. Некаторыя нават кажуць, што ў руху PEGIDA мы маем нейкую праяву саксонскай палітычнай культуры. Яшчэ ў часы ГДР тут быў вельмі моцны антысталічны комплекс, і тубыльцы ахвотна падтрымлівалі ўсё, што не падабаецца Берліну.

# Ці трэба баяцца Цыпраса?

Алег НОВІКАЎ

**У Еўропе хапае прыхільнікаў таго, што грэчаская левардыкальная партыя «Syriza» — прайдзісветы, апартуністы і нават тайныя агенты сусветнага капіталу.**



Шматлікія дэмакратычныя медыя СНД адрэагавалі на навіны з Грэцыі, дзе па выніках выбараў 25 студзеня да ўлады прыйшлі левыя радыкалы, мінорнымі загалоўкамі. Але гэта кантрастуе з артыкуламі заходніх СМІ. Там больш скептычна ставяцца да антыкапіталістычных лозунгаў, якія гучаць на мітынгах партыі Алексіса Цыпраса. Напрыклад, «Financial Times» (рупар інтарэсаў буйнога бізнесу) ацэньвае праграму «Syriza» як вельмі рэфармісцкую.

Больш крытычна ацэньваюць Цыпраса левыя СМІ і палітыкі. У інтэрв'ю нямецкаму выданню «Unsere Zeit» адзін з лідараў грэчаскай Кампартыі характарызуе чальцоў «Syriza» як купку дэмагогаў, якія гуляюць на антаеўрапейскіх тэмах: «Палярызацыю ў Грэцыі адносна ЕС нельга чакаць, паколькі дзве асноўныя партыі, якія змагаюцца за фармаванне новага ўрада («Новая дэмакратыя» і «Syriza»), з'яўляюцца прыхільнікамі Еўрасаюзу. Напрыклад, Алексіс Цыпрас заявіў наступнае: «Наша краіна належыць да Захаду, ЕС і NATO. Мы не ставім гэта пад сумнеў».

Іншае левае нямецкае выданне «Jungle World» апублікавала цікавую падборку выказванняў Цыпраса па вельмі актуальнаму ў Грэцыі царкоўнаму пытанню (праваслаўная царква ў Грэцыі мае шмат падатковых ільготаў, з'яўляецца буйным землеўласнікам).

Раней, калі «Syriza» была маленькай левай партыяй, якая імкнулася пераадолець трохпрацэнтны бар'ер і жадала атрымаць галасы левага электарату, Цыпрас пазіцыянаваў сябе як атэіст. Аднак, каб атрымаць галасы вернікаў, Алексіс у сярэдзіне жніўня здзейсніў трохдзённае паломніцтва ў міні-дзяржаву праваслаўных манахаў на Святой гары Афон. Асноўныя тэмы гутарак з манахамі шырока асвятляліся ў прэсе: «Манахі падзякавалі спадару Цыпрасу за абяцанне падтрымаць іх патрабаванні па спрашчэнні падаткаабкладання». Іншыя тэмы, такія, як падзел царквы і дзяржавы ці скандал вакол участкаў дзяржаўнай зямлі, якую манастыры часта захопліваюць, не абмяркоўваліся.

Прыліў лаяльнасці да царквы лідар «Syriza» растлумачыў вельмі арыгінальна. На яго думку, манахі Афону, якія, дарэчы, валодаюць каласальнымі сумамі грошай і нерухомасцю па ўсёй Грэцыі, падобныя на сапатыстаў (рух паўстанцаў-індзейцаў у Мексіцы). Маўляў, да такога арыгінальнага параўнання ён прыйшоў, пасля знаёмства з іконай Божай маці, якая лічыцца ахоўніцай Афону. Перад ёй Алексіс правёў у адзіноце дзесяць хвілін.

Пасля наведвання святой гары Цыпрас знайшоў час для размовы з Рымскім Папам Францыскам. Пасля сустрэчы левардыкальны палітык заявіў, што пазіцыі левых вельмі блізкія да пазіцый каталіцкай царквы. Паводле афіцыйных прэс-рэлізаў, суразмоўцы пры сустрэчы абмяркавалі такія тэмы, як бедната, эміграцыя, эканамічны крызіс, блізкаўсходні канфлікт і ў выніку дамовіліся пра агульныя кампаніі супраць усіх гэтых формаў зла.

Існуе шмат плётак і пра кантакты «Syriza» з буйным капіталам. Напрыклад, ёсць спекуляцыі наконт таго, што партыя Алексіса дапамагла захаваць адзін з буйных партоў у руках алігарха, які ў сваю чаргу дапамог партыі на мясцовых выбарах мінулай вясной. Напярэдадні тых жа выбараў Цыпрас таемна сустракаўся з вядучым медыя-магнатам Грэцыі. Змест перамоў так і застаў таямніцай для шараговых актывістаў партыі, што прымусіла некаторых з іх апублікаваць адкрыты ліст пратэсту ў левай газеце «Unfollow».

Цыпрас праігнараваў ліст. Затое ад медыйнай вайны супраць «Syriza» не засталося і следу. На працягу кампаніі ў вядучых прыватных СМІ не было матэрыялаў з сур'ёзнай крытыкай праграмы і кандыдатаў ад партыі левардыкалаў.

Падазрэнні яшчэ больш узмацніла кааліцыя «Syriza» з правай партыяй «Незалежныя грэкі» (ANEL). Нагадаем, што без блоку з ANEL у Цыпраса не было патрэбнай колькасці мандатаў для фармавання ўраду.

**«Незалежныя грэкі» таксама патрабуюць спісання большай часткі грэчаскага доўгу і скарачэння падаткаў для прыцягнення інвестыцый, стварэння працоўных месцаў і фінансавання кампаній**

Партыя Панаса Каменаса «Незалежныя грэкі» была створана напачатку 2012 года як чарговы адкол ад кансерватараў з-за нязгоды наконт пакету дапамогі Грэцыі з боку ЕС-МВФ.

Менавіта крытыкай з боку ANEL згаданых фінансавых устаноў «Syriza» тлумачыць свой выбар. «Незалежныя грэкі» таксама патрабуюць спісання большай часткі грэчаскага доўгу і скарачэння падаткаў для прыцягнення інвестыцый, стварэння працоўных месцаў і фінансавання дробных кампаній.

Аднак адначасова ANEL ішла на выбары з рэзка антыімігранцкімі прапановамі. Партыйная праграма ўключала пункт пра тое, што прадстаўнікоў нетытульнай нацыі ў краіне мае быць не больш за 2,5% ад усяго насельніцтва. Партыя выступала за турмы «максімальнай бяспекі» ў аддаленых і ізаляваных мясцовасцях, масавую дэпартацыю ўсіх нелегальных імігрантаў і нават іерархію «пераваг» у іміграцыі — пускаць у краіну толькі мігрантаў з Захаду і Лацінскай Амерыкі. Панас Каменас таксама праславіўся сваімі скандальнымі тырадамі накшталт таго, што трэба «прымусіць яўрэяў плаціць падаткі».

«Жаданне кіраваць і рулiць прымушае ўсіх палітыканаў — ці то яны правыя, ці то левыя — хутка забываць пра свае прынцыпы і абяцанкі. Такі кошт прыходу да палітычнай улады, які патрабуе ад палітыкаў пачвара дзяржавы», — канстатуе адно з анархісцкіх грэчаскіх выданняў. Французскае выданне «Le Monde Libertaire» увогуле лічыць, што Цыпрас з яго ўмеранай праграмай — новыя Франсуа Аланд, чыя асцярожная палітыка дыскрэдытавала французскую левую ідэю.

Але давайце не будзем спяшацца. Па-першае, левыя партыі і палітыкі, як і іх правыя візаві, знаходзяцца ў стане канкурэнцыі і ахвотна паліваюць адзін аднаго брудам. Па-другое, трэба пачакаць канкрэтных крокаў новага кабінету. Дарэчы, пачала «Syriza» вельмі жвава. Вось спіс справаў ураду Алексіса Цыпраса за 27 студзеня (першы дзень знаходжання ва ўладзе): прадстаўленне грамадзянства ўсім дзецям імігрантаў, якія нарадзіліся ў Грэцыі, замарожванне прыватызацыі порта Пірэй кітайскай кампаніяй, аднаўленне ў ВНУ студэнтаў, якія з-за таго, што працуюць паралельна вучобе, не паспелі здаць апошнюю сесію.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Барак Абама



Як жартуе прэса, прэзідэнт ЗША палепшыў свой рэйтынг за кошт аматараў кубінскіх сігар. 23 студзеня ўступіла ў сілу амерыканска-кубінская дамова, якую ў снежні падпісаў Барак Абама. Яна адмяняе 50-гадовую палітыку эмбарга, вяртае на амерыканскі рынак славутыя кубінскія сігары. Новыя нормы дазваляюць грамадзянам ЗША прывозіць з Кубы і нават дасылаць з Кубы на радзіму больш сігар. Раней памеры імпарту кубінскай табачнай прадукцыі былі жорстка абмежаваныя. Напрыклад, дазвалялася ўвозіць сігары выключна з Кубы, куды амерыканцам наўпрост цяжка трапіць з-за спецыяльнага рэжыму, прычым на суму не больш за сто долараў. Дэфіцыт кубінскіх сігар стварыў у ЗША сапраўдны чорны рынак. Кантрабандыстаў і нелегальных гандляроў не спынілі нават фантастычныя памеры пакарання за парушэнне закону — штраф 55 тысяч долараў. Самы вялікі штраф за нелегальныя кубінскія сігары склаў 250 тысяч долараў. Пакуль у ЗША радуюцца, на Кубе стаўленне да адмены эмбарга больш асцярожнае. Праз канфрантацыю Гаваны і Вашынгтона кубінскія ўцекачы аўтаматычна атрымлівалі правы на палітычны прытулак у Штатах. На думку палітолагаў, пацяпленне кубінска-амерыканскіх адносін прывядзе да паступовай адмены асаблівага статусу кубінскіх імігрантаў у ЗША.

### Яўген Шаўчук



Прэзідэнт непрызнанай Прыднястроўскай Малдоўскай Рэспублікі (ПМР) выступіў са зваротам да жыхароў, у якім анансаваў татальнае скарачэнне сацыяльнай падтрымкі. Непапулярныя меры — следства, па словах палітыка, краху расійскага рубля. Так, напрыклад, будзе замарожаная пенсія, паколькі пенсійны фонд рэгіёна забяспечваецца з мясцовага бюджэту толькі на 60%. Уводзіцца абмежаванне на вываз валюты, будуць уздымаца тарыфы на святло. Аднак гэта толькі кветачкі. Дасюль не зразумела, як Прыднястроўе будзе адраджаць эканоміку пасля краху рубля. Шматлікія гандлёвыя агенты цалкам прынілі стасункі з Расіяй, паколькі гэта не выгадна. У дадатак з дня на дзень чакаецца, што Кіеў забароніць транзіт тавараў з ПМР у Расію. Эксперты лічаць, што крызіс можа прывесці да паступовага развароту ПМР у бок Малдовы, куды да апошніх падзей і так ішло 50 працэнту імпарту. Пасля эканамічнай кааперацыі можа пачацца працэс палітычнай рэінтэграцыі краю ў склад Малдовы. Цікава, што на фоне развалу эканомікі рэгіёна курс прыднястроўскага рубля ўпарта не змяняецца, а між тым суседнія валюты — украінская грыўна, малдоўскі лей — імкліва падаюць. Эканамісты тлумачаць гэты фінансавы цуд адміністрацыйным рэсурсам.

### Джэм Оздэмір



Цяжка сказаць, што прымусіла сустаршыню нямецкай партыі «Саюз 90 — Зялёныя» пасадзіць на сваім балконе куст канапель. Расліна прыцягнула ўвагу паліцэйскіх, якія праходзілі міма. Як следства, у паліцыі завялі справу супраць лідара «Зялёных». Учынкі нямецкага МУС вельмі абурылі нямецкіх прыхільнікаў легалізацыі марыхуаны. У краіне пачалася кампанія «Сад Джэма». Удзельнікі кампаніі лічаць, што ў выпадку з Оздэмірам мела месца парушэнне канстытуцыйных правоў на прыватнае жыццё, і заклікаюць, каб дзяржава гарантавала права кожнаму грамадзяніну мець у сваёй кватэры якія заўгодна расліныя культуры. Яшчэ адзін аспект скандалу звязаны з тым, што Оздэмір з'яўляецца дэпутатам парламенту і мае дэпутацкі імунітэт, які паліцэйскія ў рамках антынаркатычнай аперацыі папросту ігнаравалі. Між тым, калегі-дэпутаты не спяшаюцца выступаць у падтрымку Джэма, паколькі атрымаць імідж прыхільніка наркотыкаў ніхто не жадае. Цікава, што герой скандалу таксама ўхіляецца ад каментараў наконт гэтай справы.

# Гісторыя аднаго брэнда: «Электрыт», які стаў «Гарызонтам»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Гісторыя сучаснага беларускага холдынгу «Гарызонт» пачалася ў самым пачатку Другой сусветнай вайны. Мінскі радыёзавод фарміраваўся на базе рэквізаванага ў Вільні завода «Elektrit», абсталяванне і супрацоўнікі якога былі вывезены ў сталіцу БССР.**



Прадукцыя «Электрыту», 1937 год

### Пачатак легенды

Радыётэхнічнае таварыства «Elektrit» было заснавана ў 1925 годзе ў Вільні на вуліцы Віленскай, 24. Першапачаткова прадпрыемства па сваёй сутнасці прадстаўляла радыётэхнічную краму, дзе ў невялічкай майстэрні ажыццяўлялі рамонт радыёпрыёмнікаў, а таксама продаж імпартных радыёдэталяў. Кіраўнікамі гэтай фірмы былі мясцовыя бізнэсмэны Самуіл і Рыгор Хволес, а таксама Навум Левін.

Ужо праз два гады працы «Elektrit» пачаў мантаваць радыёпрыёмнікі ўласнай вытворчасці. У гэты перыяд «Elektrit» выпусціў першыя дэтэктарныя прыёмнікі, якія ўжо ў 1927 годзе атрымалі залатыя медалі на міжнародных выставах у Парыжы і Фларэнцыі.

Хутка віленскі завод атрымаў першыя буйныя замовы на ўласныя апараты. Інвестыцыі і рост абаротнага капіталу дазволілі пачаць вытворчасць уласных частак для радыёпрыёмнікаў (у тым ліку трансфарматараў, кандэнсатараў і гукавых калонак). У пачатку 1930-х гадоў радыёпрыёмнікі з Вільні разыходзіліся па ўсёй Заходняй Беларусі.

### Супрацоўніцтва з Аўстрыяй

У 1934 годзе Таварыства «Elektrit» купіла ў аўстрыйскай фірмы «Minerwa» ліцэнзію на выраб найбольш сучасных на той час прыёмнікаў на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай. Ужо на наступны дзень пасля падпісання дамовы з Вены ў Вільню накіравалася група інжынераў, якія павінны былі дапамагчы віленскім калегам пачаць вытворчасць новай прадукцыі. Вось як узгадваў вытворчы працэс інжынер віленскай фабрыкі, выпускнік універсітэта ў французскім Бардо і былы працоўны радыёзавода ў Парыжы Якаў Пумпянскі: «Прадстаўнікі завода, дзе мы купілі ліцэнзію, сядзелі ў нас. За кожны выпушчаны ў нас прыёмнік «Мінерва» атрымлівала нейкі прыбытак. Яны, у сваю чаргу давалі нам чарцяжы і ўзоры для запуску прадукцыі».

У 1936 годзе фабрыка скончыла будаўніцтва трох новых завадскіх памяшканняў. У гэты час тэрыторыя «Elektrit» займала агульную плошчу ў 10 300 квадратных метраў. Тут было ўсё: аўтапарк, вялікая сталярная вытворчасць (дарэчы, драўніну атрымлівалі ад мясцовых заходнебеларускіх дрэваапрацоўшчыкаў), электрастанцыя, сучасная інжынерная лабараторыя, склады і, безумоўна, вытворчыя цэхі, у якіх працавала 6 канвеераў па зборцы радыёпрыёмнікаў.

**У сезоне 1936–1937 гадоў было распрацавана 7 тыпаў радыёпрыёмнікаў у 15 розных мадэлях, на наступны сезон — 6 тыпаў/15 мадэляў, у сезоне 1938–1939-х — 9 тыпаў прыёмнікаў у 18 мадэлях**



«Піянер», 1940 год

У сярэдзіне 1930-х гадавая прадукцыя «Elektrit» складала 54 тысячы радыёпрыёмнікаў, а сума прыбытку — 6 мільёнаў 400 тысяч злотых, што па тагачасным курсе прыкладна 1,2 мільёны долараў. На віленскім радыёзаводзе працавала каля 1100 працоўных, у ліку якіх былі выдатныя інжынеры і тэхнікі з Польшчы і замежжа.

Галоўны поспех віленскіх бізнэсмэнаў заключаўся ў тым, што менш чым за дзесяць гадоў ім удалося на 80 працэнтаў замяніць імпартныя дэталі на айчынныя. Пры гэтым да самага пачатку Другой сусветнай вайны радыёпрыёмнікі фірмы «Elektrit» камплектаваліся радыёлямпамі галандскай «Philips», а магніты для дынамікаў атрымлівалі з Вялікабрытаніі. У сярэдзіне 1930-х гадоў віленская фірма пачала выпрабляць мікрафоны, мегафоны, гукавыя калонкі, а таксама гукавое абсталяванне для кінатэатраў. Асобнае месца ў прадукцыі віленскіх радыёпрыёмнікаў займаў дызайн драўлянай адбудовы апаратаў. Не было зроблена ніводнага прыёмніка ў бекелітавай скрыні. Чаму? Бо лічылася, што толькі дрэва можа зрабіць лепшую гукаперадачу.

### Шырокі асартымент

Віленская фабрыка выпрабляла радыёпрыёмнікі для розных сацыяльных груп: ад дарагіх (шматлямпавых), напрыклад, для Нясвіжскай рэзідэнцыі Радзівілаў, да бюджэтных (трохлямпавых), які мог набыць для вясковай школы яе дырэктар. Да таго ж завод рабіў прыёмнікі на батарэях і электрычныя.

Кіраўніцтва фабрыкі максімальна сачыла за новымі трэндамі ў вытворчасці радыёпрыёмнікаў, таму амаль кожны сезон «Elektrit» выпускаў на рынак новы прадукт. Звязана гэта было яшчэ і з моцнай канкурэнцыяй на гэтым рынку. Галоўнымі супернікамі «Elektrit» былі галандскі «Philips» і нямецкі «Telefunken». Барацьба за пакупніка паміж трыма фірмамі звычайна разгортвалася ад восені і да лета наступнага года. З чэрвеня і па жнівень фірмы мелі час на перадышку і распрацоўку новых мадэляў.

«Ранняй вясной уласнікі «Мінервы» перадавалі нам свае мадэлі, і каб іх засвоіць, мы за лета павінны былі адпрацаваць усю тэхналогію: падрыхтаваць чарцяжы, працоўныя месцы, апаратуру для кантролю, канвееры і гэтак далей. Лямпы мы атрымлівалі з Варшавы, дзе меліся дачныя прадпрыемствы «Філіпса» і нямецкай фірмы «Тунгсрам». Атрымлівалі за долары», — узгадваў Веньямін Пумпянскі.

У сезоне 1936–1937 гадоў было распрацавана 7 тыпаў радыёпрыёмнікаў у 15 розных мадэлях, на наступны сезон — 6 тыпаў/15 мадэляў, у сезоне 1938–1939 гадоў «Elektrit» распрацаваў 9 тыпаў прыёмнікаў у 18 мадэлях. Былі планы і на сезон 1939–1940 гадоў (6 мадэляў), аднак Другая сусветная ўнесла карэктывы ў графік вытворчасці.

Найбольш танны апарат ад віленскай фабрыкі каштаваў каля 200 злотых, а кошт самых дарагіх вагаўся ад 900 да 1000 злотых. Якія асаблівасці былі ў віленскіх радыёпрыёмнікаў? Напрыклад, у прыёмніку «Опера» ўпершыню былі зроблены двайныя дынамікі, а «Акеанік» быў распрацаваны для выкарыстання ў трапічных умовах. З'яўленне «Акеаніка» было звязана з трэндамі другой паловы 1930-х гадоў у сацыяльна-палітычным жыцці. Тады, нагадаю, Другая Рэч Паспалітая гучна пачала заяўляць пра свае правы на заморскія калоніі ў Афрыцы і Лацінскай Амерыцы.

### Кантроль і экспарт

У 1937 годзе віленская фабрыка экспартавала свае вырабы ў Швецыю, Югаславію, Германію, Чэхаславакію, Эстонію, Брытанскую Індыю, Паўночную Афрыку, Бразілію, на Блізкі Усход. Афіцыйныя прадстаўніцтвы кампаніі існавалі ў Сафіі і Хельсінкі. Акрамя радыёпрыёмнікаў «Elektrit» экспартавала драўляныя скрыні для апаратаў, а таксама гуказапісвальную апаратуру.




Працоўныя «Электрыту», 1937 год



Адміністрацыя «Электрыту» перадае аўтамабіль Войску Польскаму, канец 1930




Удзел «Электрыту» ў выставах 1936 года



Заходняя Беларусь. Людзі слухаюць радыё, канец 1930-х

Дарэчы, віленскія інжынеры любілі займацца прамысловым шпіянажам. На шматлікіх прамысловых выставах спецыялісты польскага завода імкнуліся скапіраваць лепшыя ідэі канкурэнтаў, і гэта ім часта ўдавалася. Аднак гэта не азначае, што ў Вільні не з'яўлялася сваіх выдатных вынаходак.

«У нас быў нават свой АТК. У ізаляваных акустычных кабінах сядзелі кантралёры, вымяраючыя адчувальнасць і выбіральнасць. Напрыклад, калі добра было чуваць Хельсінкі, значыць, на сярэдніх хвалях павінна было добра чуваць і Маскву. Правяралі адразу па 6–7 мадэляў. Апошнія пару гадоў да прыходу савецкіх войскаў мы так моцна сталі на ногі, што парвалі з «Мінеўрай» і пачалі выпускаць прыёмнікі па сваёй схеме і канструкцыі», — падкрэсліваў ва ўспамінах Веньямін Пумпянскі.

Перад самым пачаткам Другой сусветнай вайны ў фабрыкі пачаліся невялікія праблемы з-за «нехрысціянскага» паходжання яе кіраўніцтва. Антысемітызм з Трэцяга Рэйху паступова пранікаў і ў Другую Рэч Паспалітую. З даваенных польскіх футбольных клубаў выганялі гульцоў-яўрэяў. Можна было пачуць і заклікі за байкоту прадукцыі фабрыкі «Elektrit». Аднак ніякі антысемітызм не мог перашкодзіць продажу якаснай прадукцыі, на якую быў вялікі попыт. У канцы 1930-х гадоў адказвалі за вытворчасць радыёпрыёмнікаў інжынеры Леў Розеншэйн, Тадэвуш Стэфаноўскі, Павел Шулкін і ўжо ўзгаданы Веньямін Пумпянскі.

## КПЗБ і дапамога войску

Цікавым эпізодам гісторыі віленскага радыёзавода было тое, што там дзейнічала падпольная камуністычная ячэйка. Менавіта яна ў 1935 годзе выклікала вялікі страйк на прадпрыемстве. У выніку кіраўніцтва вымушана было пайсці на саступкі. Аднак пазней найбольш заўзятых камуністаў з фабрыкі ціха звольнілі.

Страйк стаў добрым урокам для прафсаюзнай арганізацыі, якая вымушана была змяніць сваю палітыку і стратэгію дзеяння. Пры ўсіх фінансавых і палітычных цяжкасцях радыёзавод быў адным з найбольш прывабных месцаў для працы. У міжваеннае дваццацігоддзе нават існаваў такі жарт: «Жыхары Вільні дзеляцца на тых, хто працуе ў «Электрыце» і тых, хто жадае там працаваць». На фабрыцы дзейнічаў спартыўны клуб, у складзе якога было некалькі секцыяў. «Электрыт» меў нават свой уласны часопіс «Тэхнічныя навіны».

Напярэдадні Другой сусветнай вайны кіраўніцтва фабрыкі максімальна старалася дапамагчы Войску Польскаму. Вільняне фінансавалі куплю зброі і вайсковага транспарту, перадавалі таксама і частку сваёй прадукцыі.

## Эвакуацыя

Пасля нападу Германіі на Польшчу «Elektrit» працягваў працу. Праз некалькі тыдняў пасля пачатку вайны польска-германскі фронт наблізіўся да Заходняй Беларусі. 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла «рыжскую» мяжу, і хутка яе часткі былі ў старажытнай сталіцы ВКЛ. Ніхто не спадзяваўся на такі расклад падзей, таму польскія ўлады фабрыку «Elektrit» нават не збіраліся эвакуіраваць. У сваю чаргу, савецкі бок ужо добра ведаў, што будзе з Вільняй (Сталін планаваў узамен на

**Страйк стаў добрым урокам для прафсаюзнай арганізацыі, якая вымушана была змяніць сваю палітыку і стратэгію дзеяння. Радыёзавод быў адным з найбольш прывабных месцаў для працы**

лаяльнасць літоўцаў перадаць ім горад).

Вось як узгадваў тыя падзеі інжынер Якаў Пумпянскі: «Мы думалі, што Вільню зоймуць немцы. Яны ўжо былі ў Беластоку. Але 17 верасня мы даведаліся, што Чырвоная Армія выступіла на сустрэчу немцам. Было зразумела, што Вільню зоймуць менавіта яны. Так і здарылася. Завод па інерцыі яшчэ працаваў нейкі час, а пазней спыніў працу. Грошай у гаспадара не было, і нам выплацілі зарплату прыёмнікамі. Самуіл Хволес перавёў грошы ў Англію і сам туды з'ехаў. Рыгор Хволес з'ехаў у Коўна. Як казалі, падчас вайны ён загінуў у гета. Застаўся Наум Левін [...] Праз тыдзень мяне запрасілі на завод. Там ужо было некалькі чалавек. У асноўным тыя, хто адзначаўся «левымі» поглядамі. На заводзе быў наркам мясцовай прамысловасці БССР Якаў Каган. Ён нам прапанаваў пераехаць у Савецкі Саюз. «Гэты завод — ваш. Трэба яго вывезці. У Вільні завод не зможа далей працаваць, а ў Расіі вы атрымаеце ўсё», — сказаў ён».

Дэмантаж абсталявання ішоў тры дні. З завода забралі ўсе: ад станкоў да попельніцы ў кабінеце дырэктара. Пагрузку абсталявання ажыццяўлялі чырвонаармейцы. Эшалон ахоўвалі ўнутраныя войскі НКУС. Супраць эвакуацыі завода выступіў апошні яго гаспадар Навум Левін. Хутка Левіна арыштавалі. Ён памёр у ГУЛАГу. Відавочцы распавядалі, што пасля некалькі гадоў ссылкі ён страціў розум і ўвесь час паўтараў адну фразу: «Аддайце мне мой завод».

Лагатып Мінскага радыёзавода імя Молатава, 1940 год

«У Маладзечна нас ужо чакаў савецкі цягнік. Вагон стаяў насупраць вагона. Чырвонаармейцы пераносілі скрыні з абсталяваннем з аднаго месца ў другое. Побач чакаў і эшалон для працоўных. Усяго паехала каля 500 сямей (каля 2000 чалавек). Прыехалі мы ў сталіцу БССР 13 кастрычніка. Бруд у горадзе быў няўяўны. Размеркавалі нас у інтэрнатах на вуліцах Маскоўскай і Ленінградскай, ля вакзала. Нам вылучылі яшчэ два дамы на Даўгабродскай. Ужо ў Мінску мы даведаліся, што завод будзе знаходзіцца тут. Хутка нам выдалі савецкія пашпарты. Але яны былі нейкія часовыя. На паперках. Пазней групу інжынераў вывезлі на дрэваапрацоўчую фабрыку, якая знаходзілася ля Камароўскай плошчы. Гэта была нейкая старая мэблевая фабрыка», — узгадваў Веньямін Пумпянскі.

## Гонар БССР

Стварэнне савецкага «Радыёзавода імя Молатава» ў Мінску праходзіла ў перыяд са снежня 1939-га па лістапад 1940 года. Пры гэтым віленскія інжынеры ў скарочаныя тэрміны павінны былі навучыць савецкіх спецыялістаў сваім ведам. Але калі гэта адбылося, частку былых грамадзян Другой Рэчы Паспалітай абвінавацілі ў «антысавецкай агітацыі» і арыштавалі. Некаторыя з гэтых людзей знаходзіліся ў турме НКУС на вуліцы Валадарскага і былі пазней расстраляныя. Іншых накіравалі на лесапавал.




Рэклама «Электрыту»

Першымі вырабамі мінскага радыёзавода былі дакладныя копіі радыёпрыёмнікаў «Herold» і «Komandor», якія выпускаліся пад назвай «КІМ», «Піянер» і «Маршал».

«Мы нашы прыёмнікі прыстасавалі да лямпаў, якія выпускаліся ў СССР і да мясцовых камплектуючых. Але прадукцыя, якую мы выраблялі, па знешняму выгляду і па культуры вытворчасці настолькі адрознівалася ад таго, што выраблялася ў Савецкім Саюзе, што вакол нас быў створаны нейкі гераічны арэол. Частку гатовай прадукцыі, якую мы прывезлі з Вільні, тут, у Мінску, раскупілі адразу ж. Частка пайшла кіраўніцтву, іншыя апараты ў Маскву, членам ЦК. Усе разумелі, што нашы прыёмнікі на некалькі класаў лепшыя за савецкія», — узгадваў былы інжынер «Elektrit» Веньямін Пумпянскі.

## Новыя выпрабаванні

Ужо ў чэрвені 1941 года праца завода была спынена. Другая сусветная прыйшла і ў Мінск. Сталіцу БССР бамбілі, але будынкі «Радыёзавода імя Молатава» ацалелі. Частка перажыўшых рэпрэсіі былых віленскіх інжынераў прапанавала эвакуіраваць вытворчасць на Усход, але ўрад БССР ужо збег, і рашэнне прымаць было няма каму. «Мы выехалі. Пакінуўшы гэты выдатны завод немцам», — з горыччу пазначаў Пумпянскі.

Падчас нацысцкай акупацыі на тэрыторыі завода існаваў яўрэйскі працоўны лагер. Пасля вайны праца завода была адноўлена.

Шэраг былых інжынераў завода, якія выжылі ў нацысцкім гета, пазней трапілі ў рукі НКУС і былі накіраваны ў ГУЛАГ «за здраду Радзіме». Сярод гэтых няшчасных былі: Меер Давідавіч Гершатэр і Жыгімонт Якаўлевіч Канюшкоў. Іх абвінавацілі ў тым, што ў чэрвені 1941 года яны не эвакуіраваліся і засталіся на часова акупаванай тэрыторыі, а таксама… што «слухалі па радыёперадачы польскага эміграцыйнага ўраду з Лондана». У следчай справе Гершатэра пазначалася, што ў верасні 1941 года немцы прызначылі яго начальнікам цэха радыёзавода, а пазней інжынер стаў тэхнічным дырэктарам прадпрыемства.

Пасля аднаўлення вытворчасці ў 1947 годзе на Мінскім радыёзаводзе пачалі збіраць даваенны прыёмнік «Маршал» пад назвай «Мінск». У паваенны час Веньямін Натанавіч Пумпянскі працаваў на заводзе кіраўніком спецыяльнага канструктарска-тэхнічнага бюро. Далейшае развіццё Мінскага радыёзавода — гэта асобная гісторыя.

# З юбілеем, Міхаіл Міхайлавіч!

**Распаўсюджвальніку «Новага Часу» Міхаілу Шарамету споўнілася 70 гадоў**



«Новы Час» даходзіць да чытачоў праз добраахвотных распаўсюджвальнікаў, якія нярэдка церпяць пераслед з боку ўлады. Нядаўняя справа магілёўскага распаўсюджвальніка Віктара Чэравухіна таму прыклад. Распаўсюдам газеты ў Магілёве займаецца яшчэ адзін чалавек, які 29 студзеня адзначыў сваё 70-годдзе, — Міхіал Міхайлавіч.

Яшчэ ў 1980-я ён з аднадумцамі падпольна друкаваў улёткі, якія пасля раздаваў па горадзе. Пасля стаў распаўсюджваць апазіцыйныя газеты. У спіс такіх выданняў трапіла і «Згода» — папярэднік «Новага Часу». «Праз «Згоду» якраз я і «загрымеў». На «Хімвалакне» нават пропуск у мяне забралі», — узгадвае Міхаіл Міхайлавіч.

«Распаўсюд недзяржаўнай прэсы — справа не з лёгкіх», — упэўнены Міхаіл Міхайлавіч. — У 2007 годзе міліцыянты мяне затрымалі за распаўсюд, а я іх пасля гэтага цягаў па ўсіх інстанцыях». Да суду гэтая справа не дайшла. Міліцыянты прасілі прабачэння.

Затрыманняў і нападкаў з боку праваахоўных органаў было дастаткова. Але, па словах Шарамета, ён можа за сябе пастаяць. Ён сцвярджае, што міліцыянты — таксама людзі.

Міхаіл Міхайлавіч кажа, што за гадзіну ён можа распаўсюдзіць каля 600 асобнікаў газет. «Я за столькі год практыкі ўжо навучыўся гэта рабіць. Калі ў 1986 годзе я распаўсюджваў апазіцыйную прэсу, то яе фактычна ніхто не браў. Раздаць 20 газет за дзень — гэта была вялікая радасць. За мной нават бабулькі з сабакамі бегалі — толькі каб я не шастаў па дварах. А зараз бабулькі кажуць: «Дзякуй вам, што нам святло прыносіце». І гэта ўсё ў сувязі з падзеямі на Украіне. Ёсць і такія, хто стаміўся ад хлусні на тэлебачанні», — распавядае Шарамет.

Пастаянных кліентаў у Міхаіла Міхайлавіча хапае, агулам да 250 чалавек. Былы ўдарнік камуністычнай працы справу кідаць не збіраецца. Тым больш, жыхары Магілёва ўжо прывыклі, што ў лазні ці на рынку, ці па дарозе на працу яны сустрэнуць Міхаіла Міхайлавіча з пачкам свежага нумару «Новага Часу».

# «Паяцы» ў Мінскай оперы

*Алесь ГІНЗБУРГ*

**У свеце сёння папулярныя так званыя оперныя флэшмобы, калі тэнары ды сапрана, апранутыя як непрыкметныя мінакі, нечакана пачынаюць спяваць арыі ў месцах, што як найменш асацыююцца з операй: на кірмашах ці гандлёвых цэнтрах.**



Дзве падобныя творчыя акцыі ў Мінску мелі месца ў супермаркетах «BIGZZ» і «Соседи». Мэтай гэтых флэшмобаў было не толькі прыцягнуць увагу масавага гледача да опернага мастацтва, але і прадэманстраваць: опера з яе жарсцямі значна бліжэй да звычайнага жыцця звычайнага чалавека, чым нам магло здавацца.

Прэм'ера оперы «Паяцы» Руджэра Леанкавала, якая адбылася ў Вялікім тэатры оперы і балета яшчэ ў снежні, нясе ў сабе паэтыку і энергетыку опернага флэшмоба. Узнаўляючы знакамітую оперу пачатку XX стагоддзя, рэжысёр-пастаноўшчык Міхаіл Панджавідзэ з трэскам абрынуў тую самую «чацвёртую сцяну», з якой зацята змагаюцца прагрэсіўныя тэатры свету. Што-што, а заснуць на новым спектаклі наўрад ці ўдасца: няма ніякай гарантыі, што ў залі побач з вамі не сядзіць саліст, які праз імгненне пачне выконваць знакамітую арыю «Смейся, Паяц...» проста над вашым вухам.

«Паяцы» — візітная картка Леанкавала, які працаваў у духу верызму. Оперы кампазітараў-верыстаў былі максімальна набліжаныя да сучаснасці: на сцэне спявалі ды пакутавалі не міфічныя багі ці заморскія каралі, а такія ж звычайныя людзі, што прыйшлі ў тэатр.

Опера «Паяцы» знакамітая сваёй мадэрністычнай кампазіцыяй: другое дзеянне дубліруе падзеі першага, хіба што першае разгортваецца за кулісамі тэатру, а другое — на яго падмостках. Атрымліваецца такі сабе двайны «тэатр у тэатры». Сюжэт, калі сцісла, такі: у абстрактны італьянскі тэатр з гастролямі прыбываюць зоркі буфанады — вечарам адбудзецца прадстаўленне. У артыстаў абодвух палоў імкліва завязваюцца любоўныя трохкутнікі і нават простакутнікі. У канцы ўсе паміраюць.

У мінскіх «Паяцах» шмат гумару, бурлеску, вынаходлівасці і парадыйнага кічу. Па антуражы гэта штосьці сярэдняе паміж рэпартажам з гастроляў Алы Пугачовай і Філіпа Кіркорава ды экстравагантнай італьянскай кінакамедыяй 1980-х. Звычайна параўнанне оперы з аперэтай — абраза для стваральнікаў першай, але ў дадзеным выпадку, відаць, менавіта такога эфекту пры пастаноўцы «Паяцаў» і дамагаліся. Апроч таго, нам паказваюць закулісcе сучаснага тэатру — усіх гэтых асістэнтаў з гарнітурай, рабочых сцэны ў касках і маленькіх танцорак за балетным станком. Часам нават здаецца, што гэтага тэатральнага натоўпу на сцэне аж занадта, але сам ход адразу падкупляе і выклікае сімпатыю.

Гэтая пастаноўка, як ніякая іншая ў рэпертуары Опернага, будзе карыстацца заслужаным поспехам у масавага гледача, што, улічваючы ідэалы эпохі Леанкавала, можна лічыць аднаўленнем гістарычнай справядлівасці. Апроч усяго іншага — опера і яе выкананне захапляюць. І варта парадавацца таму, што спектакль даволі хутка акупіцца: узнаўляючы «тэатр у тэатры», на падмостках іранічна абыгралі рэквізіт іншых опер, якія ідуць на той жа сцэне, так што прынамсі на дэкарацыі траціцца не давялося.

**Не менш цікавай была і прэм'ера «Матухны Кураж...» у выкананні тэатра «Ч». Рэцэнзію на спектакль можна прачытаць на нашым сайце novychas.info**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 126

Падпісана да друку 30.01.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.